УДК 82.09+929(476)=161.3
ББК 83(4Беі)
А93

**Аўсяннікава, Т.П.**
А93 Дзве постаці: Ніл Гілевіч, Яўгенія Янішчыц/ Т. Аўсяннікава. – Мінск : Выд.В.Хурсік, 2021. – 238 с; фота; генеал. табліца Я. Янішчыц.
ISBN 978-985-7219-26-1

У кнігу ўвайшлі артыкулы розных гадоў аб творчасці Ніла Гілевіча і Яўгеніі Янішчыц, кожны з якіх прасякнуты павагай і любоўю да паэтаў, імкненнем спасцігнуць іх лёс і творчы шлях.

У выданне ўключаны вершы-прысвячэнні, дзённікавыя запісы з Нілам Гілевічам, успаміны пра Яўгенію Янішчыц і яе радаводы.

**УДК 82.09+929(476)=161.3**
**ББК 83(4Беі)**



ISBN 978-985-7219-26-1
9 789857 219261



*І ўсё ж мы дойдзем,*
*дойдзем мы да Беларусі!*

## МАЛІТВА

Божа літасцівы!
Прашу цябе,
дапамажы Нілу Сымонавічу,
Тваёй ласкаю дабраславёнаму
на справы праведныя.
Дай яму сілу сказаць Тваё слова.
Дыхні на яго лагодным ветрыкам,
каб і яму лягчэй дыхалася.
Сагрэй яго баляшчыя рукі
сонечнымі праменьчыкамі,
каб яму яшчэ пісалася.
Прыкладзі да ног яго
зёлкі лясоў Тваіх,
каб яго ножанькі хадзілі.
Напоўні сэрца яго радасцю
і дай нам магчымасць
чуць яго і бачыць
яшчэ многа гадоў.
У імя Айца і Сына
І Святага Духа,
Амін!

*2008 г.*

## «МНЕ СТОЛЬКІ ХОЧАЦЦА ТАБЕ СКАЗАЦЬ...»[1]

Мне столькі хочацца табе сказаць,
Як бы яшчэ я не казаў нічога –
І слоўца нават аднаго-другога
Не вымавіў, каб споведзь распачаць.

*Ніл Гілевіч*

У часопісе «Роднае слова» за 2006 год (№ № 6, 7, 9) былі надрукаваны штрыхі да партрэта Ніны Іванаўны Гілевіч пад назвай «Добры анёл беларускасці». У канцы 2007 года свет убачыла кніга з такой жа назвай, дапоўненая Нілам Гілевічам яшчэ чатырма аповедамі: «Яе разуменне сяброўства», «Кнігі “пад рукою”», «Што шукала і знаходзіла ў часопісах?», «Яе любімыя пісьменнікі». Замест прадмовы пададзены ўспаміны калег, сяброў, вучняў.

Прыцягвае ўвагу ўжо сама назва кнігі «Добры анёл беларускасці»[2], якая аб’яднала пад сваімі крыламі асноўныя рысы характару Ніны Іванаўны і значныя бакі яе дзейнасці. Словы Васіля Быкава, узятыя з яго аўтографа, вельмі трапныя: «*Мілай Ніне Іванаўне Гілевіч, добраму ангелу беларускасці, са шчырасцю і павагай В. Быкаў. 4.V.85*».

Мне пашчасціла атрымаць у падарунак гэтую кнігу ад самога аўтара, я прачытала яе з вялікім хваляваннем. Нахлынулі ўспаміны пра студэнцкія гады (1966–1971). На філфаку БДУ ў той час хадзіла легенда аб нейкай аднакурсніцы Ніла Гілевіча (імя і прозвішча ніхто дакладна не ведаў), якая працуе настаўніцай

недзе на Віцебшчыне і якую паэт моцна кахае. Значна пазней я даведалася, што Ніна Іванаўна і настаўніца з Віцебшчыны – гэта адна і тая ж асоба. Мне, вясковай дзяўчыне, да вучобы не даводзілася бачыць ні паэтаў, ні празаікаў, ні тым больш іх жонак. Міжволі я іх абагаўляла, нават не магла ўявіць, якой жа павінна быць жанчына, што стане Музай і жонкай паэта.

Блізкіх стасункаў у час вучобы ў мяне з Нінай Іванаўнай не было, але я ўжо слухала лекцыі Ніла Сымонавіча Гілевіча, які ўразіў мяне сваёй маналітнасцю, тэмбрам голасу, манерай гаварыць і смеласцю ў выказванні думак: ад яго мы чулі тое, чаго не маглі нідзе прачытаць. Ён быў адкрытым і духоўна багатым чалавекам, з павагай ставіўся да кожнага студэнта, звяртаючыся на «Вы». Усё гэта рабіла яго яшчэ больш загадкавым і недасягальным, а патрабаванні да Музы больш высокімі.

На першы прыдзірлівы погляд Ніну Іванаўну нельга было назваць красуняй: звычайнае аблічча, сярэдні рост. Вось толькі падкрэслена акуратна і з вялікім густам яна апраналася і прычэсвала свае светлыя валасы, ды ў манеры трымацца адчувалася пачуццё асабістай годнасці. Гэтым яна выгадна выдзялялася сярод жанчын-выкладчыкаў. На наша здзіўленне, былі і такія, што, як кажа народная мудрасць, «апусцілася, як панчоха без падвязкі». Ніна Іванаўна ніколі за час сямейнага жыцця нават ценю не кінула на свайго мужа, таму што яна адпавядала яму, была вартай яго, разумела, хто з ёю побач, і таму што ўмела кахаць так, як не кожнаму дадзена. Старонка за старонкай і знешні воблік Ніны Іванаўны пачаў ажываць. Вось яна выпускніца Шумілінскай сярэдняй школы і абітурыентка БДУ. Вось ужо студэнтка і аднакурсніца маладога паэта, чыю ўвагу да сябе прыцягнула адносінамі да вучобы, потым нечаканым «дробным хуліганствам»,

своеасаблівым смехам і акцёрскай імправізацыяй. Аўтар адзначае, што *«яна высока цаніла ў людзях пачуццё гумару і шкадавала тых, каго Бог абдзяліў гэтай цудоўнай чалавечай якасцю»*. Тут погляды маладых людзей супадаюць. У вершы Ніла Сымонавіча «Дарыце сонца» ёсць такія радкі:

Шкадую людзей,
  што не ўмеюць смяяцца,
Што ў сэрцы
  не маюць такога багацця.
Баюся людзей,
  што смяяцца не любяць
І ўсмешку чужую
  спаткаўшы загубяць…

Вельмі хвалююць старонкі, дзе аўтар распавядае пра адносіны Ніны Іванаўны да роднага слова: *«Трэба было бачыць, як яна радавалася "знаходцы" – лексічнай, ці фразеалагічнай, ці сінтаксічнай "моўнай жывінцы" ў тэкстах, запісаных студэнтамі. Многія з іх яна адразу ж уключала ў свой актыўны слоўнік. Гэтак жа і ў дачыненні да тэкстаў беларускай мастацкай літаратуры»*. *«Таму і чытала,* – гаворыць аўтар, – *толькі з алоўкам у руцэ»*.

Яе любімымі творамі былі «Мёртвыя душы» і «Рэвізор» М.Гогаля, «Яўгеній Анегін» А. Пушкіна, «Гора ад розуму» А. Грыбаедава, аповесці і апавяданні А. Чэхава. Любіла творы В.Шукшына, Ю.Казакова, В.Астаф'ева, У.Салавухіна, В.Распуціна, В.Бялова, Я. Носава, А.Твардоўскага, Г.Ахматавай. *«Зразумела, што першым і галоўным прадметам яе чытацкай і прафесійнай цікавасці,* – піша Н.С.Гілевіч, – *была родная беларуская літаратура. І класіка, і сучасная»*. Ніна Іванаўна перачытвала Коласа, Купалу, Чорнага, Мак-

сіма Гарэцкага. Любіла раманы Мележа, Караткевіча, Адамчыка, апавяданні Лынькова, Пташнікава, Брыля. *Любіла за тое, «што "купалася", як у чыстай крынічнай вадзе, у іх мове».*

Набягалі слёзы пры чытанні аповедаў «Настаўнік», «Роднае слова», «Покліч крэўнасці», «Культ сям'і», «Яе разуменне сяброўства», асабліва «Дарагі мой Ніл!»

Адносіны да Ніны Іванаўны Васіля Быкава, Міхася Забэйды-Суміцкага, самога аўтара дапамагаюць убачыць і таленавітага выкладчыка, і вучонага, і Мадонну з дзіцём, і «добрага анёла беларускасці», і не толькі Музу, але і дарадчыка. Яе стрыманасць і немнагаслоўнасць гавораць пра сапраўдныя пачуцці, сапраўднае каханне. Ніна Іванаўна была непадзельнай палавінай паэта.

Гэтай кнігай паэт выказаў павагу і любоў да сваёй спадарожніцы і дарадчыцы, да аднадумцы ў справе змагання за беларускасць і нацыянальную годнасць.

Гэта кніга – пакаянне за няўважлівасць да сваіх каханых у мітусні часу, за жыццёвыя памылкі, якія ёсць у кожнага.

Гэта кніга – помнік усім тым высакародным жанчынам, якім не паспелі сказаць словы ўдзячнасці і словы прабачэння.

Гэта кніга – залатая кіфара Арфея, з якой льецца шчырая песня. Душа Эўрыдыкі пачуе, не можа не пачуць свайго Арфея.

[1]*Роднае слова. – 2008. – № 5. – С. 14 – 15.*

[2]*Гілевіч, Н.С. Добры анёл беларускасці: Штрыхі да партрэта Ніны Іванаўны Гілевіч / Ніл Гілевіч. – Мінск : Про Хрысто, 2007. – 144 с.*

## РАЗМОВА З ПАМЯЦЦЮ[1]

Што ты мучаеш, памяць, мяне –
Так бязлітасна, так неадчэпна?
*Ніл Гілевіч*

Кніжка паэзіі Ніла Гілевіча «У ноч на Пакровы»[2], якая выйшла ў чэрвені 2008 года, ёсць трывожная памяць народнага паэта за лёс Беларусі, беларускай мовы і культуры. Паэта, які "адплаціў народу", чым моц яго магла, не пакідае пачуццё віны:

Вось і холад. Скора снег
сцежкі зацярусіць.
А чаму чуццё віны
точыць – не здаўмею.
Што я мог, ды не зрабіў
дзеля Беларусі?
Божа моцны, падкажы –
мо яшчэ паспею…
*«У ноч на Пакровы»*

Як і заўжды, грамадзянскі голас аўтара гучыць "трывожна, бунтарна, зазыўна", як «Сурма Пузыні», з адметнай лірычнасцю і філасофскім сэнсам, як «Беларуская пастараль»: «Думамі высокімі // Між жывых жыві. // (А ў каго ж усё-такі // Рукі… у крыві?)».

Не пакідаюць абыякавымі вершы публіцыстычнага характару: «Трое маладых», «У дзень найвялікшага свята», «Жахліва», «Да расправы над Інстытутам літаратуры ў НАНБ», «І хочам…», «Даруй, Гасподзь…», «Зварот», «Па загадзе беларусажэрцаў. Памяці Ф.Аляхновіча», «За што? І – дакуль?», «І будзем…», «Розніца», «Даруйце, мае дарагія», «Мара-

дзёры», асабліва «Мая дзіцячая рэпліка з гадоў акупацыі да ўчарашняй дыскусіі мужоў сталых»:

> Напярэдадні Дня Перамогі
> у гэтым, 2007-м,
> знаўцы гісторыі нашай
> дыскусію распачалі –
> у свабодным эфіры:
> ці справядлівай ці несправядлівай
> была барацьба беларусаў
> супроць акупантаў нямецкіх?

Такое пытанне для Ніла Гілевіча гучыць абразліва, жахліва. Ён адчуў сябе тым бездапаможным адзінаццацігадовым хлапчуком, якім ён быў у сярэдзіне ліпеня сорак трэцяга, у твар якому «глядзіць // чорным колцам бліскучым // сталёвае дула. // Я хачу падхапіцца, // а сілы няма, і ад жаху // крычу безгалоса: // “Дзядзечкі! Міленькія! // Вы пра што тарарэкаеце? // Пра якую – // такую і гэткую – праўду?”» Кадры ваеннага дзяцінства і сённяшняй рэальнасці, нібы кіношныя, недарэчна перамяшаліся.

> Наіўны хлапчук быў.
> Таму і крычаў:
> ну а раптам пачуюць?
> А раптам пачуюць і ўспомняць
> пра суд у Нюрнбергу?..

Балюча ўсведамляць, што не пачулі. На жаль, такіх момантаў у жыцці народнага паэта Беларусі многа. Ніл Сымонавіч мне аднойчы са скрухай распавядаў, як яго запрашалі на сустрэчы, а потым званілі і адмянялі іх, спасылаючыся на недарэчныя прычыны. Вось аб такіх запрашэннях аўтар піша ў вершы «Аповед пра трубу», які заканчвае радкамі:

Мае чытачы дарагія,
мае аднаверцы,
я вельмі вас вельмі прашу:
не клічце мяне
да сябе на сустрэчу, сябры,
не вярэдзьце душу.
Чытайце – пакуль дзікуны
не пакідалі ў вогнішча –
кнігі і кніжкі мае.
Пасля і сустрэчы прадоўжым.
Прадоўжым!
Час прыйдзе.
Наступіць.
Ужо настае.

Паэт верыць, што такі час настане, і тады:

Расхмарыцца,
сыдзе-сплыве за далёкі,
сляпы і глухі небасхіл
чорная навісь,
і выблісне сонца,
пасля – і зусім распагодзіцца,
і будуць
пазумкваць вясёлыя пчолкі
і лянотна-паважна пагудваць
у тон ім чмялі, –
на нашай,
усё яшчэ ў красках і зёлках,
зямлі!

*«Расхмарыцца»*

Шчырую любоў і пашану выказвае аўтар украінскаму народу і вялікаму паэту Украіны Тарасу Шаўчэнку ў «Слове з нагоды атрымання ордэна князя

Ярaслава Мудрага». Дзякуючы «Садку вішнёваму каля хаты» вялікага Кабзара Ніл Гілевіч напісаў свой першы верш. У кватэры паэта ёсць месца, якое ён называе іканастазам. Побач з партрэтамі Купалы, Коласа, Багдановіча – партрэт і Шаўчэнкі. Такую ж любоў мы адчуваем і ў «Юбілейным пасланні» Найдзену Вылчаву, балгарскаму паэту і перакладчыку, вялікаму сябру Беларусі і беларускай літаратуры, які напісаў сваім сынам Уладзіміру і Самуілу запавет:

«Заклінаю вас:
Не будзьце хілымі!
І пад небам роднай староны
Толькі
Перад брацкімі магіламі
На калені падайце, сыны!»

Гэты запавет вельмі блізкі аўтару, яго грамадзянскай пазіцыі. Паэтаў зрадніла тая высокая місія, якую яны выконваюць па прапагандзе літаратур.

І любоўю… О, мой пабрацім!
Як і ты, з любові я не выбыў.
Нават трохі ганаруся тым,
Што спрычыніў твой любоўны выбар,

Што пасобіў далучыць цябе –
Дар твой светлы, позірк галубіны
Да паўсталага ў тузе-журбе
Слова вешчага маёй краіны.

У «Баладзе пра рогат пераможцы на бойным полі пад Шэгешварам 31 ліпеня 1849 года» лірычны герой і сам аўтар разам з угорскім паэтам, “расхрыстаным, голагаловым” маёрам, уцякаюць ад “двухжыльнага казака-вусача”:

Не дабяжыць, нябога.
Выдахся, змогся ўшчэнт.
Вось-вось разарвецца сэрца.
І ўсё ж бяжыць яшчэ.

Ды ўжо зусім за плячыма –
Раз'юшаны конскі храп.
І ён павярнуўся тварам
Да смерці. Не ў спіну каб…

Тады, тузануўшы повад,
Вусач асадзіў каня.
І выбухнуў страшны рогат
На сонечным схіле дня.

Пачуццё асабістай годнасці дае кожнаму чалавеку сілу. І вось такую сілу ўбачыў вораг у вачах паэта Шандара Пецёфі і не вытрымаў: «… скалануўся ў жаху // І – пікай пырнуў з пляча». У гэтай сітуацыі мацнейшы духам аказаўся паэт, нягледзячы на смерць.

У вершы «Аб рыфме "свабоду – народу"» паэт дае параду наватарам у паэзіі:

У нашай паэзіі
Самая моцная рыфма –
Тая, што з сэрца,
Якое ад болю ахрыпла.

Лірычны герой верша «Браканьер», у якім лёгка ўгадваецца сам аўтар, «жыў з мазаля», «У раскошу не пнуўся. // І дажыў да гадоў, калі час // азірнуцца. І ён азірнуўся»:

А татулькі-матулькі мае!
Ажно страшна самому паверыць:

як ён мог так бяздарна свой век
змарнаваць, спуставаць, збраканьерыць?

Тое ўсё, чым штодзённа жывуць
і чым цешацца ў свеце паэты –
абышло, абмінула яго
як не вартага радасцяў гэтых.

Паэт іранізіруе з сябе, але не шкадуе, што жыццё прайшло так.

Дзіўны лёсу свайго браканьер!
Недарэка. Ды нават і рэдкі.
У свяцілішчы нашых пісьмён –
шмат няцэпкіх. Хай будзе і гэткі.

Аўтар усёй сваёй дзейнасцю і творчасцю імкнуўся спасцігнуць праўду жыцця:

Чым больш я на свеце і жыў і мадзеў –
ішачыў, цярпеў і змагаўся, –
тым болей да праўды дабрацца хацеў,
да праўды ўсім духам іўраўся.

І што ж дала праўда?

І вось яна ўрэшце адкрылася мне –
ні чым не прыкрытай паўстала.
У поўнай істоце. Ва ўсёй галізне…
…І праўда мяне зруйнавала.

Ніл Сымонавіч – шматгранны паэт. Яго паэзія мае сваю непаўторную адметнасць стылю і мовы. Тэматыка лірыкі шырокая. Дапытлівае вока заўважае ўсё. У вершы «Даўні запіс пра Арменію» аўтар з замілаван-

нем гаворыць аб адносінах да дзяцей у гэтай краіне: «усе да малых прамаўляюць тут толькі з любоўю».

Ды не такою, як мы да сваіх
прамаўляем звычайна –
не нервовай, не воклічнай,
не павучальнай,
а якойсьці, якойсьці…
не ведаю, як і сказаць…
галубінагалосай.

Ніл Гілевіч – майстар сатырачнага верша. У «Баеччы пра грыб» і «Не выйдзе, лірычная мышка, нічога не выйдзе» аўтар высмейвае літаратараў-прыстасаванцаў. Лірыка "з нявострым ад роду пяром", які паўвека ціха прасядзеў "пад венікам ці памялом", аўтар трапна параўноўвае з мышкай. Не па душы аўтару і тыя з пісьменнікаў, хто здрадзіў роднай мове:

«Я ўжо, хлопцы, не пісьменнік!
Я ўжо, хлопчыкі, пісацель!»

У вершы «Па звычцы» паэт спрабуе жартаваць са сваёй хваробы, але боль перамагае:

Жартую – па звычцы. Трывога ж расце
не жартам. Бяда прагрэсуе.
Няўжо дажывуся, калі па лісце
і пёрка рука не пасуне?

Нягледзячы на тое, што на творчым шляху паэта сустракалася многа "дабрадзеяў", паэт у вершы «І я дарую вам…» шчыра піша:

Ну, што ж! Нам іншай долі Бог не даў.
Такія мы. Але й на ўздых апошні
Я цвердзіць буду, хто б ні спавядаў:
Усякі быў мой верш, але не пошлы.

Яго мне вера ўберагла мая.
Таму і ведаю, чыёю воляй
Я мушу ўсім вам даравáць. І я
Дарую вам. «А болей? Што ж вам болей?..»

Ёсць у жыцці аўтара і моманты радасці. Гэта і «майстар-маг Віктар Казько» (верш «Дзякуй, брат!»), і музыка (верш «Грае Ірына Шуміліна»), і пеўчыя гурты (верш «Ветрык» і «Менка»), і выхад першых нумароў «Літаратурнай Беларусі» (верш «Вера і вернасць. Сіла і моц»).

Глыбока кранаюць сваёй нязмушанай шчырасцю і лірычнасцю вершы «Глыток з дзедавай студні», «Маўчанне каля занядбаных магіл», «Даруй, Гасподзь…», «Санет беларускаму мёду», «Пра порткі», а таксама вершы, прысвечаныя каханай, Ніне Іванаўне: «Для чаго ты іх мне падарыла», «Дзіўнае штосьці»:

…дзіўнае штосьць
адчуваю я ўсёю істотаю…
………………………………..
Быццам бы, быццам, нарэшце,
і скончыцца наша расстанне-разлука.
Скончыцца гэтая
наканаваная мне
неадкупная мука.

У вершы «Згадка пра паланез» мы разам з паэтам сумуем ад таго, што больш ніколі не прыйдзецца яму слухаць «Паланез» Агінскага са сваёй каханай:

Не перанесці…
Не вытрываць…
Сэрца заходзіцца. Млее ў грудзёх.
Сілы, здаецца, пакінуць вось-вось,
і ператнецца дыханне…
Як жа так сталася?
Як жа так сталася, што без цябе
слухаю гэтую боскую музыку?
Сам. Без цябе.
Тваё крэсла пустуе.

У вершы «Наша з табою» ўспамін «светлай згадкаю», «болем удзячнасці лёсу праз сэрца праходзіць»:

Болем, але не пакутным,
А толькі салодка-шчымлівым.
Болем, які мне гаворыць,
Што быў я папраўдзе шчаслівым.

У аўтара ёсць абавязак перад каханай, які ён мае намер выканаць:

Калі, дасць Бог, для памяці тваёй
яшчэ зраблю я тое, што хачу –
без крыўд сыду на вечны супакой
і перад лікам Маці Прасвятой
апошні раз удзячна памаўчу.

Ніл Гілевіч заўсёды быў і застаецца верным абранаму шляху:

З чаго пачаў калісь, тым і канчаю.
Пакуль пяро не выпала з рукі –
Табе, народзе мой, я прысвячаю
І самыя апошнія радкі.

Жыві! Працуй! Твары свой лёс уласны!
Сам, сам сабе дарогу пракладай!
І слова роднае як дзень свой ясны
Да скону свету пагасіць не дай!

*[1]Наша слова. – 2009. – 16 верасня (№ 37/928). – С. 2.*

*[2]Гілевіч, Н.С. У ноч на Пакровы: новыя вершы / Ніл Гілевіч. – Мінск : Кнігазбор, 2008. – 88 с.*

## САМАЦВЕТЫ МОВЫ БЕЛАРУСКАЙ[1]

А на шыі Божай Маці пацеркі –
З самацветаў мовы беларускай.
*Ніл Гілевіч*

Напрыканцы 2011 года ўбачыла свет новая кніга паэзіі Ніла Гілевіча «Пацеркі Божай маці»[2]. Верш, які паслужыў назвай для кнігі, стаў той чырвонай нітачкай, на якую аўтар нанізаў усе паэтычныя творы гэтага зборніка, дзе кожны верш – своеасаблівы самацвет беларускай мовы. Самы буйны самацвет, што аздобіў пацеркі Божай Маці, – паэма «Споведзь крывічанкі».

Нельга не адзначыць і работу мастака Ігара Гардзіёнка. Далікатна і з мастацкім густам зроблена афармленне кнігі. Ужо сама вокладка з выявай Божай Маці прыцягвае ўвагу, падрыхтоўвае чытача.

Кнігу адкрывае «Дыфірамб доўгачаканаму дажджу». Аўтар з уласцівым яму майстэрствам стварае маляўнічую і разам з тым музыкальную карціну дажджу праз прызму адносін лірычнага героя да гэтай з'явы. Мы бачым дождж яго вачыма. Верш уяўляе сабою ўзор высокай паэзіі, па сіле ўздзеяння роўны творам Цютчава і Фета. Чым жа так вабіць верш? Перш за ўсё эмацыянальным настроем і збаланса-

ванасцю адносін чалавека і прыроды. Форма і змест таксама ў згодзе. Астрафічнасць верша, традыцыйны чатырохстопны ямб, адметнасць аўтарскай мовы, яе вобразнасць, сінтаксіс і лексіка – усё працуе на змест. Твор можна падзяліць на тры ўмоўныя часткі. У першай – музычная дынаміка ад фортэ да піяна.

Спярша вятрыска наляцеў,
Тугою хваляй шугануў,
Лісцём асін зашалясцеў,
Дубам чупрыны ўстрапянуў
І ўлёгся ўміг, і лес заціх,
Як бы дыханне затаіў…

Другая частка пачынаецца з піяна і паступова пераходзіць у фортэ:

І вось, і вось – закапаў дождж,
Зашапацеў, загаманіў,
Усё спарней, мацней, гучней
Ягоны важкі, роўны шум
Увесь прастор запаланіў…

І далей – усё, што «гняло душу» лірычнаму герою, «няўзнак сышло, як не было», яго сэрца ачышчаецца дажджом: «Як уваскрэслы, я гляджу // У вочы боскія дажджу».

Сэрца лірычнага героя напаўняецца радасцю, і ў трэцяй, заключнай, частцы верша ён выгукае:

Паі, напойвай, абмывай
Усю зямлю, увесь наш край,
Увесь – наўсцяж,
Увесь – суздром…

Экспрэсія пачуццяў дасягнула, здавалася б, найвышэйшай кропкі, але лірычнаму герою для поўнага шчасця не хапае грому: «Ах, каб яшчэ дый грымнуў гром!»

Уражвае і верш «Пасланне мяккага знака акадэміку N»: «Я той у мове, з кім не зманіць // Ніводзін, мне падлеглы гук». Сапраўды, адсутнасць мяккага знака калечыць «крывіцкай мовы прыгажосць»:

Ёй без мяне нішто няўцешна:
І свет не сьвет, і снег не сьнег.
І песня ўжо не наша песьня,
І смех ужо не наскі сьмех.

Абмежаванне мяккага знака ў законных яго правах паўплывала і на маўленне – страцілася ўласцівая нашай мове мяккасць.

Той самы ў мове зьмест нібыта,
Агульны сэнс таксама той.
А дзе душа? Душа забіта.
Бо я і быў яго душой.

У вершах «Санет філолагам», «У Беларусі…», «Браты! Пачуйце!», «Гаварыце праўду, беларусы!», «Ну што, беларусы?», «Пацеркі Божай Маці», «Як мала…» Ніл Гілевіч верны сваёй грамадзянскай пазіцыі: ён працягвае заклікаць нас берагчы сваю мову, «штодзённа, нястомна, упарта // За беларускую мову змагацца», як робяць «нашы браты на Балканах славенцы». Паэт скрушна заўважае:

Як мала
за мову зямлі беларускай
пакутнікаў!

Як многа
ахвочых па ёй патаптацца
паскуднікаў!

«Песня валанцёра» – гэта нам напамінак быць міласэрнымі, не забываць пра абяздоленых, пра тых, хто чакае дапамогі. Дэвіз валанцёра: «Не запазніся памагчы!» Адметная рыса характару гучыць рэфрэнам:

Бяздушна я не абыду
Таго, хто трапіў у бяду,
Каго ў жыцці спасцігла гора.

Свае адносіны выказаў паэт да «Святога, Вялікага дня» – Дня Перамогі – у аднайменным вершы. На думку аўтара, адзначаць яго трэба «…не бакальнай // Шыпучай пенай да краёў – // Пад гром фанфар, // Пад асляпляльны // Бляск юбілейных медалёў», а так, «як просяць душы ўсіх Палеглых». А душы просяць «каленаўклоннай цішыні».

У вершы «Спыталі мужчыну», прысвечаным Яўгену Стасевічу, вызначаны жыццёвыя прыярытэты не толькі лірычнага героя, але і самога аўтара. Лірычны герой на пытанне: «Скажы нам: а чым ты ў жыцці даражыў, // Як божай любоўю праўдзівай?» адказаў: «Сям'ёю. Сябрамі. Радзімай», бо «сям'я, і сябры, і Радзіма» былі яму апорай у «смутку-журбе». І ў «святлістага шчасця гадзіну» мужчына ўспамінаў «Сям'ю. І сяброў. І Радзіму». І апошні паклон ён аддасць «Сям'і. І Сябрам. І Радзіме». Бясспрэчна, што, калі ў чалавека добрая сям'я, сапраўдныя сябры, тады ён больш карысці прынясе і Радзіме.

З уласцівым аўтару гумарам напісаны вершы: «Эпоха і народ», «Засцеражы, Божа». Паэту «ноч у ноч»

сняцца «зычлівыя, любыя, дарагія». Ён ужо перасніў усіх сяброў!.. А што далей? А далей – бяссонніца. Аўтар звяртаецца да Бога з просьбаю:

Божа правы, Божа мілы, Божа родненькі,
Упільнуй, малю Цябе, засцеражы,
Каб хацяне сталі сніцца мне нягоднікі.

У вершах «У белай палаце», «І я жыву…» мы адчуваем «незагойны» боль і «нескончоны» смутак паэта ад страты спадарожніцы жыцця, каханай. Адчуваем вялікую павагу да яе і ўдзячнасць аўтара.

І я жыву…
Жыву таму, што знаю:
Усе мае грахі перад табой
Перамагла і на парозе раю
Не ўспомніла пра іх твая любоў.

Усяго пяць радкоў вольнага ямба. А за імі так многа: і каханне, і драма, і высакароднасць. Вось дзе сіла майстэрства! На мой погляд, верш адпавядае кітайскаму эталону мастацтва: «Ужо павыбраны ўсе словы, а думкі звыш краёў». Менавіта на такіх творах трэба вучыцца маладым паэтам. Па словах аўтара, гэты верш з'яўляецца эпіграфам да паэмы «Споведзь крывічанкі». У паэме створаны чысты, нічым не заплямнены вобраз беларускі, якая не адступае ад сваіх маральных прынцыпаў, захоўвае жаноцкую годнасць у складаных жыццёвых абставінах. Яна знаходзіць у сабе сілы жыць дзеля дачкі і навучыць яе разумець:

Якое вялікае шчасце –
Мець годнасць крывіцкую,
Волю крывіцкую мець.

Паэтычныя пацеркі Ніл Гілевіч завяршае чатырохрадкоўем пад назвай «Эпілог» (Да збору твораў у 23-х тамах):

Ну, вось і ўсё! «На гэта звалі».
Што меў зрабіць – зрабіў як мог.
Ці ўсё па-боску, па прызванні?
Пра гэта знае толькі Бог.

*[1]Наша слова. – 2011. – 21 снежня (№ 51/ 1046). – С. 7.*

*[2]Гілевіч, Н.С. Пацеркі Божай Маці : Лірыка : 2009 – 2010 / Ніл Гілевіч; мастак Ігар Гардзіёнак. – Мінск : Про Хрысто, 2011. – 44 с.*

## З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ, ДАРАГІ НІЛ СЫМОНАВІЧ!

### 1. «Вера ў слова матчына»[1]

Ніл Гілевіч – асоба шматгранная і шматвектарная: паэт, празаік, драматург, публіцыст, фальклярыст, даследчык, славяніст, перакладчык, вучоны, педагог, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, асветнік. І ў кожным з гэтых накірункаў ён змог сказаць сваё важкае слова.

Аднаго разу ў размове народны паэт Беларусі Ніл Сымонавіч Гілевіч, якому 30 верасня спаўняецца 80 гадоў, сказаў: «*Я з тых славян, з тым менталітэтам, хто жыве сэрцам*». Так, Ніл Сымонавіч і ў жыцці, і ў творчасці жыве сэрцам, таму і сэрца чытача яму адгукаецца. Хіба можа яно не адгукнуцца на такія вершы, як «Я хаджу, закаханы у твае краявіды», «Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы», «Палыновая ростань», «На высокім алтары», «Мне столькі хочацца табе ска-

зацьы», «Дарыце сонца», «Малітва», «Сонца ў азерцы», «І ўсё-такі дойдзем!..» і г.д., і г.д… Сваё паэтычнае крэда паэт вызначыў у чатырох радках:

Над формай трэба мець уладу.
Таму й гляджу, каб быў мой верш,
Як хата, зрубленая «ў лапу»,
Дзе – ні вянца не разарвеш!

Адметнасць паэзіі і ўсёй творчасці Ніла Гілевіча складаюць перш за ўсё мова (лексіка, сінтаксіс, фразеалогія), яе самабытнасць, дакладнасць і паэтычнае хараство; па-другое, шчырасць душы паэта, яго глыбокая любоў да Бацькаўшчыны і вялікая павага да яе гістарычнага мінулага; па-трэцяе, майстэрства і пачуццё мастацкага густу: «Усякі быў мой верш, але не пошлы».

У лірыцы Ніл Гілевіч – народны пясняр і мысліцель, у публіцыстыцы – няўтольны трыбун, у сатыры – непрымірымы выкрывальнік чалавечых заган і сацыяльных хібаў. Ён – асоба настолькі маштабная, што пісаць аб ім – усё роўна што імкнуцца «абняць неабдымнае». Ды і сказаць пра Ніла Сымонавіча лепш, чым гавораць аб ім яго творы і дзейнасць, наўрад ці можна. Плённая праца на працягу 64 гадоў, калі адлік весці з часу напісання верша «Першая клятва» (1947), дае нам права называць Ніла Гілевіча Асветнікам. Уладзімір Конан не без падставы лічыць гэты верш «Клятвай на вернасць Роднаму Слову», бачыць у ім «пераклічку з тастаментам Францішка Скарыны ў прадмове да выдадзенай ім на роднай мове кнігі Псалтыр – «к пожитку посполитого доброго, наболей с тае причины, иже мя милостивый Бог с того языка на свет пустил».

Ніл Гілевіч прыйшоў на зямлю «не нахлебнікам», а каб быць карысным народу і Бацькаўшчыне:

Люблю цябе, жыццё, любоўю кроўнай.
Я не нахлебнік твой. Я на зямлю
Не для таго прыйшоў, каб жменяй поўнай
Уцехі браць. Я – аддаваць люблю.

Для народнага паэта Беларусі, няўтольнага рупліўца на ніве адраджэння беларушчыны, «самае набалелае» – гэта становішча, у якім апынулася беларуская мова. Яго погляды і дзейнасць на працягу амаль 50 гадоў раздзяляла і падтрымлівала Ніна Іванаўна Гілевіч, спадарожніца, дарадчыца, Муза паэта і берагіня сям'і. Нездарма ж Васіль Быкаў назваў яе "добрым анёлам беларускасці". Ніна Іванаўна – выдатны педагог, асветнік, мовазнаўца, даследчык лексікі, фразеалогіі, дыялекталогіі, стылістыкі і культуры беларускай мовы. Цяжкая хвароба забрала яе некалькі гадоў таму. 2 чэрвеня было б 80 гадоў з дня нараджэня Ніны Іванаўны. Ніл Сымонавіч цяжка перажывае няўцешную страту. Нельга без хвалявання чытаць вершы, прысвечаныя вернай спадарожніцы, каханай. Узгадаю адзін з кнігі «На флейце самоты»:

Дзе ты, куды ты
Гэтак далёка пайшла,
Што не прыходзіш?
Вочы прагледзеў – няма.
Слухаю ціш – не чутно.

У асобе Ніла Гілевіча спалучаюцца «рэнесансная шматграннасць інтэлекту, адданасць сваёй Бацькаўшчыне» (Уладзімір Конан) з трапяткім, шчырым, нераўнадушным сэрцам, якое заходзіцца ад болю, калі ён думае пра лёс роднай беларускай мовы, мовы чыстай і мілагучнай, бы крынічная вада ў студні, якой наталялі смагу нашы продкі. Ужо ў першай кнізе «Песня ў

дарогу» (1957) Ніл Гілевіч раіў творцам (праз вобраз сябра) браць «…натхненне ў народзе – // Там, дзе не выбераш яго!» (верш «Калодзеж»), а чытача заклікаў браць з сабою песню – духоўны набытак і мастацкі скарб народа. І сёння Ніл Гілевіч не перастае заклікаць, як некалі Купала, «не цурацца роднай песні», а значыць, і роднага слова, мовы. У вершы «Спадчына», прысвечаным М.І. Забэйду-Суміцкаму, Ніл Сымонавіч гаворыць:

Я хачу зберагчы цябе,
Матчына песня,
Каб запоўніць табою
Спусцелыя душы!

А «…*зберажэнне мовы ёсць адна з умоў зберажэння народа,* – даводзіць ён нам у кнізе публіцыстыкі «Толькі мы самі» (стар. 43). – *Пакуль жыве мова – жыве і народ. Таму што не толькі народ творыць для сябе мову, але і мова фарміруе народ, аб'ядноўвае яго ў адзінацэласную гістарычную супольнасць, робіць яго нацыяй*». У хвіліны роспачы Ніла Сымонавіча ратуе «вера ў слова матчына», свеціць яму, «як белы дзень!» А нам свеціць Слова народнага паэта Беларусі.

Значнае месца ў жыцці Ніла Гілевіча займае яго выкладчыцкая дзейнасць. З кім бы з былых студэнтаў я ні сустракалася, усе з удзячнасцю ўспамінаюць яго лекцыі, помняць сілу ўздзеяння яго Слова, яго Асобы. Сярод іх перш за ўсё настаўнікі. Гілевіч верыць у сілу настаўніцтва і не аднойчы звяртаўся да яго ў прамовах і артыкулах, таму што менавіта настаўнікі і школа могуць зберагчы мову.

Самая галоўная задача юбіляра сёння – разабраць архіў, закончыць выданне збору твораў у 23-х тамах.

«*Баюся, што не паспею,* – скрушна заўважае Ніл Сымонавіч. – *Спадзяюся. Але ж… Яшчэ 8 тамоў трэба выдаць, 3 тамы гатовыя, астатнія дапрацоўваюцца. Нават каб знайшоўся дабрадзей, спонсар, я не вычытаю. Зрок у такім стане, што не дае магчымасці працаваць. Газеты сястра чытае. Паперкі разбіраю з лупаю і то толькі тыя, што буйнейшымі літарамі напісаны*».

Я пацікавілася ў Ніла Сымонавіча, што адчуваў ён, калі трымаў у руках сваю першую кнігу, адклаўшы на потым другое пытанне: аб пачуццях пры атрыманні чарговага тома сёння. Задаць яго мне не давялося. Ніл Сымонавіч сказаў, што калі трымаў у руках сваю першую кнігу, то адчуваў радасць, такую ж, пэўна, якую адчувае кожны аўтар. А вось калі ўзяў у рукі 19 том, то пацалаваў кнігу і прыціснуў да грудзей. Сапраўды, кожны том збору твораў для Ніла Сымонавіча вельмі дарагі, таму што кожны чарговы том можа быць апошнім. Паэт працуе, нягледзячы ні на што. Як і раней, спаць лажыцца далёка за поўнач. Кнігі выдае за свой кошт невялікім тыражом: па 70 асобнікаў. Гэта рарытэтнае выданне, у якім душа пісьменніка і чалавека.

Ніл Гілевіч – камертон нашага часу. Яго ўклад у беларускую літаратуру, культуру, адукацыю і навуку нельга пераацаніць. І вялікі дзякуй Нілу Сымонавічу за яго творы, за грамадзянскую пазіцыю, за тое, што «не нахлебнік», што паклаў свой талент «на высокі алтар» служэння Бацькаўшчыне, што ні разу не збочыў з абранага шляху. У вершы «З чаго пачаў калісь, тым і канчаю» Ніл Гілевіч звяртаецца да народа з заклікам:

Жыві! Працуй! Твары свой лёс уласны!
Сам, сам сабе дарогу пракладай!
І слова роднае, як дзень свой ясны,
Да скону свету пагасіць не дай!

З днём нараджэння, дарагі Ніл Сымонавіч!

*[1]Узрост вышыні: Да 80-годдзя народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча: Артыкулы, эсэ, нататкі, вершы, лісты і тэлеграмы / уклад. Гілевіч С.Н. – Мінск : Канфіда, 2012. – 264 с. – С. 129 – 134.*

## 2. «Я хаджу, закаханы у твае краявіды»[2]

Нарадзіўся народны паэт Беларусі ў вёсцы Слабада, што на Лагойшчыне, у вялікай дружнай сям'і, дзе было дзесяць дзяцей, Ніл – чацвёрты. Хлопчык цягнуўся да ведаў, любіў чытаць. У адным артыкуле ён піша: «…кніг тады, у першую пасляваенную пару, амаль зусім не было, а голад на чытанне быў страшэнны, і спаталяўся ён пераважна газетамі і часопісамі, якія прыходзілі ў нашу вясковую хату-чытальню (ЛіМ, «Звязда», «Чырвоная змена», «Калгасная праўда», «Полымя», «Беларусь», «Вожык», «Работніца і сялянка»). Усе гэтыя выданні я чытаў і перачытваў не па гадах пільна…».

Дзякуючы Тарасу Шаўчэнку і яго «Садку вішнёваму каля хаты» будучы паэт напісаў свой першы верш, а ў 1946 годзе ён, пятнаццацігадовы юнак, дэбютаваў у друку. У 1957 годзе была выдадзена першая кніга паэзіі «Песня ў дарогу», якую адкрываў верш «Песню бярыце з сабою».

Калі не жадаеце знацца ў жыцці
З назойлівай скрухай-журбою –
Куды б ні прыйшлося паехаць, пайсці, –
Песню бярыце з сабою!

Верш быў вядомы не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Яго назва стала брэндам, як сказалі б сёння, многіх музычных праектаў, радыё- і тэлеперадач.

За 65 гадоў творчай працы напісана і выдадзена кніг нямала. Гэта і мастацкія творы, і па літаратуразнаўству, і фальклорныя зборнікі, укладальнікам і навуковым рэдактарам якіх ён выступаў сам. Усё напісанае Ніл Гілевіч сістэматызуе і ўключае ў збор твораў у 23-х тамах. 15 тамоў ужо выдадзена. На жаль, у невялікім артыкуле мы не можам разгледзець шматгранную дзейнасць пісьменніка. Спынімся на адным аспекце. Пры знаёмстве з творчасцю Ніла Гілевіча перш за ўсё звяртаеш увагу на вялікую любоў да роднага краю, на «лірычнае, амаль малітоўнае ўслаўленне малой радзімы і вялікай Бацькаўшчыны» (Ул.Конан):

Край мой беларускі, край!<br>
Дай мне прыгарнуцца, дай!<br>
Да твайго ляснога<br>
Вераснога долу,<br>
Дзе так шчасця многа<br>
Выпала на долю, –<br>
Дай жа прыгарнуцца, дай!

Да гэтага верша звярталіся кампазітары І. Лучанок, М.Пятрэнка. А.Багатыроў напісаў песню для хора. Любоў да песні, народнай песні, ідзе з дзяцінства. Гучала яна ў родным доме: бацька, Сымон Пятровіч, любіў спяваць разам з дзецьмі. Даносілася песня і з хаты дзядзіны Барбары, з якою сям'я жыла на адным двары. Чулася яна і летнім адвячоркам на жніве. Можа, па гэтай прычыне Ніл Сымонавіч пачаў грунтоўна вывучаць, глыбока ўнікаць у творчасць народа. Ён добра разумее значнасць фальклора ў жыцці кожнага чалавека, асабліва творцы – гэта падмурак,

на якім стаіць прафесійная літаратура, і гэта нашая пупавіна, якой мы звязаны з мінулым.

Я хаджу, закаханы у твае краявіды,
І шапчу як прызнанне: о, мой край дарагі!
Зноў нясу табе ў споведзь і трывогі, і крыўды,
І надзеі, і ўцехі, і любоў, і грахі…

Песеннасць паэта першым адчуў заснавальнік беларускай музычнай школы кампазітар Мікалай Мікалаевіч Чуркін. Вясной 1951 г. ён напісаў музыку на адзін юнацкі верш Гілевіча. Яго Ніл Сымонавіч нідзе не друкаваў: лічыў недасканалым. Да паэзіі Ніла Гілевіча звярталіся, апрача названых ужо, кампазітары М.Аладаў, Л.Захлеўны, Э.Ханок, Э.Зарыцкі, Я.Глебаў, У.Буднік, М.Марозаў, М.Сацура, В.Сярых і наш магілёўскі кампазітар М.Яцкоў. Больш за 100 песень напісана на словы народнага паэта Беларусі. Іх выконвалі Тамара Раеўская («Край мой беларускі, край!»), «Песняры» («У тым сяле»), «Сябры» («Шлях да Беларусі», «Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы»). Вельмі ж хораша гучаць «Палыновая ростань» у выкананні Яраслава Еўдакімава, «Жаўраначка» ў выкананні Алесі. Алеся і Дзмітрый Смольскі цудоўна спяваюць «У бацькоўскім кутку». Але ж самай любімай стала песня «Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы». Простая на першы погляд, ды глыбока народная зместам і моваю. Верш напісаны амаль 50 гадоў назад. Песняй ён стаў у 1983 годзе. 28 гадоў прайшло, але й сёння яна выклікае цікавасць у новых выканаўцаў. Як жа хораша гучала песня ў выкананні хора Турэцкага на «Славянскім базары», як жа чуйна адгукалася зала! Каб зрабіць беларусам падарунак, Тота Кутуньа выбраў менавіта гэтую, любімую народам, «Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы», і выканаў яе на адным з канцэртаў у Мінску.

Паэзія Ніла Гілевіча мае цвёрды грунт, яе карані ў вуснай народнай творчасці і ў шчырай сыноўняй любові да роднага краю.

*[2]Прыдняпроўская ніва. – 2011. – 21 верасня (№ 73). – С. 7.*

*Узрост вышыні: Да 80-годдзя народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча: Артыкулы, эсэ, нататкі, вершы, лісты і тэлеграмы / уклад. Гілевіч С.Н. – Мінск : Канфіда, 2012. – 264 с. – С. 134 – 137.*

## 3. Вялікі дзякуй за тое, што Вы ёсць![3]

Напярэдадні юбілею народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча я звярнулася да людзей, мне знаёмых і незнаёмых, з пытаннем: **ці ведаеце вы, хто такі Ніл Гілевіч і як адбылося ваша знаёмства з яго творчасцю?** Мушу зазначыць, што імя Гілевіча вядома беларусам. І нават тыя, хто яго не ведае, хто зусім не цікавіцца літаратурай, песню «Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы» змаглі праспяваць, але лічылі яе народнай. Людзі старэйшага пакалення помняць «Сказ пра Лысую гару», які перадрукоўваўся, перапісваўся ад рукі і перадаваўся знаёмым. Бадай што не было такой сям'і ў Беларусі, у якой не чыталі б гэты твор. Найбольш цікавыя адказы на мае пытанні я прывяду тут.

**Ала Маскалькова**, архітэктар: «Да творчасці Ніла Гілевіча я прыйшла праз песню «Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы». Маю ўвагу на яе звярнуў муж: «Ты паслухай, паслухай, якія словы!» Паэзіяй я наогул не цікавілася. Не было з ёю ў мяне ўзаемнасці. А тут услухалася. Як жа хораша! Асабліва мяне ўразілі радкі: «Недаспелай травы» і «Я здарожыўся трохі». Гэта ж трэба так сказаць аб траве: «недаспелай». А «здарожыўся»? Не, не стаміўся, а «здарожыўся». Я схадзіла ў кніжную краму і купіла кніжку Гілевіча, якая была

на паліцы. А там – раман у вершах «Родныя дзеці» і паэмы: «Сто вузлоў памяці», «А дзе ж тая крынічанька», «Паланез Агінскага» і іншыя. Усё чыталася лёгка і з цікавасцю. І мае адносіны да паэзіі змяніліся. Я зараз успрымаю яе душою. І дзякуй вялікі за гэта Нілу Гілевічу. Яго паэзія змяніла мае адносіны і да роднай мовы, я стала карыстацца ёю».

**Святлана Станкевіч**, вучаніца: «Ніл Гілевіч – беларускі пісьменнік. З яго творчасцю яшчэ не знаёма, але мы будзем вывучаць у дзясятым ці ў адзінаццатым класе».

**Жанна Жураўлёва**, студэнтка: «Ніл Гілевіч – адзін з самых маіх любімых паэтаў. Я ў захапленні ад яго актаў, ад рамана ў вершах «Родныя дзеці». Я жадаю яму здароўя».

**Алена Асадчая**, настаўніца: «Я вучылася яшчэ ў школе, калі пачула песню «Шлях да Беларусі» ў выкананні «Сяброў». Мне вельмі яна спадабалася, але я не ведала, каму належаць словы. Потым мне трапіўся адзін томік Ніла Гілевіча, у якім быў верш «І ўсё-такі дойдзем…» Так я даведалася, на чые словы напісана песня».

**Раіса Селязнёва**, вахцёр: «З творчасцю і асобаю Ніла Гілевіча я пазнаёмілася ў перыядычных выданнях – я люблю чытаць газеты і часопісы – ведаю грамадзянскую пазіцыю Гілевіча і раздзяляю яе. Для мяне вельмі блізкая і зразумелая яго мова. Сёлета ў нас у гасцях былі амерыканцы. І ім вельмі хацелася паслухаць нашыя беларускія песні. І першая песня, якая прыйшла мне на памяць, была «Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы». Амерыканцам вельмі спадабалася – душэўная песня і ўспрымаецца як народная».

**Базыль Камароў**, мастак: «Ніла Гілевіча я бачыў на вяселлі свайго сябра (паэт выдаваў замуж сваю «родненькую пляменніцу», – *Т. А.*). Даўно гэта было.

Але мне запомнілася, як Ніл Сымонавіч сядзеў, падпёршы далоняю галаву, і раптам зацягнуў: «Ой, сівы конь бяжыць». Голас дужы і прыгожы. Я й сам люблю гэтую песню. Ужо колькі гадоў прайшло, а я часта ўспамінаю, як ён спяваў. З яго творчасцю я знаёміўся паступова».

**Аляксей Карпенка**, студэнт: «Ніл Гілевіч – гэта чалавек, на якім трымаецца беларушчына».

**Алена Цумарава**, гісторык: «З мастацкімі творамі Ніла Гілевіча я знаёма. Мне хочацца падзяліцца ўражаннямі ад 19 тома (збор твораў у 23-х тамах), дзе пададзена фалькларыстыка (песенная творчасць беларускага народа). Гэтая кніга вельмі цікавая і карысная шырокаму колу чытачоў. У ёй створаны чароўны вобраз народа-творцы. Я ўспомніла сваё дзяцінства, бабуліны калыханкі. Мне захацелася звярнуцца да тых аўтараў, на якіх спасылаецца Ніл Гілевіч. Я цалкам згодна з аўтарам, што народныя песні павінны быць важным сродкам выхавання ў школе».

Далучаюся да гэтай думкі і прыгадаю адну гісторыю сённяшняга часу. Яе мне расказала наша суайчынніца, якая выйшла замуж за галандца. І вось калі яна чакала першынца, свякруха прынесла кніжку галандскіх народных дзіцячых песень і навучыла яе іх спяваць. Потым папрасіла праспяваць беларускія. І вельмі здзівілася, бо нявестка ўспомніла толькі адну песню з тэлеперадачы «Калыханка», забылася нават на пацешкі: «Ласачка», «Кую, кую ножку», якія вельмі любіла ў дзяцінстве. Адчувала сябе ў гэтай сітуацыі яна ніякавата.

**Тамара Цыганкова**, пенсіянер: «Як жа мне не ведаць Гілевіча, калі я ўжо 36 гадоў хаджу закаханая ў яго замовы і гумар і дзякуючы яму пабачыла свет: за 17 гадоў з народным ансамблем «Медуніца», дзе я чытала беларускі гумар, мы аб’ездзілі ўсю Беларусь, пабылі

ў Польшчы, Германіі, Галандыі, Бельгіі. А знаёмства маё з творчасцю Гілевіча адбылося так: у 1975 годзе ў Магілёў прыехала Мінская філармонія, і я пачула замовы ў выкананні артыста Сакалова. Мяне так яны ўзрушылі, што я пабегла за кулісы: дзе, пытаюся, мне знайсці гэтыя замовы? А ён так проста: «Вазьміце ў бібліятэцы кнігу Ніла Гілевіча "Да новых венікаў"». Кнігу я знайшла і пачала завучваць замовы на памяць і ўдзельнічаць з імі ў конкурсах. Мяне заўважылі і запрасілі ў «Медуніцу». Ведаеце, я ж пісала Гілевічу і пыталася, дзе знайсці яшчэ добры беларускі гумар. І ён мне адказаў. Мяне вельмі ўразіла слова «чуюся» з таго пісьма: «Вельмі чуюся перад Вамі, што не змог адразу адказаць». Мова ў Гілевіча сакавітая, народная.

Потым я набыла раман «Родныя дзеці». Гэта ж цуд, а не раман. Аднойчы чула, як урыўкі з рамана чытаў адзін капітан ДАІ. Зала зацікаўлена адгукалася. Я ўдзячна Нілу Гілевічу за тое, што яго творчасць прынесла мне столькі шчаслівых момантаў, столькі апладысментаў і ўпрыгожыла маё жыццё».

**Мікола Яцкоў**, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, кампазітар: «Не проста ведаю, хто такі Ніл Гілевіч, я знаёмы з ім асабіста і ганаруся гэтым знаёмствам. Я напісаў каля 30 песень на яго словы. Помню, як 10 гадоў таму, у сакавіку 2001-га, я пераступіў парог яго кватэры ў Мінску. Ніл Сымонавіч сустрэў мяне ветліва, з удзячнасцю прыняў ноты песень і іх гучанне на аўдыёкасеце. І як потым высветлілася, даволі часта слухаў яе. І была цікавая размова пра літаратуру, пра песеннасць беларускага народа, пра асаблівасці народнай самасвядомасці.

Дарэчы, музыка на вершы Ніла Гілевіча пішацца лёгка, таму што яна закладзена аўтарам у тэкст. Я з задавальненнем чытаю яго творы, маю аўтограф да кнігі "Повязь"».

**Алена Асмакоўская**, інжынер-будаўнік: «Мая цікавасць да асобы і творчасці Ніла Гілевіча ўзнікла ў сталым узросце як да аднаго са стваральнікаў Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, сябрам якога я стала некалькі гадоў назад. Спачатку было разуменне значнасці гэтага чалавека, а потым жаданне пазнаёміцца з творчасцю. Я купіла дыск, дзе Ніл Гілевіч чытае свае вершы. Стала сачыць за яго публікацыямі ў перыядычным друку. Апошнім часам набыла некалькі тамоў яго збору твораў. З задавальненнем чытаю іх як мастацкую літаратуру, хаця яны носяць больш публіцыстычны і навуковы характар. Мяне хвалюе паэзія Ніла Гілевіча, узрушвае яго аддасць беларускаму слову. Меркаванне гэтага чалавека па пытаннях культуры і чалавечага жыцця для мяне вельмі аўтарытэтнае. Шкада, што здароўе Ніла Сымонавіча больш не дазваляе творчых сустрэч, таму што сустрэчы з такім чалавекам – падарунак».

Творчасць Гілевіча ўвайшла ў маё жыццё яшчэ ў 60-я гады, падчас вучобы ў Белдзяржуніверсітэце, дзе Ніл Сымонавіч працаваў на кафедры беларускай літаратуры і чытаў курс вуснай народнай творчасці. У маёй бібліятэцы ёсць і паэзія, і проза, і навуковыя працы, і публіцыстыка. З вялікай цікавасцю чытаю і перачытваю цяпер 16, 17, 18, 19 тамы (збор твораў у 23-х тамах). Раблю для сябе адкрыцці. Менавіта Ніл Сымонавіч адкрыў мне вочы на станоўчую ролю ўніяцтва ў лёсе беларускай мовы.

Я маю сем аўтографаў народнага паэта Беларусі, усімі даражу. Жыццевызначальным для мяне стаў аўтограф 1967 года да кнігі «Бальшак»: «***Дружыце з паэзіяй – з ёю лягчэй жывецца***». Да паэзіі я звяртаюся і ў горкія для мяне хвіліны, і ў радасныя. Паэзіі дадзена боская сіла ўздзеяння.

Добрага Вам здароўя, дарагі Ніл Сымонавіч, і вялікі дзякуй за Вашыя кнігі, за грамадзянскую пазіцыю і за тое, што Вы ёсць.

[3]*Наша слова. – 2011. – 28 верасня (№ 39/1034). – С. 2 – 3.*

*Узрост вышыні: Да 80-годдзя народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча: Артыкулы, эсэ, нататкі, вершы, лісты і тэлеграмы / уклад. Гілевіч С.Н. – Мінск : Канфіда, 2012. – 264 с. – С. 137 – 141.*

## 4. Настаўнік[4]

Ніла Гілевіча з Магілёўшчынай лучаць цікавасць да гістарычнага мінулага краю і творчыя сувязі з нашымі таленавітымі землякамі. Перш за ўсё – вялікая павага да сваіх папярэднікаў: Дуніна-Марцінкевіча і Максіма Гарэцкага.

Гарэцкага Ніл Гілевіч называе «*велічыня першага раду ў іерархіі дзеячаў культуры і навукі Краіны*», цэніць яго як творцу, пісьменніка, дасканалага майстра мастацкага слова, бліскучага публіцыста, выдатнага навукоўца і інтэлігента.

Родам з Дрыбінскага раёна быў і сябра Ніла Сымонавіча – выдатны беларускі паэт Сцяпан Гаўрусёў. Іх зблізіла тое, што ім прыйшлося падлеткамі перанесці нямецкую акупацыю, што на іх «*яшчэ неакрэплыя плечы лёг цяжар першых крокаў аднаўлення зруйнаванага жыцця*».

Некалькі літаратуразнаўчых і публіцыстычных артыкулаў прысвяціў Ніл Гілевіч творчасці нашага земляка, народнага паэта Аркадзя Куляшова: «Ён быў сцяганосцам», «Апошняя кніга», «Крокамі волата», «Салдат свайго часу». Творчыя адносіны і павага звязвалі Ніла Гілевіча з Аляксеем Пысіным і Сяргеем Грахоўскім. Добрым словам ён успамінае Анатоля Сербантовіча, Міхася Стральцова, Алеся Пісьмянкова і іншых.

Ніл Сымонавіч у складзе дэлегацыі беларускіх і рускіх пісьменнікаў 25 лістапада 1980 года ўдзельнічаў у адкрыцці мемарыяльнага знака Канстанціну Сіманаву. Надвор'е не вельмі спрыяла – ішоў мокры снег. Я была прыемна ўражана, калі пасля цырымоніі Ніл Сымонавіч, заўважыўшы ў натоўпе мяне, яго былую студэнтку, падышоў, павітаўся і пацікавіўся маімі справамі. У той жа дзень адбылася сустрэча вядомых пісьменнікаў з жыхарамі Магілёва.

Для народнага паэта няма спраў другарадных. Звярнулася школа з просьбай напісаць для яе гімн – калі ласка. Так, гімназія №4 горада Магілёва мае гімн, напісаны Нілам Гілевічам. Запрасілі на сустрэчу – калі ласка. Такая сустрэча адбылася ў Магілёве і ў Бялынічах у 2007 годзе па ініцыятыве гарадскога Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны (старшыня Алег Дзьячкоў). Разам з Нілам Гілевічам прыязджалі Леанід Дранько-Майсюк і Эдуард Акулін. Мушу нагадаць, што некалі, да развалу СССР, была добрая традыцыя: пісьменнікі і артысты выступалі ў працоўных калектывах, інтэрнатах і бібліятэках. Гэтая сувязь была справай Саюза пісьменнікаў і аддзелаў культуры. На жаль, сёння такія сустрэчы – рэдкасць і ладзяць іх энтузіясты, а не тыя, каму трэба гэта рабіць па абавязку.

Ніла Сымонавіча адрознівае вялікая павага да кожнага чалавека. За гады выкладчыцкай дзейнасці ён ніводнага студэнта не назваў на «ты», толькі на «Вы». Яго творчасць увайшла ў маё жыццё са студэнцкіх гадоў. Беражліва захоўваю аўтографы народнага паэта, іх у мяне восем. Самы першы да кнігі «Бальшак». Зусім нядаўні да паэмы «Сказ пра Лысую гару»: «*Дарагой Тамары Пятроўне Аўсяннікавай на вясёлае чытанне. Помню, Жэня сказала: «Ніхто пра мяне не сказаў так хораша, як Вядзьмак Лысагорскі: Палесся мілае дзіця!*»

*Можа, і ніхто… Ніл Гілевіч. 4.8.11*». Жэня – гэта паэт Яўгенія Янішчыц.

Ніл Сымонавіч Гілевіч – чалавек шырокіх ведаў і таленту. І лічу за шчасце быць яго суайчынніцай, яго студэнткай і мець магчымасць гаварыць з ім.

*[4]Магілёўская праўда. – 2011. – 30 верасн. (№ 80 – 81). – С. 15.*

*Узрост вышыні: Да 80-годдзя народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча: Артыкулы, эсэ, нататкі, вершы, лісты і тэлеграмы / уклад. Гілевіч С.Н. – Мінск : Канфіда, 2012. – 264 с. – С. 141 – 143.*

## «БЫЎ ЧАС, БЫЎ ВЕК, БЫЛА ЭПОХА…»[1]

Ніл Сымонавіч Гілевіч у 2013 годзе завяршыў працу над зборам твораў у 23-х тамах. Дзесяць гадоў на мяжы фізічных магчымасцяў працаваў народны паэт Беларусі: па 2–3 тамы за год рыхтаваў, вычытваў і выдаваў за свой кошт, без падтрымкі дзяржавы. Рарытэтнае выданне: ад 70 да 100 асобнікаў адзін том. Працаздольнасць неверагодная. Літаратурная спадчына Ніла Гілевіча вялікая, яго талент настолькі шырокі, што наўрад ці можна ў беларускай літаратуры паставіць каго з ім побач.

У чым каштоўнасць збору твораў Ніла Гілевіча? Галоўнае ў тым, што ён ёсць. І што сам аўтар сфарміраваў кожны том на свой густ. Якой цаной – гэта няхай застанецца на сумленні тых, хто абавязаны быў калі не падрыхтаваць, то хаця б выдаць гэты збор твораў.

З дваццаці трох тамоў апошнім выдаваўся 22-і. Многа цікавага ёсць у гэтым томе. «*А для каго, можа, і не вельмі прыемнага*, – заўважыў аўтар. – *Тут публіцыстыка, літаратурная крытыка, эсэістычная мазаіка, новая кніга паэзіі «З Божай ласкі – дасеўкі» (вер-*

*шы 2011 – 2012 гг.); вяртанне ў далёкі пачатак, дзе чытач будзе мецць магчымасць пазнаёміцца з першым апублікаваным у «Бярозцы» вершам паэта, напісаным пад уплывам верша Тараса Шаўчэнкі «Садок вішнёвы каля хаты»; першай спробай прозы, першай спробай дзённіка, з чытацкім дзённікам студэнта педвучылішча, з першымі запісамі народных песень студэнтам БДУ ў навуковых мэтах, з першымі навуковымі даследаваннямі, з першай любімай газетай "ЛіМ"»*. Пісьменнік дзеліцца сваімі думкамі, тлумачыць, чым у свой час так уразіў, усхваляваў яго матэрыял тых выразак з *"ЛіМа"* за 1946-1947 і за 1948-1949 гады.

Гаворачы некалькі слоў пра кнігу «Любоў прасветлая», Ніл Гілевіч бачыць галоўнай тэмай свайго жыцця, сваёй літаратурнай працы тэму родная мова, якая аб’ядноўвае «некалькі самастойных і змястоўных аспектаў». «*Над усім гэтым і ва ўсім гэтым*, – давадзіць аўтар, – *любоў да роднага слова, гонар за яго высокія вартасці, радасць ад карыстання ім, боль за яго прыніжэнне варварамі-вандаламі, горыч за здраду яму саміх беларусаў, і – непахісная вера, што яму, вялікаму і магутнаму роднаму слову, жыць вечна*».

Ніл Гілевіч – майстар паэтычнага слова, глыбокі лірык – вымушаны столькі гадоў ґаварыць аб адным і тым жа ў абарону роднай мовы. І з абранага шляху ён ужо не можа збочыць, бо ведае: хто стукаецца, таму адчыняюць, ведае, што і травінка праз асфальт прабіваецца. Шкада толькі падрэзаных крылаў.

Паэт сягае ўвысь на родных словах –
Ва ўсе часы было так у паэзіі.
Нашто ж – пытаю ўмельцаў адмысловых –
Вы крылы гэтыя яму падрэзалі?

З чытацкага дзённіка гадоў вучобы ў педвучылішчы я звярнула ўвагу на кнігу Джэка Лондана «Марцін Ідэн». Чаму? Таму што ў свой час Яўгенія Янішчыц падарыла мне гэтую кнігу. І яна ў мяне выклікала такія ж думкі. Для Жэні, як і некалі ў 1950 годзе для Ніла Гілевіча, жыццё Марціна Ідэна стала прыкладам таго, «чаго можа дабіцца чалавек на шляху самаўдасканалення дзякуючы сіле волі і настойлівасці». Ніл Гілевіч адзначыў: «*Гэту кнігу трэба прачытаць кожнаму маладому чалавеку, не кажучы ўжо пра пачынаючых аўтараў: для апошніх яна павінна быць настольнай*».

Я заўважыла, што з узростам цікавасць да дзённікаў і перапіскі павялічваецца. Яны даюць магчымасць глыбей зазірнуць у час і ў адносіны паміж творчымі людзьмі. Распавядаючы аб ліставанні з Васілём Быкавым, Ніл Сымонавіч прыводзіць яго верш, прысланы на каляднай паштоўцы (5.І.1991):

Шчодры вечар, шчаслівы вечар,
Самотны вечар, шаноўны пан!
Гарыць на куце паўтузін свечак,
Хрыстос нам свеціць і гоніць зман.

Хрыстосу слава і кволым слава,
Цярпліўцам моцы ў цярпенні дам,
Галодным хлеба, убогім веры, –
Жыцця і шчасця ўсім людзям!

Безумоўна, цікава было даведацца, што Быкаў пісаў вершы!

Выбраныя старонкі з дзённікаў 1954 – 2002 гг. увайшлі ў 21-ы том. Часткова яны друкаваліся ў «Дзеяслове». «*Каб нехта некалі зразумеў, у які час я жыў і як лёс са мной і з намі абыходзіўся*, – піша аўтар, – *дастаткова таго, што напісана: і ў дзённіку, і ў артыкулах, і ў вершах…*»

У першым томе, які выйшаў у 2003 годзе, ёсць праспект, дзе пералічана, што не ўвойдзе ў збор твораў. Такога матэрыялу было вызначана мінімум на 8 тамоў. Сёння ў архіве пісьменніка захоўваецца не менш, чым на 10 тамоў яго літаратурнай спадчыны. «*Калі дадаць сюды эпісталярны жанр, то, безумоўна, значна больш*», – тлумачыць паэт.

На пытанне аб планах на будучае Ніл Гілевіч адказаў: «*Я настолькі стомлены за гэтыя 10 гадоў і настолькі выматаны, што не хачу, каб у бліжэйшыя паўгода ў мяне аб гэтым пыталіся. Я быў катаржнікам усё жыццё. Другія ездзілі на рэчку – лавілі рыбку, хадзілі ў лес са стрэльбаю, збіралі грыбы, смажылі шашлыкі, а я ніколі не бачыў, як шашлыкі пякуцца. У гэтым мне можна выказаць толькі спачуванне*».

Я папрасіла дазволу на адно пытанне.

– Ніл Сымонавіч, аказаўшыся перад Богам, што Вы яму скажаце?

– *Дзякуй, скажу. Я бязмежна ўдзячны Богу, што змог пратрымацца столькі гадоў. Але я ўдзячны і Ніне Іванаўне. Яна там прасіла падтрымку мне. Я ў гэтым упэўнены. Першы том яна паспела ўбачыць, за месяц да смерці. За гэты час я выдаў і яе сем кніг. Пры жыцці Ніна Іванаўна нічога не друкавала.*

У мяне ёсць 23 аўтографы Ніла Сымонавіча. Прывяду толькі два. На самай першай кнізе, знакавай і лёсавызначальнай для паэта, «Песня ў дарогу»:

«*Дарагая Тамара Пятроўна, гэтай кніжачцы 56 гадоў ад роду, і я вельмі рад, што Вы яшчэ са студэнцкіх дзён яе захоўваеце – не кожнаму аўтару так шанцуе. Удзячны лёсу Ваш былы выкладчык філфака Ніл Гілевіч. 2013*».

І аўтограф на 22-м томе:

«*Дарагая Тамара Пятроўна, гэтым томам завершаны мой Вялікі Збор. Дзякую за маральную пад-*

*трымку, якую праз усе гады я адчуваў. Ад сэрца – Ніл Гілевіч. 2.2.14*».

Самае каштоўнае ў творчасці Ніла Гілевіча, на мой погляд, тое, што творы і аўтар існуюць у гарманічным адзінстве, не пераважваючы адно аднаго. Выклікаюць вялікую павагу мастацкі густ аўтара, яго пазіцыя, моц духу годна трымаць сваю пазіцыю, духоўнасць і інтэлігентнасць, досведнасць, чэснасць перад сабою, гісторыяй і людзьмі. У зборы твораў перад намі паўстае Чалавек і Творца такім, які ён ёсць. Ніл Сымонавіч не прыўкрашвае час савецкага перыяду і не ганіць, а падае такім, якім бачыў гэты час, якім адчуваў яго і разумеў. Выдатная кропка пастаўлена ў канцы дваццаць другога тома цытатай з паэмы «Сказ пра Лысую гару»: «Быў час, быў век, была эпоха…»

*[1]Брама : літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. № 2, 2014. – Мінск : Кнігазбор, 2014. – 278 с. – С. 244 – 246.*

## «…ДУМАЙМА, БРАТКІ-БЕЛАРУСЫ, ДУМАЙМА!»[1]

У серыі «Кнігарня пісьменніка» ў 2015 годзе выйшла новая кніга эсэістыкі народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча «У віры быцця», у якую ўвайшлі «*запісы розных гадоў, кожны з якіх прасякнуты бязмежным болем за лёс роднай мовы, культуры, літаратуры і разам з тым надзеяй, што праз усе выпрабаванні ды нягоды мы дойдзем… дойдзем мы да той Беларусі, дзеля якой столькі выдатных сыноў і дачок ахвяравалі сабой*» (цытата з анатацыі).

Гэты боль мы адчуваем з першага да апошняга радка. Кнігу Ніл Гілевіч адкрывае балючай фразай: «*Для навукі беларуская мова не гадзіцца!*» – *А для чаго гадзіцца?* – пытаецца аўтар. – … *У часы Скарыны і Буд-*

*нага – гадзілася, а сёння ўжо – не!..»* І нагадвае «ўсім, у каго ёсць сумленне», адзін «дробязны» факт: «*Калі гарэлі беларускія вёскі з жывымі людзьмі – з агню-полымя даляталі жудасныя (больш жудкіх не бывае) крыкі: «Ратуйце!» Не «спасите!», а "ратуйце!"*» Ужо з першай старонкі аўтар уключае чытача ў размову, спрычыньвае задумацца: чаму ў самыя трагічныя хвіліны, хвіліны адчаю, дзе б мы ні былі, якой бы моваю ні карысталіся (дасканала карысталіся), мы крычым на роднай мове, матчынай мове; чаму ніякі больш народ не адносіцца так ганебна да сваёй мовы, як мы: «*Люди, которые говорят на белорусском языке, не могут делать ничего, кроме как разговаривать на белорусском языке, потому что по-белорусски нельзя выразить что-то большое. Белорусский язык – бедный язык. В мире существует только два великих языка – русский и английский*» (цытата з навуковай працы айчыннага мовазнаўства! (Газета «Наша слова», 29 верасня 1999 г.).

Ніл Гілевіч вядзе досвед такіх адносінаў да мовы, адкрывае карані гэткага манкурцтва. Яго клопат аб тым, каб кожны беларус ведаў сваю гісторыю, яе трагічны лёс, яе духоўную і матэрыяльную культуру, мастацтва, народную творчасць. Каб кожны беларус ведаў, што мы – ліцвіны, што ВКЛ – сярэдневяковая беларуская дзяржава, у склад якой уваходзіла Жамойція (сучасная Летува) і вялікая частка Украіны; ведаў, што на ліцвінскай мове (старабеларускай) пісалі Скарына, Будны, Цяпінскі і іншыя нашы асветнікі, што менавіта старабеларуская мова была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім, што нашу крывіцкую Вільню «людажэр Сталін у канцы 1939 года аддаў летувісам». Кожны беларус павінен ведаць пра пераможную для беларусаў-ліцвінаў і страшную для маскоўскага цара бітву пад Оршай 1514 года, што беларусамі мы сталі

называцца па ўказу Кацярыны II. Вось цытата з названага ўказа, якую прыводзіць Ніл Гілевіч: «… *Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, народ её белорусами, чем на века привяжем её к России. Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белоруссов не только их язык, но и саму память про самих себя» (1796).*

І другая цытата, не менш паказальная. Губернатар Паўночна-Заходняга краю з 1863 па 1865 год Мураўёў пісаў: «*В Северо-Западном крае так называемый белорусский язык необходимо низвести на ничто, ибо, если этого не сделать, он постоянно будет инспирировать мысль об отдельном белорусском народе и о праве этого народа на этническую самостоятельность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя*».

Яшчэ ў XVII стагоддзі цар Аляксей Міхайлавіч (1645 – 1676) загадаў сваім ваяводам спаліць «книги литовской печати», гэта значыць, выданні Скарыны і яго паслядоўнікаў. У 1854 годзе Расійская акадэмія навук праігнаравала праект беларускай граматыкі Ксаверыя Нядзвецкага. У 1930-м адбыўся «разгром Беларускай акадэміі навук, пасля якога яна ўжо ніколі не будзе беларускай», з болем адзначае Ніл Гілевіч. А ў ліпені 1995 года з вышыні ААН прагучала: «… Зараз у цэлым выглядзе, у адзінстве ўсіх праяўленняў беларуская нацыянальная культура, па сутнасці справы, не існуе». «*І ў такой сітуацыі,* – піша аўтар, – *правялі пагібельны для беларускай мовы рэферэндум*». Вось дзе вялікі боль Ніла Гілевіча! Яго праца па прыняцці «Закона аб мовах» у 1990 годзе, яго клопат аб жыццядзейнасці гэтага Закона – перакрэслены.

Як чалавек, які працаваў у сістэме адукацыі на той час, магу сказаць, што за пяць гадоў дзейнасці «Закона аб мовах» было зроблена многае. Да беларускай мовы і культуры павярнуліся тварам: адкрываліся беларускамоўныя гімназіі, класы, справаводства пераводзілася на беларускую мову, настаўнікі беларускай мовы сталі запатрабаванымі і паважанымі. Мушу прывесці адно цікавае назіранне таго часу, якое кінулася ў вочы. Пасля выхаду «Закона аб мовах» сярод першых, хто адгукнуўся і загаварыў па-беларуску, былі журналісты і дзеячы культуры габрэйскай нацыянальнасці. Вось так, браты-беларусы.

Ніл Гілевіч гаворыць фактамі, датамі, лічбамі. Душой і сэрцам! Пры царызме, пры палячках і пры саветах з беларусаў выбівалі іх нацыянальную адметнасць: паслядоўна, мэтанакіравана – усімі сродкамі. Пры саветах даводзіліся планы на арышт, планы на знішчэнне. Па вобразнаму выказванню балгарскага паэта Любаміра Леўчава: «Чалавечае жыццё ператварылася ў лічбу». Вось пра лічбы людскога гора, і не толькі, піша Ніл Гілевіч – каб мы помнілі пра свой лёс.

«*Шанцуе ж некаторым!..*» – са скрухай ускліквае аўтар кнігі, калі ўзгадвае Прэзідэнта Францыіі Жоржа Пампіду, які склаў «Анталогію французскай паэзіі», у якую прэзідэнт уключыў тыя вершы, без якіх «*не мог бы жыць, калі б воляй нейкай фантазіі апынуўся на бязлюдным востраве*» (запіс 1971 г.).

У нататцы пад загалоўкам «Аж старашна чытаць!..» Ніл Сымонавіч прыводзіць цытаты нядаўняга лідара Сербіі Слабадана Мілошавіча з яго «Завяшчання…»: «*Дзяржавы, якімі кіруюць звонку, адносна хутка расстаюцца са сваёй гісторыяй, са сваім мінулым, са сваімі традыцыямі, са сваімі нацыянальнымі сімваламі, са сваімі звычаямі, часта і з уласнай літаратурнай мовай*». С.Мілошавіч упэўнены, што галоўнай задачай

марыянетачнага ўрада з’яўляецца разбурэнне нацыянальнай самасвядомасці, што народ такіх дзяржаў не ў стане ўсачыць за хуткасцю, з якой ён пачынае ўжываць чужую мову як сваю, лепш разбірацца ў літаратуры акупантаў, чым у роднай літаратуры, захапляцца чужой гісторыяй, аплёўваючы пры гэтым сваю, быць падобным на чужынцаў, але не на самога сябе, што страта нацыянальнай існасці – самая вялікая параза любога народа. Аўтар кнігі абураецца: «*Як жа сталася, што кіраўніка краіны з такім цвярозым дзяржаўным мысленнем аддалі ворагам на расправу? Што творыцца ў гэтым свеце?*»

«Цямнеў ад горычы» Ніл Гілевіч, калі слухаў выступленне Прэзідэнта Фінляндыі Койвіста ў Маскве: «*Маленькая Фінляндыя – і вось, калі ласка! Прэзідэнт на ўвесь свет выказвае пачуццё гонару і радасці за мову сваёй зямлі, за самабытнасць фінскай культуры, за гарантаваную самастойнасць дзяржавы. А мы? А мы – беларусы? Як мы пачуваемся ў свеце? Як мы сцвярджаем сваю мову і культуру? Не толькі ў свеце, а і дома, дома! У сваёй роднай хаце! О, дарагія мае браткі і сястрыцы!*» (запіс 1993). Экспрэсіўны сінтаксіс, лексічныя паўторы, звароты перадаюць эмацыйны стан аўтара. Кожны зварот мае сваё лексічнае адценне. Гілевіч-прамоўца хоча дайсці да сэрца кожнага чытача, ускалыхнуць яго этнічную памяць, абудзіць сумленне, гонар ліцвіна.

Калі я слухаю Ніла Гілевіча ці калі чытаю, асабліва публіцыстычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы, то міжволі ўзгадваю выдатнага рускага вучонага, акадэміка Д.С. Ліхачова (1906 – 1999). У іх адна і тая ж манера і грунтоўнасць доследу, тая ж інтэлігентнасць і добразычлівасць, разам з тым – пачуццё гумару і асабістай годнасці. Дзве знакавыя постаці, народжаныя ў розных асяродках, але ж колькі агульнага!

Нехта з беларускіх пісьменнікаў назваў Ніла Гілевіча «правінцыялам у сусвеце мастацтва, беларусам з вёскі». Дай бог кожнаму пісьменніку быць такім «правінцыялам»! Па вялікім рахунку амаль што ўсе славянскія пісьменнікі, у іх ліку Я. Купала, Я. Колас, М. Гарэцкі, І. Мележ, С. Ясенін… – з вёскі, яны тыя ж «правінцыялы». Можа, таму іх творы глыбока нацыянальныя! Як сказаў Ніл Гілевіч: «*Сапраўднае мастацтва пазанацыянальным не бывае*». Асмелюся дадаць: магчыма, і не павінна быць.

Адметнасць запісаў Ніла Гілевіча ў досведах. У кнізе мы не знойдзем ніводнай думкі, якая б не была пацверджана. Вынішчэнне самасвядомасці ішло рознымі шляхамі. Яшчэ на мяжы 1920 – 1930-х гадоў беларускую творчую інтэлігенцыю пачалі абзываць «бебурнацамі» («беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі»). І не толькі абзываць, а мэтанакіравана знішчаць. Ніл Сымонавіч узгадвае пра фотаздымак дэлегатаў першага з’езда літаратурнай арганізацыі «Маладняк», на якім «у саматканых вясковых світках» – так званая беларуская буржуазія, ворагі працоўнага народа. «*Да канца 1937-га*, – гаворыць аўтар, – *амаль нікога з тых «Маладнякоўцаў» не засталося, выжылі на катарзе адзінкі… Не дай Бог, калі мы пра гэтую нечуваную беларускую трагедыю забудзем! Не дай Бог!..*»

Публіцыст Ніл Гілевіч даводзіць нам, колькі шкоды нарабілі «ўвішныя невукі», такія, як Алесь Кучар («20-гадовы шпінгалет», «зялёны невук»), які замахнуўся на творчасць выдатнага майстра слова – самую вялікую надзею тагачаснай беларускай літаратуры – Кузьму Чорнага. А. Кучар у часопісе «Маладняк» (№ 1 за 1931 г.) апублікаваў артыкул «Пра адну рэакцыйную аповесць» («Лявон Бушмар»), якім запісаў Чорнага ў контррэвалюцыянеры. У другім запісе Ніл Гілевіч адзначае, што наша нацыянальнае няшчасце ў тым, што

лепшых натраўлялі на лепшых. Пятро Глебка апублікаваў пра Адама Бабарэку артыкул «Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксысцкай фразай» («Узвышша», 1931, № 2).

З вялікай павагай успамінае Ніл Гілевіч сапраўднага рускага інтэлігента Уладзіміра Іванавіча Пічэту, прафесара, першага рэктара БДУ (1921), які горача далучыўся да беларусізацыі, абавязаў выкладчыкаў усе лекцыі чытаць па-беларуску і сам падаў прыклад. Узгадвае «знакавыя постаці» братоў Гарэцкіх, якія злу і подласці маглі супрацьпаставіць «толькі культуру, толькі сумленнасць, толькі высокасць духу, толькі маральныя перакананні і прынцыповасць»; узгадвае Купалу-прарока і сцяганосца беларускага нацыянальнага Адраджэння, у творчасці якога «нязмоўчна крычыць боль і гнеў знявечанай, растаптанай душы беларуса»; Цішку Гартнага (Зміцера Жылуновіча), першага кіраўніка першага Савецкага Урада Беларусі (студзень 1919), якога ворагі Беларусі і беларушчыны «з’елі жывога». Ніл Гілевіч прызывае: «*Дык жа задумаемся, браткі! Што мы дазваляем з намі, нашай мовай і культурай рабіць? Дзе наша нацыянальная годнасць?..*»

Хвалюе народнага паэта Беларусі і правапіс. Ён адзначае, што рэформа беларускага правапісу 1933 года «*сцёрла каля 30 істотных асаблівасцяў беларускай мовы*». І рабілася гэта з мэтаю, каб «знішчыць бар’ер, які аддзяляе беларускую мову ад рускай». Ніл Гілевіч не бачыць аб’ектыўных падстаў для ўвядзення ў мову «ля-лё-лю» – у жывой мове яны адсутнічаюць. Прызнаюся, што і я ад простых людзей ніколі не чула: клюб, плян, плюг, кляс, глёбус… Надта штучна выглядае такое маўленне для беларускай мовы.

Гілевіч-лінгвіст даводзіць нам, што вялікую шкоду можа нанесці мове і прапанова перавесці беларус-

кую пісьмовую мову з кірыліцы на лацініцу – дзеля збліжэння з Еўропай. Горкае засмучэнне выклікае ў аўтара скасаванае некалі каланізатарамі-паланізатарамі спрадвечнае поўнагалоссе.

Гілевіч-вучоны абгрунтоўвае, чаму трэба вярнуць гарадам іх першапачатковыя назвы: Менск, Гародня, Берасце, Наваградак, Каралеўшчына, Амсціслаў, Мёры і інш.

Гілевіч-педагог не можа заставацца раўнадушным, калі з экрана беларускага тэлебачання дыктары і каментатары штовечар паўтараюць: «*Дзякую ўсіх за ўвагу…*». «*Ды запомніце ж вы нарэшце раз і назаўсёды*, – абураецца аўтар, – *па-беларуску трэба гаварыць: «дзякую ўсім за ўвагу*»! Так: дзякую ўсім, вам, ім, табе, ёй, яму…

Вельмі засмуціла Ніла Гілевіча, што на Усебеларускім сходзе (20 кастрычніка 1996 года) па-беларуску выступіў толькі прадстаўнік беларускай дыяспары з Казахстана, нехта Масейчык. З 27 выступоўцаў – адзін гаварыў па-беларуску! Ніводзін пісьменнік слова не атрымаў, ніводнага важнага пытання не было пастаўлена.

Ніл Гілевіч пагаджаецца з рускім пісьменнікам Сяргеем Залыгіным наконт слоў устарэлых, якія выйшлі з ужытку, што аб мінулым сучаснаю моваю не скажаш. Пагаджаецца з Валянцінам Распуціным, што кожнаму чалавеку не пашкодзіць ганарыцца прыналежнасцю да свайго народа. Але ж са шкадаваннем дадае, што не ўсе рускія пісьменнікі гатовы дазволіць гэта беларускаму народу.

Знішчэнне беларускай мовы ідзе перш за ўсё па дзяржаўнай лініі. Яна выцясняецца другою дзяржаўнаю моваю – рускаю. Адсюль збядненне мовы літаратуры, тэлебачання, радыё, газет, часопісаў. Ніл Гілевіч ні ў якім разе не пагарджае рускай моваю, а наадварот.

Але ж, каб захаваць нацыянальную адметнасць, нам патрэбна свая мова, беларуская. Роспачны крык «прыроднага славяніна» больш за паўстагоддзе гучыць над Беларуссю: «*О, пракляцце! Ва ўсіх сферах жыцця, па ўсіх лініях усё робіцца для таго, каб беларускі народ усё больш траціў сваё ўласнае этнічна-нацыянальнае аблічча…*». Пры ўсім гэтым цепліць Ніл Гілевіч і надзею. І ў гэтай надзеі ён радуецца і сумуе. Радуецца кожнаму факту, які сведчыць аб нацыянальнай самасвядомасці, аб падтрымцы яго (Гілевіча) пазіцыі. Радуецца вершу Дануты Бічэль «Беларускім дзецюкам», вершу ананімнага аўтара «Ноч над краем маім», захапляецца прафесіяналізмам калектыву «Харошкі». Сумуе, што рэдка гучыць народная і проста добрая беларуская песня, а калі гучыць, то і пазнаць нельга, як «Лявоніху», што выконвалася на «Славянскім базары». А на пытанне, дзе пачуць сапраўдную беларускую мову, Ніл Гілевіч адказвае: «*У Касцёле! Божа, як яна тут гучыць! Як соладка для душы! Сэрца млее і плача. Ад шчасця, што гэта мова ёсць і я магу яе слухаць*».

Ніл Гілевіч трывожыцца не толькі за лёс беларускай мовы, беларускага слова. Ён трывожыцца за лёс Беларусі ў цэлым. Яго хвалююць наступствы меліярацыі, у выніку якой гінуць рэчкі. Паэт глыбока перакананы, што забойства жывой прыроды – гэта забойства жывой чалавечай душы: «*Хай будуць душы ўсякія, // Апроч нялюдскіх душ!*» (верш «Раўняюць хлопцы рэчку»).

Мова Ніла Гілевіча афарыстычная, мо таму ён звяртае ўвагу на афарызмы другіх пісьменнікаў. З кнігі Вардгеса Петрасяна «Армянкие эскизы» (1978) Ніл Гілевіч вылучыў афарызм: «*Ужо лепш хай мне не даруюць людзі, чым магілы*».

З самага пачатку свайго творчага шляху Ніл Гілевіч нясе крыж абаронцы ўсяго нацыянальнага, беларус-

кага, крыж Асветніка на сваю Галгофу толькі з адной мэтаю: абудзіць нацыянальную самасвядомасць беларусаў. І калі яму не даруюць людзі, то – каб даравалі магілы.

Тэматыка кнігі «У віры быцця» шырокая, у ёй чытач можа знайсці яшчэ многа цікавага для сябе. Адно нам трэба помніць: «Памрэ мова ў вуснах народа – памрэ і народ».

– *Дык думайма, браткі-беларусы, думайма!* – заклікае Ніл Гілевіч.

*[1]Брама : літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. № 3, 2015. – Мінск : Кнігазбор, 2015. – 216 с. – С. 186 – 189.*

## «ЛЮБОЎ, ЯКАЯ РУХАЕ СВЯЦІЛЫ» [1]

Мой дух знямог і перарваў палёт,
Ды надала маім жаданням сілы,
Як быццам колам раўнамерны ход,
Любоў, якая рухае свяцілы.

*Дантэ. Боская камедыя. Рай*
*(Песня 33). Перакл. Ул. Скарынкіна*

Ёсць – быў. Якая хісткая мяжа паміж гэтымі словамі! І як цяжка гаварыць пра чалавека, які ўчора быў, а сёння – няма. З якім учора ґаварыў, а сёння набіраеш нумар і – разумееш, што ўжо не пачуеш такое звыклае і такое пазнавальна-адметнае слова: «Слу-у-хаю». Як цяжка ў напісаным выпраўляць сказанае ў цяперашнім часе на прошлы час. Зразумела, што Творца памірае толькі фізічна, зробленае ім застаецца. Але…

Ніл Сымонавіч Гілевіч. Прамаўляеш гэтае імя і чуеш музыку. Суадносіны гукаў, метр чатырохстопнага харэя з пірыхіем у трэцяй стапе – ужо ёсць паэзія.

Не трэба ніякіх псеўданімаў. Яму ад нараджэння наканавана было стаць паэтам. І не толькі паэтам. Яму належыць пачэснае месца ў беларускай літаратуры, вартае маштабу яго таленту. А зроблена нямала. У скарбонцы народнага паэта Беларусі больш за сто кніг – зборнікі паэзіі, фальклорныя зборнікі, публіцыстыка, літаратуразнаўства і фалькларыстыка, кнігі для дзяцей, сатыра і гумар.

Аднойчы Ніл Гілевіч параўнаў пісьменнікаў з лесам. Дык вось мне ў тым лесе ён бачыцца дубам. У беларусаў і іншых індаеўрапейскіх народаў дуб – адно з найбольш шанаваных дрэваў, а ў беларускай міфапаэтычнай мадэлі свету – гэта сімвал вечнага жыцця. У фальклоры дуб фігуруе ў якасці Сусветнага дрэва. Культавыя дубы ў Беларусі маюць назвы: Волат, Святы дуб, Добры дуб, Перуноў дуб, Вітаўтаў дуб… І, відаць, невыпадкова многія называюць Ніла Гілевіча Волатам беларускай літаратуры. У дуба моцныя карані і шырокая крона. Карані народнага паэта Беларусі – гэта яго зямля, гісторыя народа, мова. А галіны – гэта роды і жанры літаратуры, у якіх ён працаваў. Які накірунак літаратурнай дзейнасці мы ні возьмем, уклад пісьменніка бачны і важкі.

У постаці, у асобе паэта было нешта таемнае, ён быццам бы выйшаў з міфічнага лесу, ішоў па Беларусі і здзіўляўся: чаму на роднай зямлі так мала сапраўдных беларусаў, у якіх балела б сэрца за яе, чаму так рэдка гучыць беларуская мова. Першай гэтую таемнасць заўважыла Яўгенія Янішчыц. У лісце ад 5 мая 1974 года да Галіны Каржанеўскай яна пісала: «*Бачыла неяк мімалётна на праспекце зусім сівога Ніла Сямёнавіча. Проста здалёк, дык галава белая, як снег у золь. Думаю часта, што натура ў гэтага чалавека глыбокая і таемная*».

Ніл Сымонавіч нарадзіўся ў сялянскай сям'і, сям'і «земляробаў-хлебаробаў». Сям'я вялікая (дзесяць дзяцей), дружная, дзе вучылі працаваць, шанаваць роднае, дзе гучала Песня. Асоба Ніла Гілевіча фарміравалася перш за ўсё ў сям'і: пад уплывам маці, Кацярыны Мікалаеўны, бацькі, Сымона Пятровіча, дзядулі, бабулі, сясцёр, братоў. У вершы «Радавод» паэт піша:

Мы ўзышлі не з насення, што ветрам занесена, –
Мы не дзікай травы самарослыя парасткі.
У глыбінях зямлі, гераічнай і песеннай,
Нашых душ карані – з вузлякамі упартасці.
Сокам вотчынных гоняў ад роду мы ўспоены.
Сонцам родных нябёс
мы з маленства аблашчаны,
Як асілкі-дубы над дняпроўскімі поймамі –
Паяднаныя часам нашчадкі і прашчуры.

Калі я слухала Ніла Сымонавіча ці калі чытала яго публіцыстычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы, то міжволі ўзгадвала выдатнага рускага вучонага, акадэміка Д. С. Ліхачова (1906 – 1999). Аднойчы я падзялілася сваёй асацыяцыяй. На што Ніл Сымонавіч сказаў: «*Я не супраць апынуцца ў такой кампаніі. Гэта гонар для маёй сціплай асобы. Дзмітрый Ліхачоў – паважаны мной чалавек. І я меў шчасце сустракацца з ім і гаварыць*».

У аснове творчай і грамадскай дзейнасці пісьменніка ляжыць запавет Францішка Багушэвіча: «***Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!***» Яшчэ ў 1972 годзе ён замовіў экслібрыс мастаку Яўгену Ціхановічу з выяваю Францішка Багушэвіча і яго словамі да нашчадкаў пра родную мову. У пісьме да Яўгена Мікалаевіча Ніл Гілевіч пісаў: «*Зроблены Вамі экслібрыс – знак ідэі, якой я жыву. Таму я бясконца*

*ўдзячны Вам, што Вы зразумелі мяне, адчулі душой і падтрымалі сваёй таленавітай працай дух мой надломлены, як той каласок на знаку*».

Паэт радуецца кожнаму факту, які сведчыць аб нацыянальнай самасвядомасці. Сумуе, што рэдка гучыць народная і проста добрая беларуская песня. А на пытанне, дзе пачуць сапраўдную беларускую мову, ён адказваў: «*У Касцёле! Божа, як яна тут гучыць!*» Ніл Гілевіч трывожыўся не толькі за лёс беларускай мовы, беларускага слова. Ён трывожыўся за лёс Беларусі ў цэлым, за лёс літаратуры, культуры.

Шчаслівы той, хто знайшоў сваю жыццёвую сцежку, пакінуў на зямлі свой след. А яшчэ больш шчаслівы той, хто сустрэў сваю палавінку. Для творчага чалавека гэта не так і лёгка. Ніна Іванаўна Гілевіч (1931 – 2003) якраз і стала той палавінкай. Нават больш. Яна была яго Музай, спадарожніцай, дарадчыцай, аднадумцай – «светач мілы». Ёй у гэтым годзе споўнілася б таксама 85. З дня, як не стала Ніны Іванаўны, душэўны боль паэта ні на хвіліну не сціхаў.

У нашым садку –
Гняздзечка ў сівец-траве,
І птушачка ў ім.
Не хоча развітвацца
Са мною твая душа.

Жыццё Ніны Іванаўны – і подзвіг, і хрысціянская норма адначасова. «Там і Бог рае, дзе жонка мужа шануе», – гаворыць народная мудрасць. З першага дня сумеснага жыцця яна распасцёрла ахоўныя крылы над сваёй сям'ёю, прысвяціла сябе мужу, бо разумела значнасць яго асобы, яго прызвання. І боль у іх быў адзін – Беларусь і мова. Менавіта гэтую рысу адзначыў Васіль Быкаў у аўтографе на кнізе «Праў-

дай адзінай»: «*Мілай Ніне Іванаўне Гілевіч, добраму ангелу беларускасці, са шчырасцю і павагай В. Быкаў. 4.V.85*». Але ж Ніна Іванаўна была не проста Музай паэта: яна – вучоны, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры сучаснай беларускай мовы БДУ, яна – роўная яму, вартая свайго мужа.

У 2004 годзе выйшаў зборнік «Працы кафедры сучаснай беларускай мовы. Выпуск 3», прысвечаны Светлай памяці Ніны Іванаўны Гілевіч. В.П. Красней піша: «У яе асобе студэнты і выкладчыкі бачылі нястомнага руплівца на ніве роднага слова. <…> І ў сваіх навуковых працах яна імкнулася знайсці такія падыходы ў асвятленні прыроды роднага слова, каб раскрыць яго багаты сэнсавы і экспрэсіўна-эмацыянальны змест («Таямніцы роднага слова»), вобразна-выяўленчыя патэнцыі («Вобразнае слова Купалы»), жыццё ў мастацкім творы («Стылістыка мастацкай мовы», «Дыялектызмы ў прозе беларускіх пісьменнікаў») і іншыя».

Людміла Рублеўская працягвае: «А калі гэтая светлая, узнёслая жанчына заходзіла ў аўдыторыю – колькі жыццёвай энергіі было ў ёй, як умела яна зацікавіць аўдыторыю, прымусіць студэнтаў услухацца ў жыццядайную мелодыку старадаўніх слоў роднай мовы!»

Святлана Кліменценка адзначыла, што Ніне Іванаўне выпаў рэдкі лёс: «…Ужо там, у бальнічнай палаце, дзе 2 чэрвеня яна сустрэла свой апошні дзень нараджэння, атрымала ад мужа дарунак – апошнюю кніжку, на вокладцы якой выведзена: «…І ПЛЯМЫ НА ТАБЕ НЯМА. Лірычны раман». Кніжку, якая пісалася цягам паўстагоддзя – з 1953 па 2003 гг. – і змясціла гісторыю высокага кахання двух незвычайных людзей, што прайшлі рука з рукой праз нягоды, радасці і выпрабаванні і сталіся адным непадзельным цэлым».

Аліса Міхайлаўна Шыловіч, якая сорак гадоў працавала ў Белдзяржуніверсітэце на кафедры беларускай літаратуры, распавяла наступнае: «З Нінай Іванаўнай мы сябравалі з выдавецтва. Яна выключны чалавек: таленавіты, шчыры, мудры ад прыроды, з пачуццём гумару; яна адказны чалавек – душой хварэла за людзей. Ніна Іванаўна мела свой погляд на ўсё. Яе вострага язычка пабойваліся. Яна не цярпела фальшу і пыхліўцаў: не павышаючы голасу, адным словам магла пасадзіць такіх на месца. А якая ў яе была мова! За ёй можна было запісваць. Мой брат сказаў пра яе: "Гэтую жанчыну, адзін раз пабачыўшы, ніколі не забудзеш і з сэрца не выкінеш"».

У дзённіках Ніла Гілевіча за 1954 год ёсць запіс: «*22 верасня. Звязаць свой лёс з Нінай – гэта значыць на ўсё жыццё застрахаваць сябе ад маральнага падзення, забяспечыць сябе штодзённай падтрымкай духу, бо я не знаю сёння другога чалавека з такім здаровым настроем, з такой чыстай і прыгожай душой, як у Ніны. Аднаго хачу – ніколі б не ўсумніцца ў той невыказнай радасці, якую я нашу ў сэрцы ў гэтыя дні*». Час паказаў, што амаль за паўвека сумеснага жыцця Ніл Сымонавіч ні разу не ўсумніўся. Сыход Ніны Іванаўны для паэта быў вельмі балючым, а страта непамерна вялікай. Яна, па словах самога паэта, была «*апірышчам сям'і, дарадчыкам, першым чытачом твораў свайго мужа, найважнейшым крытыкам, жонкай, маці, сяброўкай, паплечніцай*». Аб ёй Ніл Сымонавіч расказаў у кнігах «Разумная дзевачка» (2005), «Добры анёл беларускасці» (2007). І ў вершах.

Калі, дасць Бог, для памяці тваёй
яшчэ зраблю я тое, што хачу —
без крыўд сыду на вечны супакой
і перад лікам Маці Прасвятой
апошні раз удзячна памаўчу.

*Жнівень 2007 г.*

Са спадчыны Ніны Іванаўны Ніл Гілевіч падрыхтаваў і выдаў кнігі: «Дыялектны слоўнік: Лексіка. Фразеалагізмы. Прыказкі, прымаўкі, прыгаворкі. Параўнанні» (2005), «Таямніцы роднага слова: з назіранняў над мовай і стылем твораў беларускай мастацкай літаратуры» (2006), «Слова – роднае, жывое, свабоднае: узоры жывой народнай мовы ў вуснах беларускай вёскі 1960-х – 1970-х гг.» (2007), «Гісторыя народа – у яго мове: сацыяльна-эканамічная лексіка ў беларускай мове XV – XVII стст.: фрагменты даследавання» (2007), «Напачатку было слова: фрагменты лекцый па культуры мовы і стылістыцы: з назіранняў над тэкстамі і вуснай гаворкай: развагі філолага» (2008), «Апавядае беларуская вёска» (2008), «З рабочых сшыткаў філолага» (2010), «Едзь ты ў Хрунзю! Вусныя аповеды Ніны Іванаўны Гілевіч у запісе іх першага слухача» (2013). Пералічаныя назвы гавораць, што перад намі сапраўдны філолаг, навуковец.

Самай дарагой сваёй кніжкай паэт лічыў «На флейце самоты» (2004), бо «самая балючая». Другі яе раздзел прысвечаны «Памяці Ніны».

Да астатку дзён,
Па самы апошні ўздых,
На гэтай зямлі
Ты – светач душы маёй.
І там будзеш ім, і там…

Маё знаёмства з Нілам Сымонавічам адбылося ў 1966 годзе ў час вучобы ў Белдзяржуніверсітэце. Спачатку я пранікласяпавагай да чалавека, да выкладчыка, а потым пазнаёмілася з яго творчасцю. Я набыла і прачытала першую кнігу паэта «Песня ў дарогу». Адразу запомніўся верш, які вызначыў назву кнігі, бо адпавядаў студэнцкаму настрою, юнацкім марам.

Мне былі блізкімі і другія вершы: «З гадоў маленства», «Пасылка». Я гэтак жа радавалася, як і іх лірычны герой, калі ў вёску прывозілі кіно, гэтак жа чакала пасылак з дому. Зусім іншае ўражанне выклікалі вершы «Што ты, ягада-каліна, // Так нядоўга красавала?» і «Калодзеж»:

Бяры натхненне ў народзе –
Там, дзе не выбераш яго!

Гэта была ўжо паэзія, якая хвалявала сэрца і пакідала след у душы. З таго часу я пачала сачыць за творчасцю паэта. Другім этапам знаёмства стаў семінар па фальклоры, які падрыхтаваў добры грунт для творчых памкненняў. Тут Ніл Гілевіч адкрыўся як вучоны і Настаўнік. Трэці этап знаёмства пачаўся ў 2006 годзе. Размовы, сустрэчы, кнігі… Я ўдзячна Нілу Сымонавічу за магчымасць ведаць яго, ґаварыць з ім. За паўвека нашага знаёмства Гілевіч-чалавек і Гілевіч-творца нязменна для мяне складаюць адно цэлае. Гэта – як рэльсы і лакаматыў. А Ніна Іванаўна – «светач душы» яго – была любоўю, якая рухала гэты лакаматыў.

Імчыць лакаматыў! Упэўнена ідзе па рэльсах і – знікае за гарызонтам… І там, за гарызонтам, таксама ёсць жыццё, нябачнае для нас, невядомае нам, але ёсць. Там сустрэне Ніна Іванаўна свайго «дарагога Ніла», як сустрэла Беатрычэ Дантэ. Скончыцца іх разлука.

*[1]Верасень. – № 14. – 1/2016. – С. 153 – 157.*

*Брама : літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. Вып.4, 2016. – Мінск : Кнігазбор, 2016. – 270 с. – С. 184 – 189.*

## СУСТРЭЧЫ, РАЗМОВЫ, АЎТОГРАФЫ…[1]

Перабіраю кнігі з аўтографамі Ніла Сымонавіча Гілевіча, запісы нашых сустрэч і размоў, пачынаючы з 2006 года. Шкадую, што яны раскіданы па розных сшытках, не ўсе захаваліся, тое-сёе ўжо было выкарыстана ў нататках. Былі і такія размовы, аб якіх «будзем помніць толькі мы самі».

Вось тры аўтографы яшчэ са студэнцкіх гадоў.

1. «*Тамары Краўчанка – ад аўтара. Дружыце з паэзіяй – з ёю лягчэй жывецца. Ніл Гілевіч 24.III.67*» (Бальшак. Паэзія. Мінск: Беларусь, 1965).

2. «*Жадаю Вам, Тамара Краўчанка, вялікага шчасця. Ніл Гілевіч 23/XI-68*» (Ніл Гілевіч. Перазовы. Вершы. Мінск: Беларусь, 1967).

3. «*Тамары Пятроўне Краўчанка – з вялікай надзеяй на яе вялікія поспехі ў фалькларыстыцы. З павагай ад аўтара Ніл Гілевіч. 25/IV-69*» (Н.С.Гілевіч. Наша родная песня. Навукова-папулярны нарыс. Мінск: Народная асвета, 1968).

***P.S.*** Аўтограф «Дружыце з паэзіяй – з ёю лягчэй жывецца» стаў адным з маіх дэвізаў. Надзею Ніла Сымонавіча на мае поспехі ў фалькларыстыцы я не апраўдала. Адзінае, што зрабіла, – абараніла дыпломную працу па тэме «Галашэнні».

***

Пасля заканчэння БДУ ў 1971 годзе я атрымала размеркаванне ў Міёрскі раён Віцебскай вобласці. Працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў Язненскай сярэдняй школе. У 1973 годзе пераехала з сям’ёй у Магілёў. 25 лістапада 1980 года нам давялося сустрэцца ў Магілёве на адкрыцці мемарыяльнага знака Канстанціну Сіманаву. Ніл Сымонавіч заўважыў мяне ў натоўпе, падышоў, павітаўся і распытаў

пра мае справы. Лёс так распарадзіўся, што я доўгі час была адарваная ад сваёй асноўнай прафесіі і ніякіх стасункаў з Нілам Сымонавічам не было. Але помніла яго, сачыла за яго літаратурнай і грамадскай дзейнасцю. І як можна забыць чалавека, які называў мяне «сястрой міласэрнасці».

У 2001 годзе я адправіла яму віншавальную паштоўку з 70-годдзем:

«Паважаны Ніл Сымонавіч! Віншуе Вас з юбілеем былая Вашая студэнтка 1971 года выпуску. Вы – адзін з нямногіх выкладчыкаў, хто пакінуў глыбокі след у маёй душы як мастак беларускага слова, як знаўца родных вытокаў і каранёў, як таленавіты выкладчык і чуйны чалавек. Я ганаруся, што мела шчасце чуць Вас і бачыць. Ваш незабыўны тэмбр голасу хвалюе і ўражвае. Ваша паэтычнае слова і глыбінная думка дапамагаюць адчуць сваю нацыянальную годнасць і выклікаюць вялікую павагу да Вас. Няхай жа Вам хопіць здароўя на доўгія гады плённай працы!

З нізкім паклонам – Тамара Краўчанка».

І толькі ў 2006 годзе ў 75-гадовы юбілей асмелілася патэлефанаваць. Ён адразу ж пажаліўся, што ўжо тры гады, як няма Ніны Іванаўны. Было многа пытанняў. Напрыканцы сказаў: «*Абавязкова заходзьце, як будзеце ў Мінску, тады і нагаворымся*».

***

30 верасня 2007 года тэлефон быў увесь дзень заняты. Набрала нумар 1 кастрычніка ў 10 гадзін. Размова была цёплай, даверыцельнай, працягвалася цэлую гадзіну. Ніл Сымонавіч паведаміў, што ёсць такі чалавек, Уладзімір Паўлавіч Субат, які задумаў выдаць кнігу успамінаў пра Жэню Янішчыц. Ніл Сымонавіч назваў Субату і маё імя. Прапанаваў мне напісаць манаграфію пра Жэню, таму што я «самы блізкі ёй

чалавек з яе акружэння». Я выказала сумненне: «Манаграфію я наўрад ці змагу напісаць, я ж не навуковец. Можна паспрабаваць нарыс». – «*Можна і нарыс*», – пагадзіўся Ніл Сымонавіч. Зноў напомніў: «*Вы ж заходзьце, як будзеце ў Мінску*».

***

Сустрэча адбылася 11 студзеня 2008 года. Напярэдадні я дамовілася аб часе, каб уключыцца ў распарадак дня паэта без перашкод. Пакуль я падымалася па лесвіцы, ён ужо адчыніў дзверы і чакаў. Сустрэў мяне словамі: «*Глядзіце, што засталося ад Ніла Гілевіча. Дваццаць кіло страціў. Вось якія пухліны на руках, не магу нават кран адкрыць, чашку цяжка трымаць. Хварэю. Два гады таму перанёс інфаркт*».

Мы ўвайшлі ў невялікі пакой. Злева на сцяне віселі партрэты Ніны Іванаўны. Справа стаяла шафа з кнігамі, фота сына, унука. Усюды ляжалі кнігі: на канапе, на стале. «*А вось мой,* – Ніл Сымонавіч прыпыніўся на імгненне, – *я называю іканастаз. Не хапае толькі Пушкіна*». У невялікіх рамачках у адзін рад размясціліся на сцяне выявы Шаўчэнкі, Коласа, Купалы, Багдановіча. Пасля агляду пакоя, сціпла абстаўленага, мы гаварылі, успаміналі… і Ніну Іванаўну, і Жэню Янішчыц, і філфак. Незаўважна прайшло больш за тры гадзіны (з 16.15 да 19.40). Размова ненадоўга перапынялася двойчы: на хвіліну забегла дзяўчына з выдавецтва, і быў званок са Славеніі ад сябра-паэта з навагоднімі віншаваннямі. Напрыканцы Ніл Сымонавіч падпісаў дзве кнігі. Такім чынам праз 39 гадоў я атрымала яшчэ два аўтографы.

1. «*Паважанай Тамары Пятроўне Аўсяннікавай на ўспамін аб сустрэчы. Будзем помніць толькі мы самі! З найлепшымі навагоднімі зычэннямі – 11.01.2008 Ніл Гілевіч*» (Ніл Гілевіч. Толькі мы самі. Публіцыстыка

1995 – 2005. Неўпарадкаваныя нататкі 1980 – 2002. Масква: ПромоПРИНТ, 2006).

2. «*Дарагой Тамары Пятроўне Аўсяннікавай на ўспамін пра Ніну Іванаўну і пра наш родны філфак. Ніл Гілевіч 11.01.2008*» (Ніл Гілевіч. Добры анёл беларускасці: Штрыхі да партрэта Ніны Іванаўны Гілевіч. Мінск : Про Хрысто, 2007).

Вяртаючыся дамоў цягнікам, я чытала «Добры анёл беларускасці». Прызнаюся, што не магу прыпомніць нікога, хто б так цёпла пісаў пра сваю жонку. Я маю на ўвазе прозу, не вершы. Свае ўражанні аб кнізе я выказала спачатку Нілу Сымонавічу па тэлефоне, потым ў артыкуле «Мне столькі хочацца табе сказаць…». Артыкул адаслала ў часопіс «Роднае слова», дзе ён і быў надрукаваны ў пятым нумары за 2008 год. Ніл Сымонавіч на рэдкасць вельмі ўдзячны чалавек. Падзякаваў за цёплыя словы: «*Вы, можа, і пераацэньваеце яе (*кнігу – *Т.А.), і сказаць мне трэба было больш, але баяўся, што не паспею. Калі б я гэтага не зрабіў, то не дараваў бы сабе. Я вельмі вінаваты*».

***

Надарылася мне быць у Мінску і ў чэрвені 2008 года. Я зноў наведалася да Ніла Сымонавіча. На гэты раз мы гаварылі пра стан беларускай літаратуры, пра сучасную паэзію. Ніл Сымонавіч – прыхільнік класічнай паэзіі, ён не прымае «*раскілзаных*» вершаў, якімі піша сёння моладзь; лічыць, што паэт не павінен пісаць «*выхалашчанай*» мовай, што «*ёсць пісьменнікі, якія пішуць па слоўніках, а ёсць такія, у якіх кожнае пятае слова дыялектнае, народнае альбо своеасаблівае. Натуральна, калі паэт уводзіць у твор народныя жывінкі – слоўцы сваёй мясцовасці. Але трэба помніць польскае выслоўе: цо задуже, то не здрове. Усяму павінна быць мера*».

Калі ўспаміналі якога-небудзь паэта, Ніл Сымонавіч абавязкова цытаваў па памяці хоць некалькі яго радкоў. Іншы раз гаварыў: «*Гэта не мой паэт, але…*». І заўсёды знаходзіў рысу, за якую паважае яго, цэніць. Сустракаліся і такія імёны, аб якіх ён адказваўся гаварыць.

Пацікавіўся справамі клуба «Творчая гасцёўна», якім я на той час кіравала. Падпісаў кнігу паэзіі «У ноч на Пакровы» (Мінск: Кнігазбор, 2008):

«*Дарагой Тамары Пятроўне Аўсяннікавай – з самымі добрымі зычэннямі і шчырай павагай. Ніл Гілевіч 15.VI.08*».

Водгук на кнігу я напісала адразу, хацела зрабіць падарунак да дня народзінаў Ніла Сымонавіча, але надрукаваць атрымалася толькі праз год у газеце «Наша слова» (Размова з памяццю. № 37 (928) 16 верасня 2009).

***

**28.12.2008**. З тэлефоннай размовы даведалася, што з 14 па 28 снежня Н.С. лячыў суставы ў стацыянары. Павіншавалі адзін аднаго з надыходзячымі навагоднімі святамі. Аб чым яшчэ гаварылі – не занатавана.

***

**04.06.2009**. У час сустрэчы гаварылі пра яго збор твораў у 23-х тамах, пра лёс некаторых артыкулаў, пра маю першую кніжачку вершаў «Ноты сэрца». Ніл Сымонавіч падтрымаў мяне ў творчых памкненнях, адзначыў, што кніга вельмі светлая, што душа ў вершах ёсць, што зварот да фальклору – заўсёды выгадна.

Быў вельмі здзіўлены, калі я паведаміла, што прачытала яго кнігу публіцыстыкі «Толькі мы самі»: «*Так хутка? А я чытаю павольна, мне трэба кожнае слова прагаворваць. Ніна Іванаўна чытала хутка, пазначала для мяне найбольш важныя мясціны, рабіла заклад-*

*кі. Яна была маімі вачамі. Зараз у мяне зрок дрэнны, карыстаюся лупаю. Сястра Святлана чытае газеты*».

Успомнілі сяброў СБП з Магілёўшчыны: І.А. Аношкіна, Я.І. Клімуця, М.А. Яцкова, М.А. Карпечанку. Быў здзіўлены, што В.І. Рагаўцоў і В.І. Арцем'еў у новым Саюзе. Ніл Сымонавіч заўважыў, што Магілёўшчына заўсёды славілася добрымі пісьменнікамі, пашкадаваў аб адсутнасці абласнога грамадскага аб'яднання СБП.

**23.10.2009**. Размова па тэлефоне. Гаворка ішла зноў пра яго збор твораў, пра здароўе, пра зрок, што запавольваюць працу: «*Праца карпатлівая, не творчая, больш рэдактарская. Але трэба. Не хачу, каб пасля гэты цяжар лёг на плечы сыну*».

**21.11.2009**. Н.С. падняў трубку, і я пачула цяжкае дыханне, а потым такое шчымлівае: «Слу-у-хаю». Пазнаўшы мяне, ён устрапянуўся і ўжо больш бадзёра дадаў: «*Прачытаў у ЛіМе ваш цудоўны артыкул пра Жэню. Цудоўны ва ўсіх адносінах: і з літаратурнага боку, і з чалавечага. Вы не можаце дрэнна пра Жэню напісаць, таму што добра яе ведалі, як ніхто*» (Гэта пра артыкул «Даруй, што варушу твой боль»). І зноў напомніў мне, што трэба брацца за кнігу. Амаль кожную нашу размову Н.С. скіроўваў мяне на напісанне кнігі пра Жэню Янішчыц.

Абмяняліся навінамі, пагаварылі пра здароўе, пра тое, як рухаецца праца над зборам твораў.

***

**22.02.2010**.

– Як Вашыя справы? – пытаюся.

– *Гаварыць няма пра што. Я, як тая старая малпа, перабіраю паперкі справа налева, злева направа. Назіраў за адной малпай у нейкім заапарку. З кожным днём усё горш і горш. Я ўжо прывык да свайго стану.*

– Хіба можна прывыкнуць?

*– Чалавек да ўсяго прывыкае. А што ў вас?*

– На днях пазнаёмілася з мастаком Базылём Камаровым. Ён успамінаў, як быў уражаны, калі пачуў, як Вы на адным вяселлі спявалі «Ой, сівы конь бяжыць», падпёршы рукой галаву.

*– Дзякуй яму вялікі. Гэта, мабыць, я выдаваў замуж сваю родненькую пляменнічку.*

**04.06.2010**. Н.С. павіншаваў мяне з выхадам другой кніжачкі «Лістапад гадоў»: «*Прачытаў. Душэўныя лірычныя вершы з адпаведным настроем. Спадабалася, што не бяздумныя. За сваё жыццё я перачытаў многа вершаў: і фарматворчых, і мазгавых. Я з тых славян, з тым менталітэтам, хто жыве сэрцам*». Потым прывёў радкі, якія былі яму «*вельмі блізкія і па форме, і па выказаных пачуццях*». У якасці парады звярнуў маю ўвагу на чатыры русізмы, але толькі пасля таго, як я сама папрасіла зрабіць заўвагі. А яшчэ яго ўразіў наклад – 25 экземпляраў: «Без слёз нельга чытаць».

Тут мы ўспомнілі і наклады яго твораў – 70 асобнікаў, максімум 100, якія выдаваліся за свой кошт. Н.С. выказаў шкадаванне, што кнігі не трапяць у бібліятэкі, хаця б у абласныя.

***P.S.*** Я звязалася з абласнымі бібліятэкамі. Адміністрацыя Гродзенскай і Брэсцкай бібліятэк адгукнуліся без ваганняў, Магілёўская – са шкадаваннем, што не ўсе тамы можна набыць. Віцебская і Гомельская энтузіязму не выказалі. Але зрух на заказ збору твораў у 23-х тамах у «Акадэмкнізе» адбыўся.

***

2011 год — юбілейны год Ніла Гілевіча. Я напісала артыкул «Вера ў слова матчына». Не думала, што сутыкнуся з такімі перашкодамі. Часопісы адказалі,

таму што ў іх ўжо быў матэрыял, газета «ЛіМ» абяцала да апошняга і не надрукавала. За прычынай адказу мне параілі звярнуцца да галоўнага рэдактара. Але я ўжо не звярталася. Не прынялі артыкул да друку і «Магілёўскія ведамасці». Журналіст, які рэдагаваў літаратурную старонку, не пабаяўся Бога і бэсціў імя Ніла Гілевіча. Крычаў: «Хто ён такі, няхай яго друкуюць там, дзе ён нарадзіўся! Няўжо вы думаеце, што я яму дам цэлую старонку? У лепшым выпадку – інфармацыю аб праведзенай вечарыне». Імя Ніла Гілевіча застанецца ў беларускай літаратуры, а вось яго крыўдзіцеля ці ўспомняць.

Артыкул «Вера ў слова матчына» і сваё віншаванне я аформіла буклетам і паслала Нілу Сымонавічу:

«**Дарагі Ніл Сымонавіч**, віншую Вас з юбілеем! Мае адносіны да Вас я часткова выказала ў нататках, адну з якіх дасылаю – не ўпэўнена, што яна ўбачыць свет. Жадаю Вам міласці Божай і падтрымкі блізкіх і сяброў. Бог дае выпрабаванні, каб убачыць, хто чаго варты. Пераадольваючы выпрабаванні, пасланыя Вам, Вы не страцілі чалавечай годнасці, не сталі прыстасаванцам, не здрадзілі роднай мове, мужна змагаецеся за адраджэнне Беларушчыны.

Я ганаруся тым, што была Вашай студэнткай, што маю магчымасць чуць Вас і бачыць, чытаць Вашыя творы. І хачу спадзявацца, што мая падтрымка прыносіць Вам хоць маленькую кропельку радасці.

Будзьце здаровы!

З вялікай пашанотай і любоўю

Тамара Аўсяннікава».

У выніку – «Магілёўская праўда» пасля майго пытання «імя Гілевіча – фармат ці не фармат» згадзілася прыняць нататку пра сувязь паэта з Магілёўшчынай, што я і зрабіла. І «Прыдняпроўская ніва» надрука-

вала невялікую нататку «Я хаджу, закаханы у тваe краявіды» – аб супрацоўніцтве Ніла Гілевіча з кампазітарамі.

А яшчэ я правяла апытанку знаёмых і незнаёмых мне людзей: ці ведаюць яны, хто такі Ніл Гілевіч і як адбылося іх знаёмства з яго творчасцю. Пад назваю «Вялікі дзякуй за тое, што Вы ёсць» сабраны матэрыял быў надрукаваны ў газеце «Наша слова».

Мы з Алегам Дзьячковым арганізавалі пакупку 16, 17, 18 і 19 тамоў членамі Магілёўскага гарадскога ТБМ імя Ф.Скарыны. Падрыхтавалі і правялі ў абласной бібліятэцы вечарыну, прысвечаную 80-годдзю з дня нараджэння народнага паэта. Я прыняла ўдзел у юбілейнай вечарыне яшчэ і ў Магілёўскай гарадской дзіцячай бібліятэцы-філіяле імя А.С.Пушкіна.

Ніл Сымонавіч быў вельмі ўсцешаны адносінамі да яго ў юбілейны год, нават не спадзяваўся на такую ўвагу. У размове 16 кастрычніка пра юбілей: «*Вельмі мяне простыя людзі парадавалі ўвагай, зычлівасцю. Столькі званкоў, тэлеграм! Пусціў усё на самацёк. 30 верасня з паўсотні чалавек заходзіла. Юбілей прайшоў найлепшым чынам. Адгукнуліся многія выданні. Нават раённыя газеты ўспомнілі. Не чакаў*».

У 2011 годзе я была адорана Нілам Сымонавічам вельмі шчодра – атрымала сем аўтографаў.

1. «*Дарагой Тамары Пятроўне Аўсяннікавай. Светлы ўспамін: у фальклорным гуртку БДУ вельмі шчыруе студэнтачка Тамара Краўчанка… Цешуся і ганаруся. Ніл Гілевіч 13.6.11*» (Ніл Гілевіч. Збор твораў: у 23 т. Т. 16. Мінск, 2009).

2. «*Дарагой Тамары Пятроўне Аўсяннікавай на вясёлае чытанне. Помню, Жэня сказала: «Ніхто пра мяне не сказаў так хораша, як Вядзьмак Лысагорскі: Палесся мілае дзіця!» Можа, і ніхто… Ніл Гілевіч 4.8.11*» (Ніл

Гілевіч. Сказ пра Лысую гару. У апошняй аўтарскай рэдакцыі. Мінск : Белфранс, 2003).

3. «*Дарагой Тамары Пятроўне Аўсяннікавай, якая да юбілею аўтара гэтага збору прыклала столькі душы і сэрца, як ніхто. Дзякую! Шчасця і ўсякіх радасцяў Вам! Ніл Гілевіч 15. XI.11*» (Ніл Гілевіч. Збор твораў: у 23 т. Т. 20. Мінск, 2011).

4. «*Дарагой Тамары Пятроўне, якая жыве і працуе пад высокай апекай Божай Маці. Ніл Гілевіч 15.XI.11*» (Ніл Гілевіч. Пацеркі Божай Маці. Лірыка 2009 – 2010. Мінск : Про Хрысто, 2011).

5. «*Тамары Пятроўне Аўсяннікавай – на ўспамін пра філфакаўскія гады. Складальнік гэтай кнігі – Ніл Гілевіч 15.XI.11*» (Ніна Гілевіч. З рабочых сшыткаў філолага. Мінск : Про Хрысто, 2010).

6. «*Тамары Пятроўне Аўсяннікавай ад мяне і ад складальніка гэтай унікальнай кніжачкі. Ніл Гілевіч 15.XI.11*» (Люблю цябе, жыццё… Штрыхі да партрэта народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Складанне і прадмова Яўгена Стасевіча. Мінск : Кнігазбор, 2011).

7. «*Тамары Пятроўне Аўсяннікавай, якая ў любві да паэзіі не ведае страху. З найлепшымі зычэннямі і сардэчнай павагай Ніл Гілевіч. 15. XI.11*» (Ніл Гілевіч. Замова ад страху: новая кніга паэзіі. Мінск : Медысонт, 2009).

«Замову ад страху» Н.С. падпісаў і Таццяне Снігіровай, якая дапамагла мне падрыхтаваць буклет з віншаваннем і артыкулам «Вера ў слова матчына»: «*Таццяне Снігіровай – таленавітай паэтцы і руплівіцы на ніве Слова. Шчасця і плёну ў працы Вам! 18.XI.11. Ніл Гілевіч*».

***P.S.*** *Водгук «Самацветы мовы беларускай» на кнігу «Пацеркі Божай маці» быў надрукаваны ў газеце «Наша слова» 21 снежня 2011 года.*

***

У 2011 годзе я прыняла рашэнне напісаць нарыс пра жыццё і творчасць Яўгеніі Янішчыц і атрымала блаславенне Ніла Сымонавіча. Пачала збіраць матэрыял. Сустрэлася з сынам паэткі Андрэем, аднакласніцай Жэні Раісай Ганчарык, сябрам Ф.Ф.Цудзілы, настаўніка Жэні, Сяргеем Карыцька. Наведала Піншчыну, Літаратурны музей Я.Янішчыц, пазнаёмілася з арганізатарам музея Антанінай Паўлаўнай Сідарук. Пачаліся пошукі аднакласнікаў, настаўнікаў, родзічаў…

***

2012 год у маім жыцці стаў знакавым. 12 красавіка мяне разам з Сяргеем Украінкам і Міхасём Булавацкім прынялі ў СБП. Пачало працаваць Магілёўскае аддзяленне СБП. Я вельмі ўдзячна Н.С. Гілевічу, М.А. Яцкову і Я.І. Клімуцю, якія далі мне рэкамендацыю. 12 красавіка сустрэцца з Н.С. не атрымалася.

Першым мяне павіншаваў Васіль Жуковіч. А членскі білет № 660 уручыў Эдуард Акулін.

9 ліпеня 2012 года я прачытала Нілу Сымонавічу словы Жэні Янішчыц, выказаныя ёю ў лісце ад 5 мая 1974 года да Галіны Каржанеўскай: «Бачыла неяк мімалётна на праспекце зусім сівога Ніла Сямёнавіча. Проста здалёк, дык галава белая, як снег у золь. Думаю часта, што натура ў гэтага чалавека глыбокая і таемная». На што Ніл Сымонавіч сказаў: «*Вельмі ўражаны тымі азначэннямі, якія дала Жэня сівому паэту. Натура глыбокая – гэта зразумела. Адкуль узяла другі эпітэт – таемная? І як угадала! Гэта ёй робіць гонар*».

У 2012 годзе, пасля амаль трохгадовага перапынку (нідзе не працавала), мяне запрасілі ў Цэнтр творчасці

дзяцей і моладзі «Агат» г. Магілёва кіраўніком літаратурнага клуба «Святліца».

У размове з Віктарам Шніпам пра выдавецкія справы я спыталася, ці плануецца выданне збору твораў Я. Янішчыц. На што В. Шніп сказаў: «Вось і вазьміцеся». Я задумалася і прапанавала кандыдату філалагічных навук Святлане Калядка ўзяцца разам за гэтую справу і атрымала згоду. Падключылі сына Я. Янішчыц. Нарыс адышоў на другі план.

25 лістапада ў 24-ю гадавіну смерці Я.Янішчыц наведала яе магілу разам з пісьменнікам Васілём Жуковічам, Святланай Калядка, аднакласнікамі Я.Янішчыц [Раісай Ганчарык, Раісай Базылік, Нінай Макарскай (вучылася ў паралельным класе)]. Потым гасцявалі ў Васіля Аляксеевіча і Веры Мікалаеўны Жуковічаў, успаміналі Жэню.

Васіль Жуковіч папрасіў перадаць Ялінцы Салаўёвай кнігу «Пра што гаманілі рамонкі»: «*Вельмішаноўнай, дарагой, мілай Ялінцы Салаўёвай і ўсім яе родным – з пачуццём гордасьці, што ёсць такія людзі – вы, Салаўёвы, годныя, мужныя, улюбёныя ў родную мову. Для мяне вы – сумленне Бацькаўшчыны.*

*Зычу вам моцнага здароўя, радасьці і перамогі ў сьвятой справе!*

*25.11.12. Васіль Жуковіч*».

Кнігу «Пра што гаманілі рамонкі» я атрымала ў падарунак з дарчым надпісам крыху пазней: «*Дужа сімпатычнай Тамары Аўсяннікавай – з пажаданнем новых творчых дасягненняў, цудоўнага настрою, асабістага шчасця, надзейнага, нездрадлівага!*

*P.S. Дзякуй за фотачкі. Васіль Жуковіч.*

*5 сьнежня 2012 г.*».

26 лістапада а 13 гадзіне сустрэлася з народнай артысткай Беларусі Марыяй Георгіеўнай Захарэвіч. Размова ішла пра Я.Янішчыц.

У гэты ж дзень наведала Ніла Сымонавіча (16.00 – 19.00). Ён быў у добрым настроі, радаваўся, што свет адкрыўся пасля аперацыі на левым воку, якую зрабілі ў верасні 2012. Доўгі час аперацыя адкладвалася, многа процівапаказанняў было. Адно з галоўных – цукравы дыябет. Распытаў, як прайшла сустрэча, ці быў хто з кіраўніцтва Саюза, бо збіраліся далучыцца. Паўспаміналі Жэню. Памянулі – выпіўшы па кропельцы каньяку.

Параілася наконт некаторых вершаў. Паслухалі песню «Талісман» (словы Ніла Гілевіча) у выкананні Дзмітрыя Смольскага, яго і музыка.

Падпісаў мне шосты том збору твораў. Такім чынам, у мяне атрымалася дзве аднолькавыя кнігі з аўтографамі:

1. «*Дарагой Тамары Пятроўне Аўсяннікавай – самаадданай у любові да паэзіі, нястомнай у клопатах пра роднае слова. З сяброўскай павагай – Ніл Гілевіч. 31.1.12*».

2. «*Дарагой Тамары Пятроўне Аўсяннікавай – на ўспамін пра сустрэчу, з радасцю за Вашы новыя творчыя плёны. Ад сэрца – Ніл Гілевіч. 26.XI.12*».

Падпісаў шосты том Збору твораў (Паэзія. Творы для дзяцей) і Ялінцы Салаўёвай: «*Ялінцы Салаўёвай – у вялікую шчаслівую дарогу, з родным словам у сэрцы.*

*Помні: на цябе глядзіць Беларусь. Ніл Гілевіч. 26. XI.12*».

Выразка з газеты пра Ялінку і яе фота стаялі за шклом у кніжнай шафе: «*Як прачытаў пра яе – аж праслязіўся. Калі ў нас ёсць адна такая Ялінка, ёсць надзея, што не ўсё страчана*».

Ніл Сымонавіч непакоіўся пра лёс Ялінкі. Разважаў: ці добра тое, што яна адна ў класе, каб хоць не пашкодзіла ёй гэта ў жыцці. Пажадаў, каб быў нейкі рэзананс пры ўручэнні кніг. Рэзананс атрымаўся, але не той,

на які мы разлічвалі, таму што дырэктара сярэдняй школы № 1 спалохала імя Гілевіча. І яна паведаміла ў аддзел адукацыі Ленінскага раёна г. Магілёва аб маёй просьбе правесці ўрачыстую лінейку ў школе. Дазволу не далі. Кнігі ўручылі Ялінцы Салаўёвай на адным з пасяджэнняў Магілёўскага аддзялення СБП.

*Нілу Гілевічу*
*і Ялінцы Салаўёвай*

То не вецер ломіць,
Не маланка паліць,
То паэта годнасць
Топчуць,
бэсцяць,
ганяць.

Божа ж, ты мой Божа,
Прасвятлі ім вочы,
Каб жа не блудзілі
Ані ўдзень, ні ўночы.

А Ялінцы-кветцы
Шчасце дай і сілу,
Праз яе павага
К мове не загіне.

***

Наведала Ніла Сымонавіча 12 студзеня 2013. Я прыйшла з цудоўным букетам кветак, чым вельмі здзівіла і парадавала Ніла Сымонавіча. Пагаварылі зноў пра яго зрок. Ён не мог нацешыцца, што святло адкрылася. Пасмяяліся, што цяпер мы глядзім адзін на аднаго левым вокам, бо і ў мяне была такая ж аперацыя на левым воку. Атрымала ў падарунак тры кнігі з аўтографамі.

1. «*З Новым годам! Н.Г. Дарагая Тамара Пятроўна, шчыра дзякую за душэўны ўдзел у маёй юбілейнай эпапеі. Добрага здароўя Вам і ўсякіх радасцяў! 12.1.2013 Ніл Гілевіч*» (Узрост вышыні. Да 80-годдзя народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Мінск : Канфіда, 2012).

У кнігу ўвайшлі 4 маіх артыкулы і 2 вершы. Адзін артыкул «Вялікі дзякуй за тое, што Вы ёсць!» перадрукаваны без пачатку, таму ў кнігу не трапілі выказванні Алы Маскальковай, Святланы Станкевіч, Жанны Жураўлёвай, Алены Асадчай і Раісы Селязнёвай. Але ж ужо нічога не зробіш.

Ніл Сымонавіч выказаў сумненне, ці патрэбна было рабіць гэтую юбілейную кнігу. Ён быў супраць, але сябры ўгаварылі.

2. «*Дарагой Тамары Пятроўне Аўсяннікавай – мае драматургічныя спробы. На ўспамін пра наш філфак і ўсе сяброўскія сустрэчы. З павагай і любоўю – Ніл Гілевіч 12.1.13*» (Ніл Гілевіч. Збор твораў: у 23 т. Т. 13. Мінск, 2012).

3. «*Тамары Пятроўне Аўсяннікавай. Гэта самая дарагая мне з усіх маіх кніжачак. Бо самая балючая. Ад сэрца – Ніл Гілевіч 2013 (*12.01. – *Т.А.)*» (На флейце самоты. Мінск : Про Хрысто, 2004).

Н.С. падпісаў кнігу «Узрост вышыні» і Людміле Юманавай, загадчыцы абанемента Магілёўскай гарадской бібліятэкі-філіяла імя А.С. Пушкіна, яе нататка аб вечарыне, прысвечанай юбілею народнага паэта, таксама была надрукавана ў кнізе: «*Паважанай Людміле Пятроўне Юманавай на ўспамін пра адзін юбілей, – з удзячнасцю і найлепшымі пажаданнямі Ніл Гілевіч 12.01.2013*».

У гэтую сустрэчу я перадала буклет з віншаваннем ад сяброў ТБМ, якое я напісала па просьбе Алега Дзьячкова (буклет аформіў Сяргей Дымкоў):

«Паважаны Ніл Сымонавіч!

Сябры Магілёўскай суполкі Таварыства беларускай мовы дасылаюць Вам свае шчырыя віншаванні з Новым годам і Калядамі!

Мы радуемся магчымасці выказаць Вам словы захаплення Вашай творчасцю, словы ўдзячнасці за Вашу грамадзянскую пазіцыю. Хвалюемся за Вас і радуемся кожнай добрай навіне.

Ваша паэзія кранае нашы сэрцы, у ёй – моц і прыгажосць нашай бацькоўскай мовы, яна дорыць нам ласку і надзею, дае нам неабходную падтрымку ў складаных акалічнасцях сучаснага жыцця. Спадзяемся на сустрэчы з Вамі і хочам, каб Вы жылі доўга і ў добрым здароўі.

Жадаем шчаслівага Новага году, поспехаў, натхнення, добрых сяброў, шмат радасных хвілін у будучым годзе».

***

Прыехалі Каляды,
усе Калядам рады.
Адчыняйце дзверы шырэй,
сустракайце гасцей:
госці-калядоўшчыкі
з далёкай Магілёўшчыны,
шчырыя беларусы,
воласам русы.
Прыйшлі не за шчадротай,
да Ніла Гілевіча з пашанотай.
Нізка кланяюцца гаспадару –
быць у хаце дабру.
Перахрысціліся на кут –
прыміце здароўя пуд,
Віфліемаву зорку –
хай свеціць на падворку,

мяшэчак слоў ад народа,
каб пісалася ў любую пару года.
Месяц у вядзерцы,
сонейка ў акенцы.
Слава Гаспадару Гаспадаровічу,
шаноўнаму Нілу Сымонавічу.

*05.01.2013 г.*

***

Наведала Н.С. 18 ліпеня 2013 года. Перадала 2 нумары «Дняпроўскай стромы». Атрымала тры аўтографы.

1. «*Дарагой Тамары Пятроўне Аўсяннікавай – на ўспамін пра родны філфак, пра той незабыўны час, калі так светла марылася пра будучыню… Буду рад, калі гэты том дапаможа Вам зноў перажыць многае, дарагое душы і сэрцу… Ніл Гілевіч 18.7.2013*» (Ніл Гілевіч. Збор твораў: у 23 т. Т. 21. Мінск, 2013).

2. «*Дарагая Тамара Пятроўна, гэтыя аповеды вартыя тых, хто шануе і любіць беларусаў за іх чалавечнасць, за іх прыродны гумар. Ад сэрца – Ніл Гілевіч. 18.7.13*» (Едзь ты ў Хрунзю. Вусныя аповеды Ніны Іванаўны Гілевіч у запісе іх першага слухача. Мінск: Про Хрысто, 2013).

3. «*Дарагая Тамара Пятроўна, гэтай кніжачцы 56 гадоў ад роду, і я вельмі рад, што Вы яшчэ са студэнцкіх дзён яе захоўваеце – не кожнаму аўтару так шанцуе. Удзячны лёсу Ваш былы выкладчык філфака Ніл Гілевіч. 2013* (18.07. – *Т.А.*)» (Ніл Гілевіч. Песня ў дарогу. Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Рэдакцыя мастацкай літаратуры, 1957).

Н.С. папрасіў перадаць 13-ы том Рагаўцову: «*Шаноўнаму Васілю Іванавічу Рагаўцову, слыннаму навукоўцу, першаму, хто ўважліва і добразычліва дасле-*

*даваў мае спробы ў драматургіі, тым больш – у плане моўнага майстэрства. Дзякую! Поспеху і плёну Вам на абранай творчай ніве! 18.07.2013 Ніл Гілевіч*».

Была нядоўга. Зайшла Вера Іванаўна Галубовіч за матэрыяламі для 22 тома, ужо апошняга са збору твораў.

***

Перадала кнігу В.І. Рагаўцову 21 ліпеня 2013 года і ў той жа дзень паведаміла Нілу Сымонавічу, што яго даручэнне выканана. Папрасіў прабачэння, што не атрымалася як след пагаварыць. Абмеркавалі назву альманаха. Спытаў, якія былі прапановы. Назву «Магілёўская строма» адхіліў. Ухваліў наш бюлетэнь, выказаў пажаданне, каб ён выдаваўся, бо з'яўляецца летапісам літаратурнага жыцця Магілёўшчыны. Такога ніхто не робіць. Назву газеты не трэба пераносіць на альманах. «Замак» адхіліў адразу: «*Вельмі каменная назва. Калі б была назова нейкага гістарычнага замка, помніка архітэктуры, тады іншая справа. «Прытокі» – мае права быць, калі лепшай не знойдзеце, можна і "Прытокі"*».

Назву «Прытокі» прапанаваў і зрабіў абаснаванне сваёй прапановы Міхась Булавацкі.

***P.S.*** В.І.Рагаўцоў падпісаў мне бібліяграфічны даведнік «Прафесар Васіль Іванавіч Рагаўцоў: навуковая і навукова-педагагічная дзейнасць, літаратурная творчасць (да 60-годдзя з дня нараджэння). Складальнік Я.Я.Іваноў. (Магілёў: УА «МДУ імя А. А.Куляшова», 2011): «Паважанай Тамары Пятроўне Аўсяннікавай з пажаданнем далейшых поспехаў у паэзіі і крытыцы. Васіль Рагаўцоў 17.XII.2013».

Так здарылася, што В.І.Рагаўцова (1952 – 2016), доктара філалагічных навук, прафесара, паэта, праводзілі ў апошні шлях у адзін дзень з Нілам Гілевічам, 1 красавіка 2016 года.

***

**27.07.2013.** Гаварылі з Нілам Сымонавічам па тэлефоне пра мову. Што не трэба вяртацца да правапісу Тарашкевіча. Быў час, калі ўзнікла неабходнасць выпрацаваць свае правілы маўлення і напісання, каб не капіраваць рускую мову. Тады гэтая справа была даручана Тарашкевічу. Ён зрабіў ухіл да польскай мовы. Н.С. выказаў пажаданне вярнуць і што натуральна, на яго погляд, для беларускага маўлення, – гэта мяккі знак. Напрыклад, у такіх словах, як «сьнег, сьмех», а таксама пры падваенні зычных. «Але хто мяне слухае», – прамовіў Н.С. са шкадаваннем.

Зноў успомнілі назву альманаха. Я сказала, што ёсць прапановы: «Ратуша» і «Брама». Абедзве назвы ўхваліў.

***

У канцы 2013 г. выйшаў першы нумар літаратурнага альманаха «Брама».

24.01.2014 г. пазваніла Данута Бічэль-Загнетава: «*Мне трапіўся ў рукі ваш альманах, і я прачытала артыкул «Загадкавы палёт». Тамара, навошта вы выносіце чорны бок жыцця, трэба толькі светлае. Калі вы звярнуліся да містыкі, то беражыце сябе ад яе. Прачытала вашы вершы. Добрыя. Адчуваеце слова, ёсць душа, ёсць што сказаць. Пішыце вершы. Пра настаўнікаў добра напісалі*» (Артыкул «Мы жывём – пакуль нас помняць. Да 90-годдзя БДУ»).

Пагаварылі. Завочна з Данутай Іванаўнай мы былі знаёмыя. Некалькі разоў я ёй тэлефанавала, распытвала пра яе зносіны з Яўгеніяй Янішчыц. Успаміны напісаць яна адмовілася.

У канцы ліпеня я атрымала ад Дануты Іванаўны (па маёй просьбе) кнігу «Правінцыя святога Францішка. Казкі жыцця» (Гародня : ЮрСаПрынт, 2013) з аўтографам:

«*Тамары Аўсяннікавай – жадаю натхнення і поспехаў у доўгіх дакладных дасканалых пошуках слядоў сваёй сяброўкі Жэні, за якую прыходзіцца жыць.*

*Але ж гэтая кніга – гэта не даследаванне, але казкі жыцця маіх сяброў і сяброваак, якія яны мне расказалі – Данута Бічэль. 15.07.2014*».

Кнігу прачытала з задавальненнем, знайшла многа для сябе цікавага, бо аўтар піша і пра тых, каго я ведала ці ведаю. Данута Іванаўна ўдзячна ўсім, хто да яе хіліцца. А пра сябе ў кнізе кажа: «…я адзінокая паэтка, якая пад канец жыцця перайшла на прозу. Пісаць вершы трэба мець шмат не толькі духоўнай, але і фізічнай сілы» (с.127).

Данута Бічэль глыбока веруючы чалавек: «Беларусы сваіх моцных братоў-ворагаў могуць перамагчы толькі ўласным паражэннем... Прыніжэннем, ганьбай, здзекам… Не бойцеся і не саромцеся гэтага шляху, яго чалавецтву падказаў Бог наш Езус Хрыстус!» (с.17).

Мы можам не пагаджацца, але параўнаем: «Бо што за пахвала, калі вы церпіце, калі вас б'юць за праступкі? Але калі робіце дабро і пакутуеце, церпіце, гэта заўгодна Богу (Першае саборнае пасланне святога апостала Пятра, 2:20)».

Свае ўражанні ад прачытанай кнігі я выказала Дануце Іванаўне па тэлефоне, помнячы наказ Ніны Мацяш: «Бойся спазніцца са словам харошым» (верш «Не спазніся»).

***

У 2014 годзе ў Мінску я не была. Ніл Сымонавіч пры кожнай тэлефоннай размове ґаварыў, што мяне чакае 22-і том. Аляксей Карпенка прывёз мне 19-ы том і 22-і з аўтографамі.

1. «*Дарагой Тамары Пятроўне Аўсяннікавай – на ўспамін пра наш філфак. Тут – лекцыі, якія Вы некалі*

*слухалі. Здароўя і ўсякіх радасцяў Вам! Ніл Гілевіч. 2.2.14*» (Ніл Гілевіч. Збор твораў: у 23 т. Т. 19. Мінск : Тэхналогія, 2010).

2. «*Дарагая Тамара Пятроўна, гэтым томам завершаны мой Вялікі Збор. Дзякую за маральную падтрымку, якую праз усе гады я адчуваў. Ад сэрца – Ніл Гілевіч. 2.2.14*» (Ніл Гілевіч. Збор твораў: у 23 т. Т. 22. Мінск, 2013).

Аб завяршэнні працы над 23-томным выданнем я напісала артыкул «Быў час, быў век, была эпоха…», які надрукаваны ў другім нумары альманаха «Брама».

***

У канцы ліпеня 2015 года наведала Ніла Сымонавіча. Атрымала ў падарунак кнігу эсэістыкі «У віры быцця» (Мінск: Кнігазбор, 2015 г.) з дарчым надпісам:

«*Дарагой Тамары Пятроўне Аўсяннікавай, помнячы ўсе нашы сустрэчы і размовы аб самым дарагім – аб роднай Беларусі і лёсе роднага слова. У кнізе пераважае боль і гаркота, але – будзем верыць у лепшае, у светлае. З удзячнасцю за ўвагу да маіх кніжак. 27.7.2015. Ніл Гілевіч*».

Гэта апошняя наша сустрэча і апошні аўтограф. Адразу напісала рэцэнзію «…Думайма, браткі-беларусы, думайма!» Рэцэнзія была надрукавана ў трэцім нумары альманаха «Брама» і ў газеце «Літаратурная Беларусь» у трэцім нумары за 2016 год.

***

У сакавіку 2016 года чытала «Боскую камедыю» Дантэ на беларускай мове і радавалася. Радавалася і за беларускую літаратуру, якая ўзбагацілася, атрымаўшы гэты несмяротны твор, і за перакладчыка Уладзіміра Скарынкіна, які даказаў, што беларускай мове падуладныя творы такога маштабу. З перaклада-

мі Міхаіла Лазінскага і Аляксандра Ілюшына я знаёма, так што было з чым параўноўваць. Вялікі дзякуй Уладзіміру Скарынкіну і дай бог яму здароўя.

19 траўня гэтага ж года я патэлефанавала Уладзіміру Максімавічу, каб выказаць сваё захапленне перакладам. Быў узрушаны і ўдзячны: «*Я перакладаў і «Новае жыццё» Дантэ, і «Кнігу песень» Петраркі. Я хацеў паказаць, як будуць гучаць на беларускай мове шэдэўры сусветнай літаратуры. Карыстаўся празаічнымі перакладамі і падрадковікамі. Найбольшую асалоду атрымаў ад перакладу «Дон-Жуана» Байрана. Ніколі не адчуваў такой роднасці душы з аўтарам, як з Байранам. Пачытайце, калі не чыталі, не пашкадуеце*».

У «Боскай камедыі» я знайшла назву «Любоў, якая рухае свяцілы» і эпіграф для юбілейнага артыкула, прысвечанага 85-годдзю з дня нараджэння Ніла Гілевіча.

Мой дух знямог і перарваў палёт,
Ды надала маім жаданням сілы,
Як быццам колам раўнамерны ход,
Любоў, якая рухае свяцілы.

Артыкул замовіў мне Эдуард Акулін для часопіса «Верасень», у якім ён і быў надрукаваны (№14/2016), а таксама ў альманаху «Брама» (2016).

***

З Нілам Сымонавічам мы звычайна размаўлялі не радзей аднаго разу на месяц, калі і два разы. Апошнія гады ён хварэў і на запытанне, як Вы пачуваецеся, заўсёды адказваў: «*Няма чым хваліцца. Лепш кажыце, што ў вас*». А на пытанне, чым займаецеся, часта чула: «*Няма хэнці*».

Зносіны з Нілам Сымонавічам на працягу апошніх дзесяці гадоў дапамаглі мне ўбачыць маштаб таленту пісьменніка, маральную вартасць чалавека, духоўную моц асобы. Вялікая колькасць хвароб фізічна знясілілі, у нечым абмежавалі Ніла Сымонавіча, але не зламалі яго дух. Ён нават распарадак дня не змяніў. Праца над зборам твораў яго трымала і надавала сілы.

Апошні тэлефонны званок мой быў за некалькі дзён да сыходу. Падняў трубку, цяжка дыхаючы. Пачула пазнавальна-шчымлівае: «Слу-у-хаю». Павіталіся. «Выбачайце, мая галубка, гаварыць з вамі не магу, сілы пакідаюць мяне», – прамовіў слабым, знясіленым голасам. Развіталіся. Назаўсёды. Я ведала, адчувала непазбежнасць.

29 сакавіка перастала біцца сэрца Волата беларускай літаратуры, вялікага змагара за беларушчыну. Перастала біцца сэрца чалавека, які стаў для мяне вельмі блізкім і дарагім.

1 красавіка 2016 года ў Свята-Петрапаўлаўскім саборы тысячы беларусаў развітваліся са сваім Народным паэтам. З Магілёва былі я, Алег Дзьячкоў (старшыня Магілёўскага ГА ТБМ імя Ф. Скарыны), сябры СБП Міхась Булавацкі, Фелікс Шкірманкоў (Слаўгарад).

Ніл Сымонавіч Гілевіч прайшоў выпрабаванні і лірай, і меднымі трубамі. Прайшоў усе кругі зямнога пекла. І чысцец прайшоў. Цяпер яму адкрыта дарога ў рай. І там сустрэне Ніна Іванаўна свайго «дарагога Ніла», як сустрэла Беатрычэ Дантэ. Цяпер яны разам назаўсёды.

Давайце памаўчым прад вечнасцю таго, каго не бераглі як след.

***

5 траўня 2016 года атрымала ад Тамары Сяргееўны Нуждзіной, кандыдата філалагічных навук, з дарчым надпісам яе манаграфію «Ніл Гілевіч: маштабнасць таленту і веліч асобы», якая выйшла ў выдавецтве «Про Хрысто» накладам у 200 асобнікаў:

«*Тамары Пятроўне Аўсяннікавай – з вялікай прызнасцю за Вашу прыхільнасць і захапленне магутнай постаццю нацыянальнага генія Ніла Сымонавіча Гілевіча. 30.04.2016. Подпіс*».

Прачытала з вялікай цікавасцю. Парадавалася, што Ніл Сымонавіч змог не толькі патрымаць у руках кнігу, але і прачытаць, падзячыць аўтару і зрабіць некалькі дарчых надпісаў. Ніл Сымонавіч, калі яму распавядалі пра кнігу, якая рыхтуецца, любіў гаварыць: «*Каб хоць патрымаць яе ў руках*», маючы на ўвазе: дачакацца выдання.

Гэта другая манаграфія па творчасці пісьменніка, нягледзячы на яго доўгі літаратурны шлях. Нельга сказаць, што пра творчасць і асобу Ніла Гілевіча не пісалі. Пісалі многія аўтары. Але такой працы, як манаграфія Тамары Нуждзіной, не было. Яна разлічана на шырокае кола чытачоў, таму аўтар акуратна карыстаецца навуковай тэрміналогіяй. Тут ярка праявіўся публіцыстычны талент аўтара манаграфіі, талент эсэіста. Гэта ні ў якім разе не робіць працу менш значнай.

Кампазіцыя манаграфіі традыцыйная, але добра прадуманая. Яна складаецца з двух раздзелаў: «Ніл Гілевіч і фальклор» і «Ад паэзіі красы, прозы быцця да вышыняў святасці».

У першым раздзеле аўтарам манаграфіі асвятляецца чатыры тэмы:

1. Шчаслівы лёс – плаціць любоўю…: панарамны зрэз мастацкага мыслення творцы.

2. Вобразна-песенны лад лірыкі 60-80-х гадоў.

3. Святло жаночай душы ў мастацкай прасторы ліра-эпасу Ніла Гілевіча.

4. Народная школа песеннай стылістыкі ў мастацкім вопыце паэта.

У другім раздзеле – тры тэмы:

1. Янка Купала ў жыццёвым і творчым лёсе вучня і паслядоўніка.

2. Станаўленне літаратурна-эстэтычных канцэпцый і руская класіка.

3. На цярністым шляху да боскасці.

Толькі пералік разгледжаных у раздзелах тэм сведчыць, як глыбока зазірнуў аўтар у творчасць пісьменніка і вучонага. Праца чытаецца лёгка. Тамара Нуждзіна выдатна валодае мовай, матэрыялам, з якім працуе, доказна і лагічна разглядае кожную азначаную тэму. Добра прадуманы эпіграфы да кнігі і яе раздзелаў. Паэтычныя радкі Ніла Гілевіча выкарыстаны ў якасці эпіграфа да ўсёй кнігі:

Ва ўсім застануся сабою, ва ўсім –
У думках,
у словах,
у чыннасці.

І да другога раздзела:

О, Беларусь!.. – Няхай усклікну
І я – за волатам ўслед.
Як пілігрым нясе малітву –
Так я нясу іх запавет.

Да першага раздзела аўтар скарыстала паэтычныя радкі Валянціны Коўтун:

Ідзіце ж, хмары, дождж нясіце краю
Для ачышчэння вечнае красы.
Мне з'ехаць нельга…
Бо не хопіць, знаю,
Для тых даджоў якраз маёй слязы.

З вялікім густам аформлена кніга. Далікатныя і таленавітыя ў сваёй прастаце працы мастака Дар'і Чупрыс разам з тым заключаюць у сабе глыбокі падтэкст. На вокладцы светла-шэрага колеру некалькі галінак вярбы з яшчэ не распукнутымі коцікамі і вясковая клямка на нябачных дзвярах. І вось Тамара Сяргееўна і Дар'я Чупрыс, кожная сваімі мастацкімі сродкамі, знялі гэтую клямку, адчынілі дзверы ў духоўны свет Ніла Гілевіча. А Тамара Нуждзіна з асаблівай уважлівасцю філолага раскрыла «маштаб таленту і веліч асобы» народнага паэта, пісьменніка, публіцыста, навукоўца «на цярністым шляху да боскасці».

На адваротным баку вокладкі – тыя ж галінкі, але ўжо з адламаным верхам, і накінута клямка. Клямка накінута, але не зачынена ні на замок, ні на драўляную трэску. Тут аўтар разам з мастаком гавораць чытачу (не, не толькі чытачу), а хутчэй крытыкам, літаратуразнаўцам, даследчыкам, што ўваход адкрыты. Клямка толькі прыкрывае абазначаную і разгледжаную тэму.

Адчыняйце, калі ласка!

*[1]Брама : літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. Вып. 5, 2017. – Мінск : Кнігазбор, 2017. – 240 с. – С. 171 – 186.*

*Нілу Гілевічу*

Няўтульна голаму Дрэву
позняй восенню.
Маўчыць Яно.
І ёсць штосьці высокае і
трагічнае ў гэтым маўчанні.
Трапеча на ім адзінокі лісток,
распяты ветрам і сцюжаю,
і маё сэрца трапеча
разам з тым лістком,
і маё цела сцінае холад,
як сцінае ён тое Дрэва.
Ад голькі лісток адарваўся
і, падхоплены ветрам,
закружыўся мройна-шчаслівай
мелодыяй палёту.
З тым лістком кру-жу-ся,
апускаюся на зямлю і я.
І мы трапляем пад абцас
няспыннага часу.

*2010 г.*

*Доля мая – нібы гронка любові*
*Б'ецца над сцішанай голькай жыцця.*



## ЛІСТ ДА ЖЭНІ ЯНІШЧЫЦ

Дзень добры,
шчыры сябра мой,
са светлаю душой
і сэрцайкам чуллівым!
Пішу табе ў нябыт
з удзячнасцю за дабрыню,
за радасць стрэч
і за паэзію,
што свеціць нам і сёння.
Душа твая
праз верш са мной гамоніць
і новым сэнсам адкрываецца.
І голас твой
крыляе над зямлёю
птушкай вольнай,
якую прыручыць ніхто не змог.
Я веру – ты мяне пачуеш.
Паклон прымі ад нас
і грэшным нам даруй!
Даруй…
                    Даруй…
                                        Даруй…

*29.10. 2016 г.*

## НЕПРЫРУЧАНАЯ ПТУШКА[1]

Мне па душы глухія пушчы,
Лістоты замяць на дварэ.
Я непрыручанаю птушкай
Жыву між сполахаў і дрэў.

*Яўгенія Янішчыц*

### «Непаўторныя мінуты…»

Яўгенія Янішчыц?!.. Першыя паэтычныя творы з’явіліся ў рэспубліканскім друку ў 1964 годзе, калі яна яшчэ вучылася ў школе. Першая кніга «Снежныя грамніцы» выдадзена ў 1970 годзе ўжо студэнткай БДУ. Прыход у літаратуру Яўгеніі Янішчыц быў яркім і незвычайным, як грамніцы ў лютым.

Непаўторныя мінуты
Бальшакоў і блізкіх сёл:
Хоць лютуе люта люты –
Неба ясніцца вакол.
……………………………
Мне таксама не сядзіцца –
Фарбы й гукі – напралом,
Аж пакуль грымяць грамніцы
За бярозавым сялом.

Жэня, ці Жорж, як мы яе называлі, была невялікага росту, шчупленькая, з удумлівымі зялёна-карымі вачыма, сарамлівай усмешкай, з ямачкамі на шчоках. Асаблівую прывабнасць і жаноцкасць прыдавалі ёй

валасы: як пушча, як травы. Прычоску Жэня насіла заўсёды пышную, толькі пазней, у больш сталым узросце, часам гладка зачэсвала іх.

Першы зборнік сведчыў аб тым, што ў беларускую літаратуру прыйшла таленавітая і самабытная, па-дзіцячаму цнатлівая і даверлівая, па-юнацку летуценная і вясёлая, трывожная і няўрымслівая, па-дарослаthinking му мудрая і да ўсяго – шчаслівая паэтэса.

Вельмі многа значыла для Жэні, бадай усё, любоў: «Пачынаецца ўсё з любві, // А інакш і жыць немагчыма».

**1971 год.** Яўгенія Янішчыц атрымала дыплом аб заканчэнні БДУ. Саюз пісьменнікаў прапанаваў ёй вучобу ў Маскоўскім літаратурным інстытуце імя Горкага з інтэрнатам і стыпендыяй у 90 рублёў. Паэт Сяргей Панізнік – руку і сэрца. Жэня выбрала апошняе. Сяргей быў статны, прыгожы малады чалавек у вайсковай форме, добра адукаваны, цікавы субяседнік. Сэрца не адной дзяўчыны і жанчыны ўзята ў палон яго чарамі. І Жэня не стала выключэннем. Выключным стала яе каханне.

На сваім вяселлі ў мінскім рэстаране «Журавінка» Жэня была шчаслівай. Гэта пазней – у рэанімацыі Магілёўскай гарадской бальніцы – яна скажа: «За ўсё трэба плаціць. За шчаслівае жыццё – таксама».

## Тры трагедыі

Трагічна загінуў бацька Жэні Іосіф Патапчук пад коламі трактара. Тут трэба зрабіць адступленне ў гісторыю прозвішча паэтэсы. Маці, Марыя Андрэеўна, была замужам і насіла прозвішча Янішчыц. Муж загінуў у час вайны, а Іосіф Патапчук застаўся без жонкі. Вось і сталі жыць разам. Аб рэгістрацыі шлюбу ніхто не думаў. 20 лістапада 1948 года нарадзілася дзяўчын-

ка, і яе запісалі Яўгенія Янішчыц. Калі дачка стала знакамітай, бацька зрэдку выказваў шкадаванне, што ў дачкі не яго прозвішча, але Жэня ласкава заспакойвала бацьку. Яна адчувала адказнасць за прозвішча, якое насіла. У вершы «Памяці Ёзаса Янішчыца» яна напіша:

Мне як памяць адзіная
Ад журботных удоў –
Ваша прозвішча дзіўнае
З латышскіх стралкоў.

Я у полымі вогнішчаў
Чую часу біццё…
Расстралянаму прозвішчу
Абяцаю жыццё.

У 27 год трапяткому сэрцу Яўгеніі Янішчыц выпала яшчэ адна трагедыя: перажыць вялікі боль і здраду – расстанне з каханым. Не такім мроілася ёй сямейнае шчасце: «Прыйшла у сад, які увесь барвовы!.. // А думала: «Прыйду ў зялёны сад…».

І вось з гэтымі дзвюма незагойнымі ранамі яна прыязджае ў лютым 1976 года ў Магілёў. Пры пераходзе праспекта Міру, насупраць гасцініцы «Магілёў», яе збіла машына «хуткай дапамогі». Жэня разам з паэтам Аляксеем Пысіным вярталася пасля сустрэчы з чытачамі.

Я атрымала ад Жэні ліст з запрашэннем сустрэцца ў гасцініцы «Магілёў» пасля 20 гадзін. Я збіралася наведаць. І наведала, але ўжо ў рэанімацыі гарадской бальніцы. Мне пазваніў Аляксей Пысін па просьбе Жэні і, хвалюючыся, расказаў, што здарылася і дзе яна зараз.

У запісцы Жэня пісала: «*Ляжу ў такой дзіўнай пасцелі з падвескамі і думаю, думаю. А таму яшчэ больш*

*хандра і сум. Але ўсё – як-небудзь*». Жэня была мужнай, вельмі хацела выкарабкацца са свайго становішча, перажывала за сына Андрэйку, за маці. Старалася не паказваць, як цяжка ёй, нават кпіла з сябе. Каб неяк адарвацца ад сваіх невясёлых думак, прасіла прыносіць кнігі, часопісы, паперу. Яна чытала і пісала.

У маладой журбе
Мой новы дзень імжыць.
З табой і без цябе
Я прывыкаю жыць.

Доктар М. Ключыц у заметцы «Аўтограф… у рэанімацыі» («Магілёўская праўда», 16 жніўня 1994 г.) піша, што Я.Янішчыц «дайшла да сярэдзіны дарогі. І раптам… У імгненне вока павярнулася і назад – пад колы “хуткай”».

Так яно, напэўна, і было. Ды сама Жэня гэтага не помніла. Яна так магла ўглыбіцца ў свае думкі, што нічога не заўважала вакол сябе. А думаць ёй было аб чым.

Калі б што наўмысна, я б ведала. Яна б мне сказала. Падставу для гэтага мне дае сяброўства з Жэняй з 1967 года. Мы жылі ў адным пакоі чатыры гады. Я стала першай, каму Жэня чытала свае новыя вершы. Можа, таму, што я была больш цярплівай да яе начной творчасці.

Жэню трывожыла пытанне аб сваім прызначэнні, яна імкнулася ўсвядоміць, хто яна для Радзімы (верш «Яшчэ душы маёй раздольна»).

Да гістарычнага мінулага Магілёва і Магілёўшчыны Яўгенія Янішчыц адносілася з шанаваннем. Іх яна звязвала з імёнамі А.Куляшова, М.Гарэцкага, А.Пысіна, С.Гаўрусёва. Апошні не адзін раз бываў у нашым інтэрнацкім пакоі на Паркавай. Па вуліцах Магілёва

хадзіў і яе каханы – Сяргей Панізнік, калі вучыўся ў медыцынскім вучылішчы.

Як проста ўсё,
Як хараша было!
Між намі лета буйнае цвіло.
Былі лугі і звонкія ільны…
Ні роспачы,
Ні болю,
Ні віны…
Як добра ўсё,
Як добра ўсё было!
Няўжо так хутка лета адцвіло?

Я атрымала віншаванне з Новым 1978 годам на рускай мове: «*Извини, пожалуйста, что долго молчала: «переживала» время. Серж П. женился, давно. Привёл при моей бытности на квартиру жену. Мне, конечно, пришлось уйти… Но теперь есть своя, две комнаты. Сын пока у мамы. После Нового года заберу. Творю, пишу…*».

Я наведала Жэню на Ульянаўскай, 4. Многа нязручнасцей было – першы паверх, вокны вельмі нізка. Але і за гэта вялікі дзякуй Барысу Сачанку. Ён падтрымаў яе ў цяжкую хвіліну. Мы гаварылі з Жэняй і не маглі нагаварыцца. Аб сваім жыцці і аб жыцці вялікіх. Дзень прайшоў, і ноч на зыходзе. Я спытала:

– Колькі ж ты была шчаслівай?

– Два тыдні.

У тую ноч мы імкнуліся зразумець лёс У. Маякоўскага і С. Ясеніна. Самагубства – гэта сіла ці слабасць?! Да высновы мы не прыйшлі. То нам здавалася, што гэта слабасць, потым пярэчылі самі сабе. Ясна было адно: Жэня супраць самагубства. Але душэўны стан сяброўкі мяне трывожыў.

– Ты за мяне не хвалюйся. У мяне ёсць выйсце – вершы. Калі б не пісала, страціла б розум.

У гэтую сустрэчу я зразумела, што Жэня яшчэ кахае былога мужа.

За што, скажы, твой вобраз мілы
Насіла ў сэрцы, як магла?
І разлюбіць – не разлюбіла.
І зберагчы – не зберагла.
*«Хвіліны пройдуць дарагія»*

Самыя высокія памкненні душы і сэрца былі растаптаны, зняважаны. Паэтка разумела: змяніць мінулае нельга. Але спадзявалася, што да яе прыйдзе вясна, і мела ў сабе сілы чакаць.  У вершы «Я пачакаю» пісала:

Нічога не вяртаецца назад:
Ні гэты міг, ні гэты дзень, – я знаю.
Ты адыходзіш ціха ў снегапад,
А я люблю вясну. Я пачакаю.

Разрыў-трава. Нязбітая раса.
Халодны ветах блудзіць каля гаю.
І наша сцежка жытам прарасла.
А я люблю жніво. Я пачакаю.

Ідуць дажджы – хоць з хаты не вылазь,
Бяссоння год, як лён, перабіраю.
На туфельках, на белым плацці – гразь.
Я не люблю слаты. Я пачакаю.

З цыкла вершаў пад назвай «Маё адно-адзінае світанне» мы даведваемся, што Жэня перажыла яшчэ адно выпрабаванне: на валаску ад смерці было жыццё

сына Андрэйкі (жнівень-кастрычнік 1985 г.). Чытаючы гэтыя адзінаццаць вершаў, мы бачым у іх такую глыбіню мацярынскіх пачуццяў, такую роспач і такую надзею!!! Усе радкі ішлі праз боль сэрца.

Маё адно-адзінае світанне,
Мой матылёк на светлай мураве,
Я паўтару ўслед, як заклінанне:
«Няхай мой сын мяне пераджыве!»

*З верша VII*

Я з тонкіх нерваў перавясла ўю,
Каб утрымаўся наш снапок жытнёвы.
Жу-раў-лі-кі, пакіньце салаўю
Зялёны гай і ранак васільковы.

*З верша IX*

Чакаю шчаснай восені празорай,
Дзе мы з табою пойдзем крок у крок,
Лісточак мой на завязі азёрнай…
Ты будзеш жыць! Ты выжывеш, сынок!

*З верша IV*

## Нябыт і Вечнасць

20 лістапада 1988 года Яўгеніі Іосіфаўне Янішчыц споўнілася 40 гадоў. Яна наведала вёску Велясніцу, сустрэлася з роднымі і блізкімі. 25 лістапада адправіла сына ў школу. Аб чым думала яна ў тое імгненне, калі птушкай вылецела з восьмага паверха новай кватэры, аб якой так марыла? Што гэта? Выпадковасць?! На балконе вісела толькі што вымытая бялізна. Ці самагубства?! Вядома гэта толькі ёй адной.

Мяне ў палёце не скарылі.
А будзе што не так – малю:
Скруціце стомленае крылле
І кіньце ў родную раллю.
*«Непрыручаная птушка»*

А ў памяці тых, хто яе ведаў, Яўгенія Янішчыц (ці проста Жэня) застанецца маладой.

Я маю ўсе кнігі Жэні, пяць з іх – з аўтографамі. «Дзень вечаровы» яна падпісала так:

«*Мілая Тамара, адыходзіць усё – як поры года… Але застаецца самае найлепшае ў памяці. Такім промнем застаешся для мяне ты, твая душэўнасць і вялікая чалавечнасць. Хачу, каб табе шчасціла, вязло, свяціла!..*

*Твой Жоржык.*

*Мінск, 8 верасня 1974*».

Кнігу «Спроси у чебреца» на рускай мове мне падарыла Марыя Андрэеўна, маці Жэні, у адну з сустрэч на Старажоўскай кватэры.

Хачу закончыць гэты споведзь на светлай мажорнай ноце радкамі з Жэнінага зборніка «Ясельда» (1978 г.):

Абяцаю снежань па вясне,
Абяцаю верасень зімою.
Абяцаю: ў самым лепшым сне
Мы яшчэ сустрэнемся з табою.

[1]*Магілёўская праўда. – 2000. – 1снежня (№ 50). – С. 12.*

## ПАЛЕСКАЯ ПТУШКА[1]

*Яўгеніі Янішчыц споўнілася б 55 гадоў*

Вось ужо 15 гадоў беларускай паэтэсы няма з намі, але яе вершы нязменна напаўняюць сэрца то радасцю-ўспамінам, то шчымлівым болем дачаснай страты, то захапленнем і вялікай павагай да таленту, яе шчаслівага і разам з тым трагічнага лёсу, які цалкам адлюстраваны ў яе творах.

Жыццё маё – узлёты і падзенні,
Трывожны цень на выстылай сцяне,
І там, дзе сустракаюць па адзенні, –
Наіўныя, не ўбачыце мяне.

Яўгенія Янішчыц нарадзілася на Піншчыне, яе дзяцінства прайшло ў вёсцы Рудка, каля рэчкі Ясельда. Менавіта дзякуючы роднай старонцы з'явілася натхненне і першыя вершы.

Хаджу па нівах, па лугах азёрных,
Начую летуценна ў будане
І думаю, чаму мне так прасторна?
І песня прылятае да мяне.

Яўгенія Янішчыц была таленавітым і шчырым чалавекам, даражыла сяброўствам і такой жа шчырасці чакала ад іншых.

Недалюбіла? Не, не палюбіла
Пазёрства, двухсэнсоўнасць, каламуць.
Ну што б каго мая журба журыла, –
Не-не ды вострым слоўкам упякуць!

У аснове жыццёвых прынцыпаў паэта былі чысціня помыслаў і сардэчная дабрата, імкненне да прыгажосці і адкрыцця. Яна добра ведала цану сказанаму слову і адчувала на сабе ўсе адценні яго значэння.

Нягледзячы на трагічнасць лёсу, паэзія Янішчыц прасякнута святлом. Паэтка разумела, што яе вершы маюць сваю лірычную адметнасць.

Я рада, што праз груд гадоў
Не развучылася смяяцца,
Што выняньчаны мной радок
Не можа з іншымі змяшацца.

*[1]Магілёўская праўда. – 2003. – 28 ліст. (№ 47). – С. 16.*

## «Я ПІСАЛА ТАБЕ ПІСЬМО...»[1]

Я пісала табе пісьмо:
Першы ліст вырваў вецер,
Другі ліст заліла чарнілам,
Трэці ліст застаўся чыстым.

*Я.Янішчыц*
*(з неапублікаванага)*

Набліжаецца лістапад. Гэта месяц Жэні Янішчыц, маёй аднакурсніцы і сяброўкі. Я перабіраю яе лісты і паштоўкі (шкада, што захаваліся не ўсе), перачытваю іх:

«Дорогая Кармен! Очень была обрадована, когда получила весточку о тебе. <...> После долгих путешествий мы опять в Минске. Были в ЧССР. Я – год. Рожала дома, и были с Андрейкой у мамы ещё 6 месяцев. Потом в мае прошлого года Сергей приезжал за нами. <...> А в июле нам выпал счастливый слу-

чай – вернуться на Родину, в Минск. Здесь, в Уручье, мы теперь и живём. Имеем квартиру – две комнаты. Андрейка наш большой и шустрый мальчик, уже ему год и три месяца. Что у меня ещё нового? В этом году выйдет вторая книга стихов. Когда появится – обязательно пришлю. <…>

Крепко целую тебя! Твой Жоржик».

«Прыязджалі на Новы год бацькі Сяргея і павезлі малога на Рыжскае ўзмор'е. А мяне «гложет грусть-тоска», кожны дзень думаю пра сына. Сама разумееш, як дарагі нам цяпер гэтыя малышкі. З імі і жыццё прыгажэй і свет не такі ўжо й паганы, бо ёсць да каго прытуліцца. <…> Дык вот, калі забралі Андрэйку, я ўладкавалася на працу, тут, у в(аенным) гарадку, загадваю бібліятэкай. Два выхадных сярод нядзелі – серада і чацвер, у нядзелю таксама нямнога працы. Галоўнае, ёсць вольны час, што мне і патрэбна, каб пісаць. Бо такое жаданне ў мяне яшчэ не прапала.

Мама прыслала ліст і перадае табе шчырае прывітанне, піша, што хацелася б убачыцца, убачыць цябе. Во як! Я думаю, што выберам час, калі-небудзь ды прыедзеш да нас. Тады і нагаворымся».

«Мілая Кармэн, якой я была радаснай і ўдзячнай, калі атрымала твой ліст і тваё віншаванне. За ўсё гэта – вялікае дзякуй! У нас перамены – і сумныя, і радасныя. Але ўсё гэта – як-небудзь пры сустрэчы. <…>

Моцна цалую цябе. Твой Жоржык.

Прывітанне ад Сяргея, Андрэйкі».

«20 мая 1975 г.

Мілая Тамарка, дзень добры! Шлю табе самыя найлепшыя пажаданні і ўдзячнасць за пісьмо. А мы па-старому… Адзначылі святы майскія, у Сяргея якраз

10 мая быў Дзень нараджэння. Стукнула яму 30 гадоў і яшчэ тры. Дык вось разам і адзначылі юбілей Перамогі і гэты Дзень. Было шмат гасцей і, канешне, шмат работы.

Зараз рабочыя гарачыя дні. Магу пахваліцца: маю першую кніжку запрасіў англійскі інстытут літаратуры. Не ведаю, навошта яна ім спатрэбілася. Але, канешне, падзея для мяне прыемная. Сяджу, нешта троху пішацца. Але стаіць такая гарачыня, што многа не ўседзіш дома. Цягне ўсё, а куды – таксама адказу няма. Хочацца на нейкае мора, крышку нейкай экзотыкі ці што, ды з малым надта не разгонішся. Вось і кукуем мы з ім. У канцы чэрвеня павінен прыехаць брат Віця, будзе паступаць ва ўніверсітэт на хімфак (вытворчае аддзяленне). <…>

Пішы! Аставайцеся здаровенькія!

Моцна цалую. Жоржык».

«6 января 1976 г.

Милая Тамарка, здравствуй! Извини, что долго тебе не писала, таким тягостным и трудным для меня было последнее время минувшего года, что врагу, как говорится, не пожелаешь. Но всё окончилось. Не раз и не два вспоминаю золотые твои слова, что с этим человеком я никогда не буду счастлива, так и вышло. <…>

Трудно и горько об этом вспоминать, тем более – писать. Думаю, что, когда у меня будет свой уголок в городе, ты обязательно приедешь ко мне, хотя бы на выходные.

Обещали помочь с работой. Это для меня теперь самое главное. Всё-таки в коллективе буду чувствовать себя человеком. Обидно и горько, что самые лучшие годы вылетели в трубу. А время не возвратишь. Остаётся упорно работать, до последней силы. Думаю, что вынесу всё на своих худых плечах.

Милая Томочка, как мне хочется увидеть тебя и поговорить. Изменились ли мы за последнее время? Есть ли в нас ещё что-то романтическое? Как бы ни было трудно, всеми силами старайся сохранять семью… Одиночество – это невесёлое дело. <…>

Собираюсь ехать завтра к маме, она сломала правую руку. Теперь в гипсе. Видишь, какой неудачный был у меня этот год, сколько силы, и нервов, и сердца истрачено.

Пиши, Томочка! Буду очень рада каждой твоей строчке. Крепкого тебе здоровья, твоей семье, большого счастья. <…>

Обнимаю и целую тебя.

Твой Жоржик».

«10 февраля 1976 г.

Томочка, милая, здравствуй! Так привелось, что я приехала на пару дней выступать в твой город. Но время расписано по часам: несколько выступлений в день. Боюсь, что я тебя не увижу. Если есть у тебя время (хоть часок!), то приедь, пожалуйста, в гостиницу «Могилёв», где я живу: 11-ый этаж, 1130 комната. Я бываю после 8 ч(асов) вечера. Большой привет твоему семейству.

Целую. Женя».

Я збіралася на сустрэчу. Але… мне пазваніў Аляксей Пысін па просьбе Жэні і, хвалюючыся, расказаў, што здарылася і дзе яна зараз. Пысін вінаваціў сябе ў тым, што не перавёў Жэню на другі бок праспекта Міру. Яны разам вярталіся пасля сустрэчы з чытачамі. Дом, у якім жыў паэт, знаходзіўся на другім баку гасцініцы «Магілёў». Развіталіся. Праз некалькі секунд ён пачуў скрыгат тармазіўшага аўтамабіля.

### *Лісты з рэанімацыі*

«Милая Томочка! Большое тебе спасибо за всё. <…> Лежу в такой странной постели с подвесками и думаю, думаю. А поэтому ещё больше хандра и скука. Но всё – как-нибудь. <…>

Андрейка оставался в Минске. Но звонил Панизник, что заберёт домой, в Ригу. Мне бы этого не хотелось, но я невольна и ничего не могу сделать. Да, видимо, вместо меня должна приехать на выступления Валя Ковтун. <...> Всего тебе хорошего. Целую. Жоржик».

«Томочка, большое спасибо за передачу. Не надо так обо мне беспокоиться. Сняли меня с подвески. Теперь могу лежать на животе и на боку. Постепенно начну садиться и ходить. Думаю, что в апреле всё будет хорошо. Меня перевели на 3-й этаж в «импортный» номер, меблированный. <…> Даст бог, встретимся в более благоприятной обстановке.

Всего доброго. Жоржик».

«Томочка, здравствуй! Дела мои не так плохи. По крайней мере чувствую себя нормально. Но до двух месяцев (а 2 месяца будет 10 апреля) ещё не разрешают вставать. После двух – дадут костыли, буду постепенно входить в норму, а там – даст бог – на своих двоих.

Немного написалось. Отослала в журналы, на радио. В 4-ом номере «Полымя» должно что-то быть моё. Как у тебя дела? Большое тебе спасибо за всё. <…> Но ещё прошу – слишком не хлопочи. У меня всё есть. Всего тебе самого наилучшего!

Целую. Жоржик».

«Милая Томочка, так всё быстро случилось с отъездом, что я не успела сообщить тебе о моей выписке. У хирурга заболела мать, привезли её в эту больницу, и, конечно, надо было хорошее место. Нашли, что меня можно транспортировать. И вот на спецмашине из Могилёва шофёр, который подбил меня, привёз сюда, к маме в деревню. Здесь мне хорошо, чувствую себя неплохо. Наконец избавилась от клизмы. А свежий воздух – это главное. К тому же – такая теплынь стоит здесь! Но грустно: и в доме, и в деревне. Тишина. Дичайшая!!! С ума можно сойти, если бы не творчество. Ещё май буду скакать на костылях, а там, надеюсь, на своих двоих.

Писала Панизнику, чтобы привёз Андрейку, но медлит что-то. А мне – нетерпение, боль, грусть. Кажется, что мой любимчик <…> призабыл меня. С ним мне было бы спокойнее.

Мама спрашивала всё о тебе и передаёт большущий привет. Томочка, отдал ли тебе Ключиц (врач скорой помощи. – *Т.А.*) книги?

Крепко целую тебя.

Привет всем. Жоржик».

«Милая Томочка, может, тебя можно уже поздравить с наследником или наследницей?..

А я всё ещё здесь и пробуду, видимо, целое лето, пока укрепятся мои кости. Уже хожу без костылей, думаю, что в ближайшее время будет всё хорошо и надо благодарить судьбу, что смилостивилась надо мной. И вообще начинаешь ценить жизнь, когда выбираешься по-божески вот из таких <…> ситуаций.

Чем занимаюсь? Конечно, пишу. Третья по счёту книга запланирована на 1978 г. Но уже сейчас надо усиленно работать над ней, каждый день. Очень хочу, чтобы эта книга была лучше двух первых, что вышли!

Часто вспоминаю тебя и думаю, что вот какими судьбами довелось мне столько раз тебя видеть и говорить с тобой. А поэтому вспоминаются наши лучшие университетские дни, когда были молоды и безоглядны, когда хоть и грустилось, то с какой-то обязательно светлой надеждой, большими ожиданиями. Как всё быстро изменяется!..

Томочка, очень буду ждать от тебя письма. Всего тебе самого-самого наилучшего, а главное, чтоб всё было благополучно в твоей семье. Передай привет маме, муженьку, и Натке, и …

Крепко целую тебя.

Будь счастлива. Жоржик».

«Милая Томочка, от всего сердца поздравляю тебя с дочерью, желаю вам обеим крепкого здоровья, счастья, тишины. <…> Дети – это чудо!.. По-дружески завидую тебе и хочу, чтобы вы были всегда здоровыми. Теперь у тебя, Томочка, настоящая семья, опора, твоя радость, твои тревоги, твой день и твой сад.

А я тоже могу похвастаться: хожу на своих двоих так же, как и раньше. Правда, ещё где-то заколет, заноет, но это пустяки по сравнению с тем, что было. Лёжа на тех простынях, не предполагала, не думала, что ещё дождусь такого счастливого конца. <…> ...Теперь могу не ошибаться, когда надо на улицу надевать плащ или брать с собой зонт. Видимо, я ещё тоже счастливая, хотя бы в том, что могу жить и ходить под солнцем. А это и не так мало для человека!

Теперь, как никогда, много пишу, работаю. В связи с этим ощущается масса потерянного впустую бесценного времени. Но, думаю, что это, упущенное, смогу наверстать и что третья книга будет такой, какой я хочу её видеть!

<…> Скучаю без Андрюшеньки, каждый день вспоминаю его, ведь уже прошло три месяца с того дня, как я его не видела. Писал (Панизник. – *Т.А.*), что должен на днях привезти. Скорее бы!

Привет большой от мамы. Всего вам самого наилучшего!

Крепко целую. Пиши! Жоржик».

«Милая Томочка! Здравствуй! Так назвали Олесей?.. Имя мне очень нравится, земное и вместе с тем поэтичное! <… >

Я, можно сказать, уже вполне нормальный человек, крепко стою и хожу на своих двоих. Только опять мне – как утопленнику (знаю, сейчас будешь смеяться!) <…> хотела насечь травы – да и по пальцу угодила. Ничего, заживёт, только крови немало убежало. <…> А крови я вообще боюсь. <…> Дался мне этот високосный год, хотя бы скорее прошёл. Может, за ним что-нибудь интересное и для меня будет.

Андрюшенька давно со мной, вырос большой умный мальчик. Теперь играет с детьми на улице, всё ему интересно: и кони, и коровы... <…> Я работаю над книгой, заживёт палец – надо будет ехать в Минск... Всего хорошего вам».

«26.8.76 г.

Милая Томочка, получила твоё письмо… Да, меня тоже потрясла весть о смерти Ивана Павловича (Мележа. – *Т.А.*). Это был действительно и писатель, и Человек, что редко так тесно и сильно переплетается в других. <…>

Андрюшенька растёт, умнеет с каждым днём. <…> После воскресенья поеду в столицу. Обещали квартиру. Надо работу пробивать.

<…> Скорее бы всё утряслось. Мама потихоньку трудится. <…>

Не забывай. Пиши. Целуем. Мы».

«<…> только вторая неделя, как я появилась в Минске. Правда, за это время я уже устроилась на работу – литконсультантом в «Сельскую газету». Так что давай, присылай мне свои рассказы (а что, чем чёрт не шутит, как говорят?!) Живу пока на прежнем месте, в Уручье. Обещали выделить от СП (Союз писателей. – *Т.А.*) жильё. Может, и скоро. Тогда, конечно, ты обязательно приедешь ко мне в гости. <…>

Октябрьский номер «Нёмана» даёт мои стихи в переводе. Будет время – прочитай. <…>

Пиши мне, Карменушка, как выпадет. Привет тебе большой от Вали Ковтун.

Крепко обнимаю и целую. Жоржик».

«Милая Томочка, прости за долгое молчание. Но всегда у человека неустроенного много хлопот. Надеюсь, что скоро получу квартиру. Но и это меня не так уж радует. Очень больно и мучительно смотреть на счастливые пары и думать: за что ты богом проклят или ты хуже всех!

Работа, конечно, разгоняет мои пасмурные дни, но постоянная тревога о маме, об Андрюшеньке не даёт мне покоя. Хотя бы не упасть, не выбиться из сил. Их так ещё много надо, чтобы вырастить сына хорошим человеком.

Пишется, правда, много и хорошо. Но и это не веселит меня, как прежде. Женщина всё-таки создана для семейного очага в первую очередь. <…>

<…> Держитесь, любите друг друга – это главное, а заботы – они всегда были и будут, но их не так уж много, если разделить на двоих.

Крепко тебя целую. Пиши. Твой Жоржик».

«<…> У меня всё по-старому. Правда, в пятницу в Союзе писателей был Пленум, посвящённый работе с молодыми кадрами. Каждый называл и моё имя. Конечно, было приятно, хотя чувствовалось, что всё по «старому счёту» идёт, что я многого не сделала. Но ничего, думаю, что оправдаю надежды товарищей, ведь в этом году (хотя было столько неприятностей!) мне много и хорошо писалось, и я почувствовала так остро все свои упущенные драгоценные часы!.. Теперь, как правило, работаю почти каждый день, и не от того, что могу заставить себя. Слишком много окружает событий и явлений, достойных «ока пиита».

С квартирой ещё неясно. Может, к Новому году и получу. Было бы хорошо, а то фактическии скитаюсь, как настоящий пиит (шучу).

Да, на днях видела А.А. Волка (декан. – *Т.А.*). Поздоровался со мной и скромно заметил, что не появляюсь на филфаке. Я попробовала отшутиться: не приглашаете. Так он после Нового года обещал, что организует моё выступление…

Андрюшенька приехал в гости, но заболел – ветрянка у него. <…>

Будем надеяться, что Новый 1977 год будет немножко радостнее. <…>»

«3.12.76

…А я ездила в командировку в Брест, были литературные выступления. Принимали везде хорошо. Теперь поеду на недельку в Дом творчества, это в 18 км от Минска. Надо работать над книжкой, есть материалы и для рецензий. В общем – голова кругом. Но это приятно, особенно в эти мои скитальческие дни. (…)

*P.S.* Да, Сергей теперь отдыхает в Прибалтике».

«Милая Кармен! От всего сердца поздравляю тебя и твоё семейство с Новым 1978-ым годом! Счастья, здоровья, семейного благополучия, радости!

Извини, пожалуйста, что долго молчала: «переживала» время. Серж П. женился, давно. Привёл при моей бытности на квартиру жену. Мне, конечно, пришлось уйти. Но теперь есть своя, две комнаты. Сын пока у мамы. После Нового года заберу. Творю, пишу. А как ты, как детки? Если не рассердилась на меня – пиши и приезжай в гости. Целую тебя. Женя».

«Милая Карменушка, день светлый! Как уехала – долго пришлось ждать от тебя весточки, думала, как ты, а тут сама замоталась.

<…> Кое-что написалось, в плане – одна поэма, первые строчки которой уже легли на чистую бумагу. Хочется много сделать, много успеть, пока ещё голова свежая да сила держится, хотя настоящий поэт должен оставаться Поэтом до конца всей своей жизни. Нелёгкая эта литературная баржа, но иначе себя не представляю…

Завтра утром еду в Солигорск на Праздник книги, завтра же вечером – и вернусь. Помнишь, я говорила тебе о враче, о том парне, который у нас на «периферии» работает? Так вот он услышал о моём приезде домой и зашёл к маме, но мама сказала, что я уже уехала. Как ты смотришь, если что-нибудь «произойдёт»?

Пиши, крепко целую. Жоржик».

«Дарагая Тамары!
Новы годзік на двары!
Хай жа шчодрым і багатым
Прыйдзе ён у вашу хату!
Цалуем – віншуем!
Жэня, Андрэйка».

«Што здарылася з маёй Кармэн? Ні слуху ні духу! Можа, на новую кватэру пераехала і гэты ліст мой назад вернецца? Ці, можа, са здароўем што не ладна? Турбуюся… Дый тады не заехала, калі была. Можа, пакрыўдзілася на мяне?

А сёння мне сніўся наш інтэрнат на Паркавай… У нас усё па-ранейшаму. Андрэй-верабей у сад ходзіць. Я – за сталом сваім пісьмовым карпею. Вось так і дні ляцяць. Адно дрэнна, што мама ў апошні час нешта здае, хвароба прыстае ўсякая.

А як ты, як дзеткі, мама твая, Вася? Пішы, мне часта так не хапае твайго голасу.

Цалую. Жоржык».

«Смяюцца людзі, і гавараць,
І плачуць людзі…Ці ад гора?
Ў душу тваю – да сонца насцеж –
Я шлю святло, і спеў, і шчасце!
І ў Новым годзе, як заўжды,
Табе ні гора, ні бяды!
Вялікіх, светлых перамен
Маёй цудоўнейшай з Кармэн!
Жоржык».

Кожны раз, калі я перачытваю пісьмы ад Жэні, то дакранаюся сэрцам да яе лёсу, да яе радасці і смутку. Сёння мы можам многа ґаварыць пра шчаслівае або нешчаслівае жыццё паэта Яўгеніі Янішчыц. Марная трата часу. Звернемся лепш да яе вершаў, адзін з якіх «Спыню свой крок адчайны і таропкі» яна заканчвае радкамі:

Жыццё маё, як дзікая шыпшына,
Хоць колецца, а ўсё-такі – цвіце.

І сапраўды жыццё Яўгеніі Янішчыц цвіце буйным кветам у яе паэтычным садзе.

*[1]Полымя. – 2007. – № 12. – С. 166 – 171.*

## ПА СЛЯДАХ ПАМЯЦІ[1]

1

У час вучобы ва ўніверсітэце мы не разумелі значнасці фігуры Яўгеніі Янішчыц. Ніхто з нас не задумваўся тады, якое месца яна зойме ў беларускай літаратуры. Пісалі на курсе многія, але самымі значнымі паэтамі на паверцы аказаліся Яўгенія Янішчыц і Алесь Разанаў.

Аб месцы Яўгеніі Янішчыц у беларускай літаратуры не аднойчы гаварыў Ніл Гілевіч. Так, у вершы «Замест рэцэнзіі на вершы Людмілы Рублеўскай» ён ставіць паэтэсу ў адзін рад з Цёткай, Арсенневай і Геніюш: «*Цёткі радок бліскавічны*», «*Арсенневай голас крынічны*», «*…Геніюш тут нас гукае, як маці на тле-папялішчы*», «*…кінуўшы сэрца на камень, тут к сонцу ўзляцела Янішчыц*».

Некаторыя аднакурснікі выказвалі меркаванне аб павярхоўнасці ведаў Жэні. З пазіцыі сённяшняга дня магу сказаць наступнае. Жэня цікавілася беларускай, рускай, замежнай, савецкай літаратурамі. Яна лёгка апелявала да імёнаў і датаў, многа цытавала па памяці, чым выклікала, магчыма, зайздрасць. Вядома, мы, вясковыя дзяўчаты, у параўнанні з гарадскімі на пачатку вучобы былі менш дасведчанымі ў некаторых пытаннях, і спатрэбіўся час для пашырэння нашага кругагляду. А таму не прапускалі ніводнага новага фільма, спектакля, выставы, сустрэч з кінаартыстамі, спевакамі, паэтамі і пісьменнікамі, набывалі абанементы на ўсе лекторыі: па музыцы, выяўленчым

мастацтве, тэатральным і кінамастацтве; сядзелі ў бібліятэцы імя Леніна. Але знаходзіліся і такія, хто кпіў з нас. Маўляў, не паспелі прыехаць з вёскі, як бягуць у Тэатр оперы і балета і робяць выгляд, што нешта разумеюць. Не магу сказаць, што такія выказванні не крыўдзілі, крыўдзілі, яшчэ як. Але яны не адбілі ў нас ахвоту да вучобы, да мастацтва, а наадварот.

2

Жэня, ці Жорж, як мы яе называлі, была невялікага росту, шчупленькая, з удумлівымі зялёна-карымі вачыма, сарамлівай усмешкай, з ямачкамі на шчоках.

Асаблівую прывабнасць і жаноцкасць прыдавалі ёй валасы: як пушча, як травы. Прычоску Жэня насіла заўсёды пышную, толькі пазней, у больш сталым узросце, часам гладка зачэсвала іх.

Мне запомнілася лёгкая Жэніна паходка. Яна не ішла – ляцела, нібы не кранался зямлі. І пышная прычоска ад імклівасці руху і сустрэчнага ветру то падымалася, то апускалася з тактам кожнага кроку.

Я не магу дакладна ўспомніць, як мы з Жэняю зблізіліся. Магчыма, тады, калі яна нейкім чынам даведалася, што я іншы раз заставалася начаваць у аўдыторыі, каб не ехаць у Калодзішчы (там я жыла на першым курсе ў свайго дзядзькі), бо Жэня пасля гэтага некалькі разоў запрашала мяне нанач да сябе на Паркавую. На другім курсе мне выдзелілі інтэрнат, і я аказалася ў адным пакоі з Жэняю, думаю, што не абышлося без яе клопату. Паўплываць на наша сяброўства магла і тая акалічнасць, што мы – вясковыя, што лёсы нашыя і бацькоў нашых – падобныя. У яе былі зводныя браты, а ў мяне – зводныя сёстры. Аб'ядноўвала нас і вялікая любоў да паэзіі.

3

З Жэняй у мяне склаліся сяброўскія адносіны. Чатыры гады мы жылі ў адным пакоі. Аднойчы да нас на Паркавую завітаў малады інжынер. Дзе Жэня з ім пазнаёмілася, я не ведаю. Звалі яго, калі не памыляюся, Уладзімір. Як жа ён быў здзіўлены, калі даведаўся, што Жэня піша вершы! Яна наогул не любіла ґаварыць аб гэтым, асабліва пры першай сустрэчы, таму што хацела быць цікавай для другіх, асабліва для мужчынскай палавіны, як асоба, як звычайная дзяўчына. Малады чалавек быў негаваркі, больш слухаў. Мы бачылі, што Жэня яму вельмі падабаецца, але Жэніна сэрца тады было ў палоне Панізніка, нягледзячы на тое, што сур'ёзных адносін Сяргей да яе яшчэ не праяўляў.

4

У нашым інтэрнацкім пакоі на Паркавай усе мелі мянушкі. Жэня – Жорж, Тамара Каленікава – Колька, Лідзія Корбут – Леў, Марыйка – Мар'ян, Яня Макарэвіч – Змій Гарыныч, Кармэн – я, Тамара Краўчанка. Жэні падабалася яе мянушка, і яна часта карысталася ёю, калі пісала пісьмы. Мне такое прозвішча далі ў сувязі з тым, што я захаплялася тады цыганскай культурай, нават хацела пісаць даследаванне, смела заходзіла ў цыганскія двары і распытвала аб традыцыях. На Новы год адпаведна была ў цыганскім касцюме, на канцэртах тэатра «Рамэн» несуцешна плакала. Мяне да слёз краналі песні з адценнем глыбокага суму і з рэзкім пераходам да адчайнай весялосці.

Жэню часта запрашалі выступаць у інтэрнаты, вайсковыя часці. Яна брала нас з сабою. Такім чынам склаўся невялічкі калектыў: Жэня чытала свае вершы, Лідзія Корбут спявала, а я танцавала пад уверцюру да оперы Бізэ «Кармэн».

Атрымалася так, што ўсе, акрамя мяне, мелі мужчынскія імёны. Такая акалічнасць выклікала многа жартаў. Хтосьці са старэйшых курсаў з пакоя, дзе жылі паэты (тады яшчэ пачынаючыя), напісаў некалькі радкоў, якіх я дакладна ўжо не помню. Накшталт:

Давайце зробім мы абмен:
У нас – Мар'ян, у вас – Кармэн.

Мар'ян – меўся на ўвазе Дукса, паэт.

З гэтай нагоды, калі я выйшла замуж, адбываліся недарэчнасці ў адносінах з мужам. Пасля першай паштоўкі з подпісам «Колька» муж сказаў: «Ты ж не ў манастыры жыла, а ў інтэрнаце». Калі ўбачыў подпісы: «твой Жоржык», «Леў», у яго закралася падазрэнне, нягледзячы на тое, што я многа расказвала аб сваіх сяброўках. Супакоіўся толькі тады, калі «Змій Гарыныч» заляцеў да нас у госці.

Смерць Жэні пераджываў разам са мною: «Як жа так, як жа так, – паўтараў ён, – вось дурненькая».

Не ведаю чаму, але Жэня называла сябе «дрэнным хлопцам». Нават фатаграфію на памяць мне падпісала так: «*Тамары-Кармэн ад самага дрэннага хлопца з пакоя – Жоржа. Але хай будзе ўспамін самым лёгкім.*
*Люты. 13. Мінск. 1969. Янішчыц*».

5

Вольнага часу ў інтэрнаце было не так многа. Калі выдаваўся, мы спявалі розныя песні, у тым ліку Жэніны любімыя – «За туманам нічога не відна», «Миленький ты мой, возьми меня с собой». Слухалі музыку. Бывалі хвіліны, калі мы з Жэняй пад класічную музыку рабілі пародыю на балет, інакш гэта назваць нельга. Уявіце сабе пакой, дзе стаіць шэсць ложкаў, стол, а мы танцуем балетную партыю: Жэня – мужчынскую, я – жаночую. Нам было весела.

Жэня жартавала яшчэ і такім чынам: размаўляла праз дзверы з непажаданымі наведвальнікамі мужчынскім голасам. Атрымлівалася вельмі ўдала.

Мы выпускалі насценную газету нашага пакоя. Жэня, безумоўна, была галоўным рэдактарам і асноўным карэспандэнтам, ну і мы там тое-сёе змяшчалі.

Дзякуючы Жэні мы мелі магчымасць бачыць многіх таленавітых пісьменнікаў. Так, да нас на Паркавую прыходзілі Сцяпан Гаўрусёў, Еўдакія Лось, Адам Мальдзіс, Сяргей Панізнік, Валянціна Коўтун і інш. Еўдакія Лось па-мацярынску адносілася да Жэні, гасцявала ў Велясніцы. Жэня з вялікай цеплынёю гаварыла пра Еўдакію Якаўлеўну.

У Жэні была нейкая прыцягальнасць, магнетызм. Многім хацелася пагаварыць з ёю, пазнаёміцца, пасябраваць. Яна была добрым субяседнікам, шчырым чалавекам і такой жа шчырасці хацела ад іншых. Таму давярала яна не кожнаму, а больш сваёй інтуіцыі. Значна пазней, у пісьме ад 3 снежня 1976 года, абгрунтоўваючы сваё нежаданне пайсці ў госці, сустрэцца з некаторымі знаёмымі, яна напіша: «Я хорошо знаю свою интуицию».

Адным з важных момантаў таго часу былі дыспуты, якія напачатку зацягваліся бадай што да раніцы. Пазней мы навучыліся шанаваць час. Прадметам абмеркавання станавілася практычна ўсё: фізікі-лірыкі, фільмы, спектаклі, кнігі, падзеі, адносіны і г.д. Мы былі вельмі рамантычнымі і ўзнёслымі. Апусціў нас на зямлю збор подпісаў у падтрымку выкладання прадметаў ва ўніверсітэце на беларускай мове. Хутчэй не сама акцыя, а яе вынік. Ініцыятараў – Алеся Разанава, Віктара Ярца – з універсітэта выключылі, так нам сказалі. Цяпер мы ведаем, што яны працягвалі вучобу ў іншых інстытутах дзякуючы клопату дэкана факультэта А.А. Волка і Максіма Танка. Я свой под-

піс паставіла, Жэня – не. На гэту тэму мы з ёю ніколі не гаварылі. Магчыма, яна лепш ведала палітычную сітуацыю. Мы былі на трэцім курсе. Калі хваля заціхла, да нас у пакой завітаў зямляк Жэні, які вучыўся ў вышэйшай партыйнай школе. Ён нам, як бы між іншым, і паведаў аб некаторых тонкасцях ідэалагічнай працы…

***P.S.*** Толькі ў 2018 годзе ў часопісе «Наша гісторыя» (№ 5), праз 50 гадоў пасля падзей, спісы былі абнародаваны. Жэнін подпіс пад нумарам 47 на лісце № 2. Вось я і думаю: чаму ўсе на курсе шапталіся, што Жэня адмовілася падпісваць зварот. Каму гэта спатрэбілася?

6

Жэня вельмі любіла музыку, асабліва народную. Яна і сама добра спявала. Мне пашчасціла разам з ёю слухаць «Песняроў», калі яны яшчэ называліся «Лявоны». Выступленне адбывалася ў памяшканні Саюза пісьменнікаў. Жэня атрымала запрашэнне на дзве асобы ад нашага выкладчыка Н.С.Гілевіча.

Уздзеянне ашаламляльнае! Пасля канцэрта мы амаль усю дарогу да інтэрната на Паркавай ішлі моўчкі. Баяліся парушыць стан, у які трапілі. Толькі пазней далі волю эмоцыям. Нас уразіла навізна апрацоўкі і выканання беларускай народнай песні, якая дзякуючы кіраўніку ансамбля Мулявіну вырвалася з забыцця.

7

Жэня была неканфліктным і вельмі шчырым чалавекам. Ніколі ні з кім не сварылася. Такой жа шчырасці яна чакала ад іншых. І калі яе хто-небудзь крыўдзіў ці не адпавядаў яе маральна-этычным прынцыпам, проста пазбягала зносін з такімі людзьмі. Яна ўмела сябраваць і даражыла сяброўствам. У лісце ад 3 снежня 1976 года яна пісала: «*Сегодня случайно встретила*

*NN… Дала мне свой телефон, приглашала в гости. Но я, видимо, не позвоню, тем более – в гости пойти. Всё-таки осталась у меня старая и крепкая привязанность к тем, кого мне Бог послал на пути за годы учёбы в БГУ*».

Жэня ўмела быць удзячнай і не скупілася на словы. Яна з дарагой душою дарыла свае кнігі сябрам і ў аўтографах выказвала адносіны да іх. «*Мілай Тамары, трывожнай і рамантычнай маёй Кармэн, шчыраму сябру майму па трывозе і радасці. Вельмі хачу, каб ты была па-сапраўднаму шчаслівая, сонца табе пад сённяшнімі і будучымі дарогамі, вечнай маладосці! З любоўю – твая Жэня Янішчыц. Мінск, 20.XI.70*».

Пасля вучобы Жэні не хапала нашай прысутнасці. У адным з лістоў 1978 года чытаю: «…*А сёння мне сніўся наш інтэрнат на Паркавай, выразна помню цябе, Колю і Лёву… Пішы, мне часта так не хапае твайго голасу*».

І мне, Жэня, і нам так не хапае твайго голасу, тваіх ненапісаных вершаў, тваёй сарамлівай усмешкі.

8

Хачу ўспомніць, як мы праводзілі Жэню дадому на канікулы. Сярод нас яна была самай багатай, адносна, канешне. Жэня многа пісала, друкавалася, яе радок тады каштаваў восем капеек. І калі ў месяц яна магла атрымаць тры, а то і пяць рублёў, гэта было добрай падмогай да стыпендыі ў 35 рублёў. Чаму мне запомнілася, што восем капеек? Мы забягалі перакусіць у буфет. Яна купляла стакан малака і булачку, я – стакан малака і кавалак хлеба. Мой перакус каштаваў восем капеек: малако – сем, хлеб – адна. Вось тады ўпершыню мне Жэня і сказала: «Пішы», – атрымаўшы адказ на сваё пытанне, чаму я не купляю булачку.

Яна не была транжыркай, але і ў шчодрасці ёй адказаць нельга: любіла рабіць падарункі. Перад ад'ездам Жэня бегала па магазінах. І вось дзень ад'езду наступаў. Шэсць дзяўчат з клункамі ў абедзвюх руках накіроўваліся на вакзал, загружалі Жэню з багажом у вагон цягніка, і было няўцям, як можна адной, маленькай і шчупленькай дзяўчыне, справіцца з такой паклажай у дарозе! Гэта вельмі нагадвала паездкі С. Ясеніна ў Канстанцінава.

9

Аднойчы на нашым паверсе гулялі вяселле. Шум да дзвюх гадзін ночы. Мы ляглі позна і дзверы вырашылі на ключ не зачыняць, таму што Яня Макарэвіч (зараз заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь) павінна была прыехаць раніцай. Я прачнулася ад таго, што нехта дакранаўся да маёй рукі, якая звісала з ложка. Гэты нехта адкідваў маю руку, а яна зноў падала. Я затаіла дыханне і прыціснула руку да грудзей. З-пад ложка вырасла фігура мужчыны, нахілілася нада мной, і я адчула цяжкі погляд. Ад страху я анямела і закрыла вочы. Прачнулася Марыйка, спытала: «Хто гэта?» – «Не ведаю», – ледзь чутна вымавіла я. Фігура накіравалася да выхаду, пашарыла ў кішэнях нашых паліто і моцна стукнула дзвярыма. Прачнуліся ўсе.

У тую ноч у кожнай з нас што-небудзь ды прапала, акрамя Жэні: яе чамадан быў акуратна замкнёны на ключ. Я думаю, і ўнутраны свет Жэні, асабліва найбольш далікатнае і глыбокае ў ім, быў шчыльна зачынены нават ад сяброў.

10

Асаблівую павагу і захапленне ў мяне выклікала тое, як Жэня пісала. У яе быў блакнот, з якім яна ніколі не разлучалася і куды запісвала цікавую думку,

паэтычную фразу, вобраз. А калі садзілася за стол, то словы клаліся на паперу лёгка, без прымусу, прыгожымі роўнымі радкамі – так ліюцца сонечныя праменьчыкі, хутка і бурліва – быццам вадапад ці рэчка вясною. Толькі зрэдку папраўляла рыфму ці радок, якія не задавальнялі яе. Гэта быў заключны этап творчага працэсу. Звычайна тэма выношвалася, як дзіця. Мне ўяўлялася, што так павінны пісаць усе. І калі Жэня пыталася, чаму я не пішу, адказвала: «Так, як ты, не змагу, а дрэнных вершаў пісаць не хачу». – «І не трэба, як я. Не хочаш пісаць вершы, пішы апавяданні, у цябе атрымаецца». Пры жыцці Жэні я так і не напісала ніводнага верша, ніводнага апавядання.

Не пісаць Жэня не магла. Паэзія для яе была сродкам існавання, самім існаваннем, «естественным отправлением».

## 11

Аднаго разу мы аказаліся з Жэняю ўдваіх у пакоі. Кожны займаўся сваімі справамі. Жэня сядзела на ложку, я – за сталом, нешта чытала. Раптам Жэня падышла да стала, трымаючы ў руках некалькі лісткоў, і прадэкламавала:

Я пісала табе пісьмо…
Першы ліст вырваў вецер.
Другі ліст заліла чарнілам,
Трэці ліст застаўся чыстым.
Я пісала табе пісьмо.

Гэтая дзея нагадвала эцюд акцёра. Яна задуменна вымавіла першы радок… Другі – экспрэсіўна і кінула лісток, быццам сапраўды яго вырваў вецер. У трэцім радку яна выказала здзіўленне і, углядаючыся ў ліст паперы, паклала яго на стол. У чацвёртым радку чулася разгубленасць – і чысты ліст зноў лёг на стол. Задуменна вымавіўшы пяты радок, яна рэзка павярнулася

і накіравалася да ложка. Моўчкі села, утаропіўшыся ў блакнот. Мы не размаўлялі. Мне ўрэзалася ў памяць гэтая карціна і радкі верша, можа, таму, што больш нічога падобнага я не назірала. Верша ў друку не сустракала, няма яго і ў кнігах.

***P.S.*** Верш знайшоўся. Ён уключаны ў 3-і том (с.337). Магчыма, памяць мяне крыху падвяла, а мо верш перапрацоўваўся. Прыводжу варыянт, які захаваўся:

Я табе пісала пісьмо.
Ліст вырваў вецер.
Другі заліла чарнілам.
Трэці ліст ніхто не вырваў,
Ніхто не заліў чарнілам.
Трэці ліст застаўся белым.
Пэўна… так трэба.

12

Існавала Жэня ў бесперапынным творчым працэсе. Вершы і будзілі яе, і заснуць не давалі. Працавала яна ў асноўным ноччу. Не ўсім гэта падабалася. Мы былі жорсткімі, святло ўключаць не давалі. Выратоўваў вулічны ліхтар, які свяціў нам у акно. Жэня памянялася ложкам з Марыйкай і магла працаваць на падаконніку ці на тумбачцы. Было чуваць, як шамацяць старонкі блакнота і як натхнёна рыпіць пяро. Паслухаць новы верш яна будзіла мяне (я была больш цярплівай да яе начной творчасці), ды і ложкі нашы апынуліся поруч. Жэня нават жартаўлівае чатырохрадкоўе склала:

Моя нога с твоею рядом,
Твоя рука с моей рукой.
И мне другой руки не надо,
Не надо мне ноги другой.

Ужо на апошнім курсе Жэня атрымала ад Панізніка ў падарунак ручку з ліхтарыкам, якую ён прывёз з Чэхіі. Цяпер пяро яе рыпела не толькі з натхненнем, але і з надзеяй.

13

Аднойчы нам захацелася пабыць «дрэннымі дзяўчынкамі». Мы купілі цыгарэты і пачалі спрабаваць паліць. Гэтая ідэя мне не спадабалася, але адставаць не хацелася. Мы адна адну падахвочвалі. А потым пачалі вучыцца выдыхаць дым праз нос, вучыліся пускаць яго колцамі. Пасля такога эксперыменту я хварэла тры дні і больш ніколі нават у рукі не ўзяла цыгарэту. Жэню гульня захапіла. Тут зноў жа праявіліся яе акцёрскія здольнасці. Яна была камічнай актрысай ці, можа, нават трагікамічнай. Цыгарэту трымала так, як вясковыя мужчыны, – у кулаку. А калі прымала тэатральныя позы багемных жанчын, атрымлівалася пародыя. Напачатку для Жэні гэта было забавай, але паступова яна ўцягнулася. Калі даведалася Марыя Андрэеўна, Жэніна маці, то вельмі перажывала, прасіла мяне паўплываць на «Жэньку». Яна некалькі разоў прыязджала ў інтэрнат. Адзін раз быў у інтэрнаце і малодшы Жэнін брат Віця, які вучыўся яшчэ ў школе. Ён іграў на гітары і спяваў.

14

Якой жа была Жэня? А была яна рознай. Адкрытай, шчырай, светлай. Закрытай, абачлівай, нават падазронай. Вясёлай, гарэзлівай, вострай на язык. Пісала гумарыстычныя вершы з рызыкоўнай двухсэнсоўнасцю. Магла зрабіць такі парадак слоў у радку, што пры чытанні словы набывалі іншае гучанне. Быў у яе верш на рускай мове пра хунвейбінаў, напісаны пяцістопным ямбам, якім яна абвяргала сцвярджэнне, што пяцістопны ямб у сваёй аснове трагічны. Верш

спяваўся, мелодыю Жэня прыдумала сама. Я помню з яго некалькі радкоў, але прывесці магу не ўсе.

И лезут, лезут, лезут хунвейбины,
Мы зарядили наши карабины,
Уверенно в атаку мы пошли –
И битвою мать Родину спасли.

15

Апраналіся мы вельмі сціпла. На курсе адзеннем выдзяляліся дочкі пісьменнікаў і яшчэ, можа, адзін-два чалавекі. Помню ў Тані Панчанка, Тані Шамякінай, Ларысы Калачынскай былі туфлі-лодачкі белага колеру. Як яны мне падабаліся! Я нават ездзіла ў магазін, каб палюбавацца на іх (каштавалі 22 рублі). Але купіць не было за што. Таня Шамякіна прыходзіла на заняткі ў вельмі далікатным крэмпленавым касцюме нежна-блакітнага колеру. У нашым пакоі прыгожа апраналася Тамара Каленікава, яна з Жэняю была адной камплекцыі і прыблізна аднаго росту. У Тамары рост 164 см. Ёй маці шыла строі з новай тканіны або перашывала свае сукенкі. Жэня палюбіла адну Тамарыну сукенку вішнёвага колеру з белым каўняром да пояса. А ў Жэні мелася прыгожая хустка, звязаная з тонкай белай шэрсці. І вось Жэня мяняла хустку на сукенку. На фотаздымках 1971 года з VI з'езда пісьменнікаў БССР Жэня якраз у той сукенцы.

З Балгарыі яна прывезла сабе спартыўны камплект (світар і шапачка), які прызначаўся для лыжных прагулак, для адпачынку. Такіх у нас не было. І Жэня хадзіла ў ім на заняткі. А ў Германіі купіла крэмпленавы касцюм светлага, амаль што белага колеру. У ім можна было, як кажуць, і ў пір, і ў мір, і ў добрыя людзі. Жэня любіла прыгожа апранацца. І мела густ. Пасля ўніверсітэта часта шыла на заказ. Уводзіла ў адзенне

нацыянальныя элементы. Усе яе строі на фотаздымках зафіксаваны.

Жэня часта дзялілася сваімі рэчамі. І не толькі з блізкімі і знаёмымі, але і з малазнаёмымі. Некалькі гадоў назад ад прадаўца Мінскай кнігарні «Асвета» я пачула: «А я насіла спаднічку ад Жэні Янішчыц».

16

1971 год. Яўгенія Янішчыц атрымала дыплом аб заканчэнні БДУ імя Леніна. Саюз пісьменнікаў прапанаваў ёй вучобу ў Маскоўскім літаратурным інстытуце імя Горкага з інтэрнатам і стыпендыяй у 90 рублёў. Паэт Сяргей Панізнік – руку і сэрца. Жэня выбрала апошняе. Сяргей быў статны, прыгожы малады чалавек у вайсковай форме шэра-блакітнага колеру, якая яму вельмі пасавала, цікавы субяседнік. Сэрца не адной дзяўчыны і жанчыны было ўзята ў палон яго чарамі. І Жэня не стала выключэннем. Тым больш, што закахалася яна ў Панізніка шаснаццацігадовай школьніцай, у самую першую сустрэчу з ім, 28 ліпеня 1965 года. Аб гэтай сустрэчы Жэня пісала ў лісце ад 31.VII.1965 года да Міколы Панасюка: «*28 июля ко мне приезжал Сергей Панизник. Взял несколько стихов для «Літаратуры і мастацтва». Были на Ясельде*». Пачуцці, што агаломшылі юную паэтку, добра перададзены ў вершы «На рацэ», які быў укладзены ў пісьмо.

На сваім вяселлі, 19 жніўня 1971 года, Жэня была шчаслівай. Маладыя, Яўгенія Янішчыц і Сяргей Панізнік, выглядалі шыкоўна. Госці былі знакамітыя: амаль усе сталічныя паэты і пісьменнікі, сярод іх – І.П. Мележ. Сваты – аб якіх толькі марыць можна: Ніл Гілевіч – паэт, перакладчык, фальклырыст; Язэп Семяжон – перакладчык «Песні пра зубра» М. Гусоўскага; некалькі аднакурснікаў, сярод іх – і я. Не было толькі бацькоў маладых. Гэта мяне здзівіла. На што

Жэня адказала, што для родных будзе ладзіцца яшчэ адно вяселле ў Велясніцы.

Усе прысутныя жадалі шчасця маладым, плённай творчасці, выказвалі надзею, што птушка ў рэшце рэшт будзе прыручанай, каб не забывалі там, у Чэхіі, куды маладыя паедуць пасля вяселля, сваю Радзіму. З гэтай нагоды мы з Людай Малажавай, нашай аднакурсніцай, падарылі Жэні карту Беларусі і компас. Мне таксама далі слова. Я сказала наступнае: «Жадаю нашым маладым быць здаровымі, як сібірскія зімы, руплівымі, як вясна, прыгожымі, як лета, багатымі, як восень, шчаслівымі, як голуб з галубкаю». Я дакладна помню сваё віншаванне таму, што Жэня папярэдзіла мяне, каб я рыхтавала тост. І мне не хацелася ўдарыць тварам у гразь перад такімі гасцямі, асабліва перад Нілам Сымонавічам, які вёў у нас спецкурс па фальклоры.

Георгій Юрчанка прачытаў сваю пародыю на верш «Непрыручаная птушка». Запомнілася мне выступленне Г. Юрчанкі таму, што я ведала пра негатыўныя адносіны Жэні да той пародыі. Ужо ў студэнцкія гады Жэню ўсе называлі «непрыручанай птушкай», яна не крыўдзілася. Верш для яе быў знакавым, нават хацела, каб першая кніга так называлася.  Але пасля з’яўлення пародыі назву кнігі Жэня замяніла на «Снежныя грамніцы». Я думаю, што Георгій Фёдаравіч не ведаў пра адносіны Жэні да яго пародыі. Каб ведаў, то наўрад ці прачытаў бы яе за вясельным сталом.

Вяселле ладзілася ў новым, самым лепшым на той час рэстаране Мінска – у «Журавінцы». Не ведаю чаму, але памяць захавала толькі ўражанне ў цэлым, дэталі выпалі. За сталом мужчыны, мужчыны… жанчыны не запомніліся. Толькі Жэня. Яна ўся свяцілася ад шчасця і была ў застоллі самай светлай і сонечнай. Яна гатова была дзяліцца сваім шчасцем з усім светам.

На другі дзень пасля ўрачыстасці мы дамовіліся з Жэняй сустрэцца ў Саюзе пісьменнікаў. Там яна і прадставіла мяне І.П. Мележу як сваю сяброўку і яго зямлячку. Іван Паўлавіч накіраваўся насустрач, і мы працягнулі адно аднаму рукі: я – правую, ён – левую (правая была паранена ў час Вялікай Айчыннай вайны). Я аб гэтым ведала, але перад выбітным земляком збянтэжылася. Іван Паўлавіч моцна паціснуў маю левую руку і, усміхнуўшыся, дадаў: «Вельмі рад. Вы ўчора добры тост сказалі».

Перад уваходам у сквер Янкі Купалы мы ўбачылі Ніла Гілевіча. Тады мне падалося, што сустрэча выпадковая. Сёння ўпэўнена, што не. Жэня паказала на будынак ЦК ЛКСМБ, дзе яна працавала загадчыкам бібліятэкі: «Давай на маё месца». Я стала пярэчыць: хто мяне, маўляў, возьме, ды і размеркаваннне – трэба тры гады адпрацаваць. Ніл Сымонавіч выказаў жаданне дапамагчы напісаць апеляцыю ў Міністэрства адукацыі. Але я адмовілася. Да пачатку навучальнага года заставалася некалькі дзён.

Цяпер я разумею, наколькі шчырым і вялікім было жаданне Жэні мне дапамагчы, і з Нілам Сымонавічам, упэўнена, яна загадзя дамовілася.

З Жэняй мы разлучыліся больш чым на чатыры гады. Яна ўступіла ў нязведанае сямейнае жыццё. Некалькімі гадамі пазней у кнізе «Дзень вечаровы» Жэня напіша:

І я гадам неразгаданым,
Нібы сябрам, махну рукой…
Ах, што там,
Што там за туманам –
Дарога? Бездараж? Спакой?..

За туманам у Жэні была дарога і бездараж…

17

У лютым 1976 года Жэня прыехала ў Магілёў, дзе я жыла з сям‘ёй. Я атрымала ліст:

«10 февраля 1976 г.

Томочка, здравствуй! Так привелось, что я приехала на пару дней выступать в твой город. Но время расписано по часам: несколько выступлений в день. Боюсь, что я тебя не увижу. Если есть у тебя время (хоть часок!), то приедь, пожалуйста, в гостиницу «Могилев», где я живу: 11-ый этаж, 1130 комната. Я бываю после 8 ч[асов] вечера. <…> Целую. Женя».

Я збіралася на сустрэчу. Але… мне пазваніў Аляксей Пысін па просьбе Жэні і, хвалюючыся, расказаў, што здарылася і дзе яна зараз. Пысін вінаваціў сябе ў тым, што не перавёў Жэню на другі бок праспекта Міру. Хацеў перавесці, але Жэня адмовілася. Яны разам вярталіся пасля сустрэчы з чытачамі. Развіталіся. Праз некалькі секунд Аляксей Васільевіч пачуў скрыгат тармазіўшага аўтамабіля. Жэню збіла машына «хуткай дапамогі». На мой погляд, гэта адбылося 10 лютага.

Пэўную блытаніну ўносіць аўтограф Аляксея Пысіна, які быў дадзены ў дзень аварыі Мікалаю Ключыцу, доктару хуткай дапамогі. Мікалай Еўдакімавіч у нататцы «Аўтограф… у рэанімацыі» («Магілёўская праўда», 16 жніўня 1994, с. 4) піша: «*Аляксей Пысін са скуранога партфеля чорнага колеру дастаў кніжачку сваіх вершаў «Вярбовы мост» і падпісаў: "Міколу Ключыцу на добрае знаёмства. А.Пысін, 9.II.1976"*» (На добрае знаёмства?!)

Ёсць пісьмо Жэні да Еўдакіі Лось: «Дарагая, мілая Еўдакія Якаўлеўна, думаю, што першага *красавіка ўбачуся з Вамі і павіншую Вас з Днём нараджэння. Але, відаць, я не са шчаслівых. Раней перанесла маральную*

*траўму, цяпер – фізічную. 9 лютага мяне падбіла машына ля гасцініцы “Магілёў…”*».

Так, сама Жэня піша, што аварыя адбылася 9 лютага, і аўтограф Аляксея Пысіна датаваны дзявятым. Я схіляюся ўсё ж да 10 лютага. Ліст, у якім Жэня запрашае мяне на сустрэчу, датаваны 10-м. Яна не магла запрашаць у гасцініцу з рэанімацыі. Гэта першы аргумент. Другі аргумент – ліст Жэні з Магілёўскай гарадской бальніцы хуткай дапамогі: «*Томочка, здравствуй! Дела мои не так плохи. По крайней мере чувствую себя нормально. Но до двух месяцев (а 2 месяца будет 10 апреля) ещё не разрешают вставать*».

18

У 2007 годзе я звярнулася з заявай да галоўнага ўрача Магілёўскай гарадской бальніцы хуткай дапамогі М.Т. Максіменкі, каб даведацца, калі была зроблена аперацыя Я.Янішчыц і якая. На жаль, у архіве дакументаў не знойдзена. Кніга рэгістрацыі траўм за люты 1976 года захавалася, але прозвішча Янішчыц там не было. Не значылася яе імя і ў кнізе ўліку аперацый. Жэня правяла ў Магілёўскай гарадской бальніцы больш за два месяцы, пачынаючы з 10 лютага 1976 года, а па дакументах атрымліваецца, што яе там не было. Характар траўм быў цяжкі. Урачы зрабілі ўсё магчымае, хоць і сумняваліся: ці зможа яна хадзіць так, як і раней, ці зможа стаць маці ў другі раз. Раджаць яна не збіралася. А паходка Яўгеніі Янішчыц не змянілася, засталася такой жа імклівай і лёгкай, толькі косці сталі больш адчувальнымі да змены надвор’я:

«*…хожу на своих двоих так же, как и раньше. Правда, ещё где-то заколет, заноет, но это пустяки по сравнению с тем, что было. Лёжа на тех простынях, не предполагала, не думала, что ещё дождусь такого счастливого конца <…> теперь могу не ошибаться,*

*когда надо на улицу надевать плащ или брать с собой зонт. Видимо, я ещё тоже счастливая, хотя бы в том, что могу жить и ходить под солнцем. А это и не так мало для человека!*» *(майскі ліст 1976 г. не датаваны).*

19

З рэанімацыі Жэня пісала: «*Лежу в такой странной постели с подвесками и думаю, думаю. А потому ещё больше хандра и скука. Но всё – как-нибудь*».

Я наведала Жэню ў рэанімацыі. Мяне прапусцілі ў парадку выключэння. Мы не бачыліся 4 гады і 6 месяцаў, з дня яе вяселля. Жэня была вельмі рада нашай сустрэчы і ў той жа час прасіла прабачэння за свой знешні выгляд, нібыта я зайшла да яе ў дом, а не ў бальніцу. Калі збянтэжанасць прайшла, мы гаварылі. Жэня хвалявалася за сына Андрэйку, за маці, за шафёра, які яе падбіў, за А.Пысіна, якому нарабіла столькі клопату, за мяне, цяжарную, якой прыходзіцца яе наведваць, за ўсіх, акрамя сябе.

Я бачыла, як ёй невыносна ляжаць у адной позе, не мець магчымасці павярнуцца, устаць. Але яна знаходзіла ў сабе сілы нават кпіць са свайго становішча. Аварыю прымала як непазбежнасць: «*За ўсё трэба плаціць, за шчаслівае жыццё – таксама*», – падагуліла яна.

Душэўны боль Жэні быў мацнейшы за фізічны. Я прыносіла ёй паперу, кнігі, часопісы, канверты – творчасць была яе збаваннем.

Вяртаючыся з бальніцы, я ішла па слізкай дарозе і думала аб Жэні. Успомніліся заняткі гімнастыкай. Мы былі ў адной групе (трэнер Святлана Салдатава). Калі Жэня выконвала практыкаванні на бервяне і асабліва на брусах, у мяне халадзела ўсярэдзіне: так адчайна ўсё выглядала. Жэня весела прызямлялася – я з палёгкай уздыхала. А як бясстрашна яна каталася на каньках!

Крыху нязграбна, таму што ў вузкай спадніцы, але весела насілася з аднаго канца катка ў другі.

Я адчувала, што ў Жэні хопіць сілы пераджыць увесь гэты доўгі ланцуг няшчасцяў: дачасную смерць бацькі, развод з каханым, уласную аварыю. Магчыма, фізічны боль ёй быў дадзены, каб паменшыць боль душэўны і высветліць галоўнае, дзеля чаго трэба жыць: мацярынства і паэзія. У кнізе «Каліна зімы» мы знойдзем пацвярджэнне гэтай думцы:

Прайду быллём і церпкай лебядою.
І на жыццё развяжа вочы сын.
*«Пасля траўмы»*

Я рану закрыю работай
І выдыхну ў неба радкі.
*«Не трэба мне ўсмешкі маёвай»*

20

Другі прыезд Я. Янішчыц у Магілёў адбыўся ў чэрвені 1981 года. Мы не сустрэліся. Дакладна не помню – чаму. Магчыма, мяне не было ў горадзе. Інфармацыю аб наведванні прадставіў В.І. Арцем'еў, які з 1965 па 1982 гг. працаваў карэспандэнтам-арганізатарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР і захаваў кнігі рэгістрацыі. У абавязкі Віктара Іванавіча ўваходзіла арганізацыя выступленняў членаў Саюза пісьменнікаў і работнікаў культуры ў працоўных калектывах. Па словах В.І. Арцем'ева, Жэня была вельмі стомленая: балеў страўнік. Яўгенія Янішчыц і журналіст М.У.Базарэвіч з 15 па 19 чэрвеня выступілі ў дзевятнаццаці калектывах: 15 чэрвеня – тры выступленні; 16, 17, 18 і 19 чэрвеня – па чатыры выступленні, колькасць прысутных за пяць дзён склала 2540 чалавек. Свае ўражанні ад сустрэчы з Яўгеніяй Янішчыц Віктар Іванавіч перадае так: «Чалавек

яна памяркоўны, задуменны, з высокай прыгажосцю душы, вельмі далікатны ў зносінах. З ёю лёгка было ґаварыць: выказвала вялікую павагу да кожнага чалавека. І калі ў яе прысутнасці ў мяне адбылася спрэчка з Аляксеем Пысіным, то Жэня з лагоднай усмешкай нас памірыла. Не пашанцавала ёй і ў другі прыезд. Яна згубіла 200 рублёў ці, можа, выцягнулі».

21

Я наведала Жэню на Ульянаўскай, 4 пасля атрымання ёю прэміі Ленінскага камсамола рэспублікі. Многа нязручнасцей было: першы паверх, вокны вельмі нізка, а таму заўсёды занавешаны. Але Жэня радавалася і выказвала падзяку Барысу Сачанку, які дапамог ёй атрымаць кватэру.

Галоўным багаццем у кватэры Жэні была пішучая машынка. Тэлевізар – і не толькі – купіць не было за што. Я спытала аб прэміі, якую яна атрымала за зборнік вершаў «Дзень вечаровы».

– Ты што! – здзівілася яна. – Яе ж нікому не даюць. Усе пішуць заяву аб перадачы прэміі ў Фонд міру.

Доўга мы гаварылі з Жэняй і не маглі нагаварыцца. Калі яна расказала пра абставіны разводу, я спытала: «Колькі ж ты была шчаслівая?» – «Два тыдні», – пачула ў адказ.

Дзень прайшоў, і ноч на зыходзе. У тую ноч мы імкнуліся зразумець лёс Маякоўскага і Ясеніна. Самагубства – гэта сіла ці слабасць. Да высновы мы не прыйшлі. То нам здавалася, што гэта слабасць, і Жэня прыводзіла словы М. Астроўскага: «Умей жить и тогда, когда жизнь становится невыносимой…» Потым пярэчылі сабе. Ясна было адно: Жэня супраць самагубства. Але душэўны стан сяброўкі мяне трывожыў. «*Ты за мяне не хвалюйся. У мяне ёсць выйсце – вершы. Калі б не пісала, страціла б розум*», – супакойвала мяне Жэня.

У гэтую сустрэчу я зразумела, што Жэня яшчэ кахае былога мужа. І ў гэтым была яе трагедыя.

За што, скажы, твой вобраз мілы
Насіла ў сэрцы, як магла?
І разлюбіць – не разлюбіла.
І зберагчы – не зберагла.

*«Хвіліны пройдуць дарагія»*

22

Да Жэні на Ульянаўскую я заходзіла практычна кожны раз, калі прыязджала ў Мінск. Аднойчы сустрэла там Анатоля Грачанікава. Ён расказваў, як хадзіў босы за пашпартам у Лоеў. Мы з ім землякі.

Аднаго разу надарылася мне заначаваць у Жэні. Тады была ў яе вялікая гасціна, якая таксама засталася нанач. З прысутных помню толькі Раісу Баравікову. З якой нагоды сабіраліся, аб чым гаварылі, памяць не захавала.

Яшчэ згадваецца маленькі Андрэйка. Ён гуляў у двары, Жэні не было дома, пабегла ў магазін. Такое шчырае, адкрытае дзіцятка – гатовы быў завесці мяне ў кватэру, хаця бачыў першы раз.

23

У маёй бібліятэцы ёсць кніга Джэка Лондана «Марцін Ідэн», якую мне падарыла Жэня ў 1978 ці 1979 годзе падчас нашай сустрэчы ў яе кватэры № 1 на Ульянаўскай, 4. Аўтографа, на жаль, на кнізе няма, ды гэта і не так важна. Жэня настойліва раіла мне прачытаць «Марціна Ідэна». У якіх выразах, я не помню, але тое, як яна гэта гаварыла і якую значнасць надавала гэтай кнізе, памяць захавала. Кнігу я чытала раней, яна мяне таксама ўразіла, але ў маёй бібліятэцы яе не было, і таму падарунак прыняла з радасцю.

Нягледзячы на тое, што трагічныя падзеі ў жыцці Жэні адышлі ў мінулае, што беспрытульнае жыццё скончылася, Жэня мела свой куток, шчаслівай сябе яна не адчувала. Старыя раны, мабыць, яшчэ не зажылі, а новыя ўжо з'явіліся. Мушу выказаць здагадку, што нашыя сяброўскія адносіны былі такімі працяглымі хутчэй за ўсё таму, што мы не лезлі ў душу адна да адной. Я ведаю толькі тое, чым Жэня лічыла патрэбным са мной падзяліцца. Былі, вядома, і такія тэмы, у якія яна нікога не пускала.

І вось цяпер, трымаючы ў руках «Марціна Ідэна», я не магу ўспомніць ніводнай дэталі. Толькі агульнае: кніга аўтабіяграфічная, галоўны герой упарта працаваў, каб стаць пісьменнікам. Мне не давала спакою пытанне: чаму Жэня надавала «Марціну Ідэну» такую значнасць? Перачытаўшы кнігу, я зразумела: лёс галоўнага героя нечым нагадваў яе ўласны лёс. Іх радніла прага да навукі, да самаўдасканалення, жаданне стаць сапраўднымі творцамі і знакамітымі. Яднала іх і расчараванні, з якімі яны сутыкнуліся, дасягнуўшы прызнання і славы. Жэніна адкрытасць, непасрэднасць і святло, з якімі яна прыйшла ў літаратуру, павярнуліся насамрэч да яе сваім самым негатыўным бокам.

Аналізуючы нашыя размовы, якія тычыліся творцаў, скончыўшых жыццё самагубствам, я прыходжу да высновы: Жэня часта прымярала іх лёс на сябе. А рабіць гэта не варта. Словы і думкі могуць матэрыялізавацца. Дарэчы, амерыканскі пісьменнік Джэк Лондан (Джон Грыффіт) пражыў 40 гадоў (1876 – 1916).

24

У канцы 1980 года, перад самым Новым годам, я атрымала ад Жэні ліст, узрушаны, эмацыянальны. Перапіска ў нас з Жэняю дастаткова вялікая і ахоп-

лівае працяглы час. Праўда, захавалася не ўся. Не захаваўся і гэты ліст. А ўзгадаўся ён таму, што ў канверт было ўкладзена сачыненне хлопчыка на двух лістах (нават у двух экземплярах, каб дала яшчэ каму пачытаць), надрукаваных Жэняю на сваёй машынцы: «Кто Чацкий? Победитель или побеждённый?» Гэтае сачыненне перада мною. На першым лісце з правага боку стаіць імя аўтара і даты жыцця: «Игорь Поглазов (27.12.66 – 14.12.80)».

Трагічны лёс Ігара мяне ўзрушыў таксама, таму і запомніўся ліст. У ім Жэня гаварыла пра таленавітага чатырнаццацігадовага падлетка, які скончыў жыццё самагубствам. Яна ведала яго бацькоў і пісала аб горы, якое іх напаткала, аб паважлівых адносінах да падлеткаў, асабліва да такіх таленавітых, як Ігар Паглазаў. І каб пацвердзіць літаратурныя здольнасці хлопчыка, прыслала яго сачыненне. Прывяду некалькі радкоў: «Сегодня он объявлен сумасшедшим, изгнан с позором, оплёван, оклеветан. Они хохочут ему в спину, тыкают пальцами, скалят жёлтые зубы: «Иди! Убирайся! Ты побеждён!»

Побеждён? Пожалуй, так: ведь они заставили его уйти, они доказали, что сила на их стороне. Не пробьёшь, не осилишь. И всё-таки где-то в глубине души победитель – он. Он победил морально. И это воистину великая победа. Он показал им, кто они есть, раскрыл их пороки, осилил их. Был изгнан, но всё-таки победил. Рано или поздно Чацкий победит окончательно.

Чацкий вечен: каждая эпоха, каждое государство имеет своего Чацкого, а иначе и быть не может, потому что пока есть зло, есть борцы с ним, и в первых рядах – Чацкий всех времён и народностей».

І завяршыў сачыненне Ігар Паглазаў сваімі паэтычнымі радкамі:

Я, как асфальт, не гнусь под сапогом,
И, как земля, не принимаю плача,
И я всегда под замкнутым кольцом,
Где царствует богиня неудача.

Словы, думкі і пачуцці Ігара Паглазава, выказаныя ў сачыненні, былі блізкімі і самой Жэні. Яна падтрымлівала таленавітых маладых людзей, як некалі падтрымлівалі яе Фёдар Фёдаравіч Цудзіла і старэйшыя пісьменнікі.

25

Жэня вярнулася з Амерыкі, дзе яна прабыла тры месяцы ў складзе ўрадавай дэлегацыі Беларусі, накіраванай для ўдзелу ў рабоце XXXVI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, і пазваніла мне. Радасці ў голасе я не пачула, хутчэй наадварот. На мае пытанні адказала, што ўсё раскажа пры сустрэчы. Такая магчымасць выпала тыдні праз тры. Ужо ў Мінску я набрала Жэнін нумар – тэлефон маўчаў. Праз некаторы час яшчэ і яшчэ раз, але зноў – маўчанне. Уладзіўшы свае справы, я накіравалася на Ульянаўскую, 4. На званок у дзверы зноў ніхто не адказаў. Я напісала запіску і апусціла ў паштовую скрынку. У мяне былі для Жэні сувеніры. Я абышла кватэру вакол у надзеі знайсці адчыненай фортку. На маё шчасце, такая аказалася на кухні. Я закінула пакецік з сувенірамі. З-за фіранкі выглянуў спалоханы твар Жэні. Пазнаўшы мяне, яна абрадавалася, адчыніла: на стале ляжалі недапалкі ад цыгарэт. Заўважыўшы, куды скіраваны мой погляд, сказала: «Толькі нічога не гавары», – і пачала свой сумны аповед аб тым, як нялёгка ёй было ў Амерыцы. Усе выступленні ёй даваліся ўжо ў гатовым выглядзе, ад сябе яна не мела права сказаць ніводнага слова. Уразілі яе амерыканскія бамжы, якія спалі на вуліцах і капаліся ў сметніцах. А больш за ўсё на яе падзейнічаў, я ду-

маю, інструктаж, у час правядзення якога запалохвалі ўсіх, хто ехаў у капіталістычныя краіны. Жэня мне паведала аб тым, як яе «выпрабоўвалі» ў Амерыцы. Аднойчы ў нумар гасцініцы зайшоў незнаёмы чалавек, мужчына, і папрасіў перадаць долары на адрас, які быў пазначаны на канверце. Яго прыход і просьба былі такімі нечаканымі і імгненнымі, што Жэня не паспела нават апомніцца, як візіцёр паклаў канверт і знік, пакінуўшы Жэню ў разгубленасці і страху. Каб везці ў Саюз гэтыя долары, Жэня не дапускала і думкі. Яна была ўпэўнена, што ў нумары ёсць камеры і праслушнікі, чаго баялася больш за ўсё. Расказаць каму-небудзь яна таксама не асмелілася. Таму канверт з доларамі парвала на дробныя шматкі (адрас не прачытала, грошы не палічыла) і спусціла ва ўнітаз. Яна была ўпэўнена, што гэта правакацыя. І пасля прыезду Жэня жыла ў палоне страхаў: баялася адказваць на тэлефонныя званкі, баялася выходзіць на вуліцу. Я супакойвала яе, як магла, але тады я не разумела, што ёй патрэбны быў урач. Сёння, магчыма, хапіла б псіхолага. У той час звярнуцца да псіхіятра для яе было б прыгаворам. Я параіла ёй прымаць што-небудзь заспакаяльнае.

Жэня крышку супакоілася, паказала пакупкі, падарыла мне прыгожы парасон з аборкамі, расказала, якія там танныя рэчы ў параўнанні з нашымі можна купіць. І ўжо ў канцы нашай сустрэчы я бачыла звычайную Жэню, якую ведала заўсёды.

Я хачу яшчэ сказаць аб гасціннасці Жэні. Калі б да яе ні заходзіла, не было такога выпадку, каб яна не накарміла. Цікава, што ў кожны мой прыезд, дамоўлены ці не, у яе заўсёды быў курыны булён.

***P.S.*** Падчас збору ўспамінаў аб Жэні гісторыя з доларамі ўсплыла і была мне пераказана адзін к аднаму родзічкай Жэні. Але ўключыць ва ўспаміны яна не дазволіла, таму і імя назваць яе не магу. Знайшоўся і працяг гісторыі. Марыя Пятроўна Козел

(Ашкала), суседка з Велясніцы, расказала, што пасля вяртання Жэні з Амерыкі ў Велясніцу да Марыі Андрэеўны, Жэнінай маці, прыязджалі дзве жанчыны за грашыма.

Многія, хто даведваўся пра гісторыю з доларамі, гаварылі мне: «Я чаму яна не выгнала гэтага чалавека? Чаму катэгарычна не адмовілася?» Па-першае, абы-хто ў гасцініцу зайсці не мог. Па-другое, з правакацыямі Жэня ўжо сутыкалася. І па-трэцяе, трэба ведаць характар Яўгеніі Янішчыц і страхі, якія ёю валодалі. У складаныя моманты жыцця яна слупянела. Нават у паўсядзённым жыцці нікому не магла даць адпор.

26

24 – 25 лістапада 1988 года Беларускі рэспубліканскі камітэт прафсаюзаў лёгкай прамысловасці праводзіў семінар, у якім я прымала ўдзел. Тады я працавала старшынёй прафсаюзнага камітэта Магілёўскай стужкаткацкай фабрыкі. Дзе іменна будзе праходзіць семінар, я не ведала, але сустрэчу з Жэняй планавала, нават узяла з сабою зборнік «Каліна зімы», які быў без аўтографа. Усе папярэднія кнігі Жэня падпісвала і высылала, так яна збіралася зрабіць і ў гэты раз, але я запярэчыла і сказала, што ў мяне ўжо ёсць «Каліна зімы», а падпіша – пры сустрэчы. Мы з ёю не бачыліся з 1984 года, толькі перамаўляліся па тэлефоне. І ўжо не так часта, як раней. Жэня атрымала новую кватэру на Старажоўскай і абяцала запрасіць, як толькі крыху абжывецца.

На жаль, семінар праходзіў пад Мінскам, у нейкім піянерскім лагеры. 24 лістапада, пасля вячэры, я разам са сваімі калегамі прагульвалася па дарозе ўздоўж лесу. Прырода і вечар былі казачнымі. Лістапад у той год выдаўся снежным. І я прачытала першую страфу з верша «Я пачакаю»:

Нічога не вяртаецца назад:
Ні гэты міг, ні гэты дзень, – я знаю.
Ты адыходзіш ціха ў снегапад,
А я люблю вясну. Я пачакаю.

Мае субяседніцы зацікавіліся вершам і яго аўтарам. Я расказвала аб Жэні, чытала вершы, а зборнік «Каліна зімы» аказаўся так дарэчы. Спаць мы ляглі далёка за поўнач. Пазваніць не было адкуль. Цяпер разумееш, як добра мець сотавую сувязь.

Дзень 25 лістапада быў загружаны поўнасцю. Пасля 17 гадзін наш заказны аўтобус накіраваўся ў Магілёў. Не паспела я нават распрануцца, як раздаўся тэлефонны званок. Мая аднакурсніца і сяброўка з Баранавіч Тамара Каленікава паведаміла аб смерці Жэні і яе прычыне. Такога – я не чакала! Апошняя наша размова па тэлефоне нічога трагічнага не прадказвала, а наадварот. Жэня была радаснай: яна атрымала кватэру, аб якой так марыла, і не на першым паверсе, які ёй абрыд, а на восьмым. Мне здавалася, што ўсё наладжваецца, становіцца на сваё месца.

У скрусе я напісала Марыі Андрэеўне, маці Жэні. Адказу не было. Я разумела, што ў яе зараз іншых клопатаў хапае. Пазней мы з ёю неаднойчы сустракаліся ў новай Жэнінай кватэры на Старажоўскай.

27

Неяк летам, дакладна год не помню, на аўтавакзале ў Магілёве, я ўбачыла двух мужчын, адзін з іх – Сяргей Грахоўскі. Я падышла, павіталася, папрасіла прабачэння за турботу. Ён абрадаваўся, пачаў пытаць, адкуль я яго ведаю. Я расказала, што вучылася разам з Жэняй Янішчыц, што была на сустрэчы з ім у 1969 г., маю яго аўтограф да кнігі «Вершы».

– Улічыла, гэта ж трэба, улічыла праз столькі гадоў, – не мог супакоіцца паэт, радуючыся, як дзіця.

Я спытала, што ён ведае аб смерці Жэні. Сяргей Грахоўскі распавёў, што напярэдадні Жэня наведала родных і блізкіх, абышла выдавецтвы часопісаў, у адным з якіх ён яе і ўбачыў. Жэня была ў добрым настроі, жартавала. А на развітанне кінула: «Прощайте».

Сяргей Іванавіч запытаў: «А чаму не да сустрэчы?» На што Жэня загадкава адказала: «Можа, пабачымся, а можа, і не».

28

Так атрымалася, што магілу Жэні я наведала першы раз 27 верасня 1994 года, пасля таго, як Жэня мне прыснілася. У маім сне яна з такой горыччу вымавіла: «Што ж ты цяпер да мяне не прыходзіш? Пакрыўдзілася ці што?» Я не бачыла Жэню мёртвай, не бачыла яе магілы, і мне здавалася, што яна жывая.

Я маю ўсе яе кнігі. Пяць – з аўтографамі. Зборнік вершаў «Пара любові і жалю» Жэня падпісала: «*Мілая Тамара-Кармэн, частачка маёй любові – на 123[2] стар. (але гэта – не ўся ж…) Дзякуй за тое, што ты харошы таварыш, сапраўдны сябра! Шчасця табе, святла тваёй сям'і і ўсялякіх поспехаў жадае нязменны Жоржык: Жэня.*

*З Новым 1984-м годам! 26.12.1983 г.*».

Калі не мне вясну пачуць,
Калі не мне ісці па травах, –
Сябры мае, што злева, справа,
Замоўкнуць песні не дадуць.

У горы з сонцам напалам
І ў трудных пошуках, у быце,
Калі не мне, – маім сябрам
Глыбей у сэрца зазірніце!

*Я.Янішчыц*

У маёй памяці Жэня застанецца назаўсёды маладой. Яе паэзія будзе хваляваць яшчэ не адно пакаленне. І мы, яе сябры, не дадзім "замоўкнуць песні" нашай Жэні, таленавітага беларускага паэта Яўгеніі Іосіфаўны Янішчыц.

Лістапад 2006 – ліпень 2016

*[1]Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі ў 4 тамах. Т. 2 / уклад.: С.У.Калядка, Т.П.Аўсяннікава ; рэд. тома Л.Г Кісялёва. – Мінск : Беларуская навука, 2017. – 600. – С. 482 – 498.*

*Полымя. – 2007. – № 12. – С. 166 – 177. (Пад назвай «Я пісала табе пісьмо» ў скарочаным варыянце).*

*[2]На 123 с. верш «Палеская Кармэн», прысвечаны Тамары Аўсяннікавай.*

## «НА ВЫШЫНІ СВЯТЛА»[1]

*Памяці Яўгеніі Янішчыц*

… Паэзія, – яна не знае тлену,
Калі ў душы хоць прыгаршчы святла.
*Я.Янішчыц*

Знакавым у творчасці і прарочым у жыцці Яўгеніі Янішчыц стаў верш «Непрыручаная птушка», які быў надрукаваны яшчэ ў першай кнізе «Снежныя грамніцы»: «Я непрыручанаю птушкай // Жыву між сполахаў і дрэў».

Мяне ў палёце не скарылі.
А будзе што не так – малю:
Скруціце стомленае крылле
І кіньце ў родную раллю.

Яўгенія Янішчыц так і засталася “непрыручанаю птушкай”, а родным і сябрам прыйшлося дачасна “стомленае крылле” апусціць у “родную раллю”.

Лёс паэтэсы складваўся шчасліва. Першыя вершы з’явіліся ў рэспубліканскім друку ў 1964 годзе. Праз два гады яна стала студэнткай БДУ і апынулася ў самым цэнтры літаратурнага жыцця Беларусі. У 1970 годзе выйшла першая яе кніга «Снежныя грамніцы».

Адразу пасля заканчэння ўніверсітэта, у 1971 годзе, яна выходзіць замуж за паэта Сяргея Панізніка, якога кахае яшчэ са школьнай парты. На вяселлі прысутнічалі амаль усе сталічныя пісьменнікі. Маладыя адпраўляюцца на некалькі гадоў у Чэхію.

У 1975 – 1976 гадах на паэтэсу пасыпаліся няшчасці адно за другім: дачасная смерць бацькі, развод з мужам, аварыя ў Магілёве. Толькі праз дзесяць гадоў пасля аварыі яна зможа перадаць свае пакуты ў вершы «Пасля траўмы»:

Здавалася: ні голасу, ні цела.
А ў галаве – сірэны і званы.
І аднаго тады душа хацела:
Упасці у сівыя палыны!

Смылела ноч, палаты дыярама,
І чорны прывід кратаў за руку.

Выжыць ёй дапамог сын:

Прайду быллём і церпкай лебядою.
І на жыццё развяжа вочы сын.

У жыцці паэта было многа радасці і многа смутку. Аб ёй прыхільна пісалі крытыкі Р.Бярозкін і Д.Бугаёў. Першую кнігу «Снежныя грамніцы» запрасіў англійскі інтытут літаратуры. У складзе ўрадавай дэлегацыі Беларусі Я.Янішчыц прымала ўдзел у рабоце XXXVI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Наведала Фінляндыю. У яе была любоў чытачоў, павага і бацькоўскія адносіны такіх пісьменнікаў, як Іван Мележ, Максім Танк, Ніл Гілевіч, Уладзімір Караткевіч, Аркадзь Куляшоў, Васіль Быкаў, Генадзь Бураўкін, Аляксей Пысін і інш. І – зайздрасць з боку некаторых паэтэс.

Сямейнае жыццё ў Яўгеніі Янішчыц не склалася так, як хацелася, як марылася. Яна пражыла 40 гадоў.

Яе сын Андрэй застаўся з бабуляй па маці. Марыя Андрэеўна перабралася ў Мінск і жыла там да таго часу, пакуль не паставіла ўнука на ногі: ён закончыў універсітэт і пачаў працаваць.

Яўгенія Янішчыц выдала шэсць кніг. У яе паэзіі многа болю, які апаэтызаваны з такой шчырасцю і чысцінёю, што адчуваеш магічнасць і святло яе слова:

> Мой боль –
> На вышыні святла,
> Таму і ноччу мне світае.

Дзякуй табе, Жэня, за паэзію, свет ад якой льецца праз подых кожнага твайго радка. Дзякуй за аўтографы, якімі ты адарыла мяне. Вось адзін з іх – на кнізе «На беразе пляча»: «Мілай Тамары-Кармэн з самым сардэчным Сэрцам – ад Жоржыка. Шчасця табе! Мінск, 13. IV.1982 г.».

*[1]Могилевские ведомости. – 2008. – 22 ноября (№ 235/236). – С. 13.*

## «БОЛЬ ЯКІ? ЯКОГА БОЛЮ ЭРА?»[1]

*Старонкі жыцця і творчасці Яўгеніі Янішчыц*

20 гадоў няма сярод нас таленавітай беларускай паэткі другой паловы XX ст. Яўгеніі Іосіфаўны Янішчыц. 20 лістапада ёй споўнілася б 60 гадоў.

У час вучобы ва ўніверсітэце мы не разумелі значнасці асобы Яўгеніі Янішчыц. Пісалі на курсе многія. Ніл Гілевіч ставіў яе ў адзін рад з Алаізай Пашкевіч, Ларысай Геніюш, Наталляй Арсенневай.

З Жэняй у мяне склаліся сяброўскія адносіны. Чатыры гады мы жылі ў адным пакоі. Я маю пяць яе аў-

тографаў. Вось адзін з іх да зборніка вершаў «Ясельда»: «*Мілая Кармэн, вось гэты партрэт непазіраваны і такі, якой ты ведаеш мяне па Паркавай. Дзякуй табе за дабрыню, за шчырасць і сяброўства. 24.VII.1978. Твой Жоржык*».

Сямейнае жыццё ў паэтэсы не склалася так, як хацелася, як марылася, насуперак таму, што ўзор сямейных адносін ёй далі бацькі. Гэта добра адчуваецца ў вершах.

Для сваёй адзінае дачушкі,
На вякі (вядома ж, на вякі!)
Вышыла матуля мне падушкі,
Лёгкія,
  як дым,
    пухавікі.

Вунь яны,
    прывезеныя з дому,
Хараша цвітуць, як сенажаць.
…Ты даруй мне, мама, што мілому,
Так, як ты,
    не ўмею мякка слаць.

*«Для сваёй адзінае дачушкі»*

Развод, адсутнасць узаемнага кахання рабілі паэтэсу адзінокай. Яшчэ ў першай кнізе «Снежныя грамніцы» яна пісала: «Дайце тую палавіну, // Што не ў сілах падзяліць».

У Жэні быў шанец наладзіць сямейнае жыццё ўжо пасля разводу, пасля траўмы, але яна яго не выкарыстала. Чаму? Магчыма, таму, што не змагла пакахаць. Жэня была ідэалісткай і хацела не толькі быць каханай, але і сама кахаць, для яе каханне было жыццём:

«Пачынаецца ўсё з любві, // А інакш і жыць немагчыма».

У трэцяй кнізе «Ясельда» верш «Настальгія» заканчвае радкамі:

Вось я – па насту. Адна. Ні пры кім.
І ў непрыкаянай выстылай сіні
Як не стае мне адзінай рукі,
Той, у якой мая радасць і сіла!

Так, Жэні вельмі хацелася рукі, у якой бы была яе «радасць і сіла», ды не бачыла яна той рукі, а можа, не хацела бачыць, таму што зняверылася і баялася, што другі раз не зможа перанесці здраду. Яна выбрала для сябе іншы шлях:

Я не кінуся шчасця шукаць,
На самоце галубіць патоля.
Буду мудра і светла маўчаць,
Як бярозка між чыстага поля.

Самымі складанымі ў паэзіі, на мой погляд, з'яўляюцца вершы-прысвячэнні. Тут патрэбна ўлічваць некалькі аспектаў. *Па-першае*, добра ведаць асобу, якой пішацца прысвячэнне. *Па-другое*, знайсці паэтычную ці жыццёвую асацыяцыю, каб устанавіць сувязь паміж індывідуальным і агульным, паміж думкамі і пачуццямі асобы і тыповасцю пачуццяў альбо іх адметнасцю. *Па-трэцяе*, вызначыць галоўнае для паэтызацыі: філасофскую думку, жыццёвую пазіцыю і г.д. Жэні гэта добра ўдавалася.

Звернемся да верша «Эн Сэкстан». Не ведаючы лёсу Эн Сэкстан, Жэня не напісала б такія радкі:

Як б’юць рэкламы па вачах!
Для сэрца ж – мала месца.
… Я зразумела твой адчай,
Трывожная Эн Сэкстан.

У вершы «Мова», прысвечаным Нілу Гілевічу, Яўгенія Янішчыц паэтызуе своеасаблівую адметнасць тэмбру голасу паэта ў сугуччы з роднай мовай:

Чую тваю жаўруковую музыку
У скошаных травах мурожных.
Мова! Як сонца маё
                    беларускае,
Ты свецішся словам кожным.

Далей яна разважае над гістарычным мінулым роднай мовы:

Цябе і заворвалі, і закопвалі.
І ўсё ж нашы прокі праз гора
Данеслі да нас цябе,
                родную, цёплую,
Жывую і непаўторную.

І ў канцы верша гучыць філасофскае асэнсаванне значэння роднай мовы для яе асабіста:

І калі ты мяне толькі паклікаеш,
Памру за цябе без енку.
Нашу я любоў да цябе
                    вялікую
У сэрцы сваім маленькім.

У вершы «Ялта – 1917», прысвечаным Максіму Багдановічу, Яўгенія Янішчыц выкарыстоўвае апастрофу:

Роднае поле радка
Ці не з табою, Максіме?
-------------------------------
Хочацца верыць і жыць
Ці не табе, Максіме?
-----------------------------
Песняй абвостраны слых
Чуеш, Максім? – не ўмірае!
Гэта з табой. І для ўсіх
Зорка Венера світае.

Амаль ва ўсіх вершах-прысвячэннях Яўгенія Янішчыц ідзе ад індывідуальнага да агульнага праз філасофскае пераасэнсаванне, дзе яна выказвае сваю жыццёвую пазіцыю і пазіцыю паэта. Многія радкі набываюць афарыстычнае гучанне:

Смерці ў паэта няма –
Ёсць Нараджэнне!
*«Ялта – 1917»*

Паэт з’яўляецца на свет,
Як ластаўка, як выстрал.
*«Эн Сэкстан»*

Паэтаў акрыляе страта,
І загартоўвае – яна!
*«Гамаюн на Палессі»*

Хачу спыніцца яшчэ на двух вершах. Першы – «Мальба Дункан, ці Сяргей Ясенін у Амерыцы», у якім Я.Янішчыц змагла перадаць душэўны боль Ізадоры Дункан і свой боль. Тут яна саюзніца Дункан.

Боль які? Якога болю эра?
Балявы ўзвышаецца парог.
«Я малю цябе: застанься, Серго!
Бачыш? Да тваіх прыпала ног».

Гэта мальба не толькі Дункан, але і Янішчыц, тым больш што імёны каханых супадаюць.

А далей перажытае С. Ясеніным зліваецца з перажытым Я. Янішчыц. Іх аб'ядноўвае вялікая любоў да Радзімы. Ім няўтульна ў Амерыцы:

Пышныя – ды ўсё чужыя! – ланчы…
Сум чужых абдымкаў і зямлі…
…………………………………………
О, Радзіма! – сіні край! – тальянка! –
Хоць і ўмерці – толькі на сваёй!

У другім вершы «Затушуйце руку» Яўгенія Янішчыц знаходзіцца ў апазіцыі да Ізадоры Дункан: «...Затушуйце руку Ізадоры, // Што ўпілася арліцай ў плячо».

Тут паэтэса супрацьпастаўляе пяшчотнае каханне «славянскай галубкі, дзе нябачна журбоціцца страсць», другому каханню: «Ёсць каханне страшней душагубкі: // Ні прапасці, ні дыхаць не дасць».

Для Жэні яе каханне таксама стала «страшней душагубкі», яна разумее, чаму Ясенін хоча, каб затушавалі руку Ізадоры:

Дзеля лепшае песні паэта
Адшчапіце руку!

Рука Ізадоры – рука былога кахання, яна перашкаджала абодвум паэтам. Каханне Яўгеніі Янішчыц – вялікае шчасце, падараванае ёй лёсам, і вялікі боль.

Магчыма, каб было інакш, мы не мелі б такога паэта, як Яўгенія Янішчыц.

*[1]Роднае слова. – 2008. – № 11. – С. 13 – 14.*

## «ДАРУЙ, ШТО ВАРУШУ ТВОЙ БОЛЬ...»[1]

Друга самага лепшага апускаючы ў жвір
Час пазначым. Праверым сябе.

*Я.Янішчыц*

Так, нам жыццё не адзін раз дае магчымасць праверыць сябе і ў свята, і ў будні на годнасць называцца чалавекам. Асабліва ў сумныя хвіліны – «апускаючы ў жвір» сябра. І не толькі. А ці робім мы гэта? Ці задумваемся над сваімі ўчынкамі і словамі? Жэня задумвалася і правярала сябе па тых, каго не стала. Можа быць, таму вершы-прысвячэнні ў яе атрымаліся такімі шчымлівымі, па-мастацку бездакорнымі. Напрыклад: «Ружы Купалы», «Салаўі. Памяці Лёні Якубовіча», «Памяці Ёзаса Янішчыца», «Рыгору Семашкевічу», «Затушуйце руку», «Памяці Еўдакіі Лось» і іншыя.

Добра ведала Жэня і цану сказанаму слову. Яна адчула на сабе ўсе адценні яго значэння, што па-мастацку вобразна, па-філасофску глыбока і эмацыянальна дакладна перадала ў вершы «Роздум над недасяжным словам»:

Расло увысь і вырастала ўшыр.
Цвіло на вуснах. Тлела пад нагамі.
Не раз кідала з вышыні у вір
І пад вачмі сыходзіла кругамі.

Для паэта Яўгеніі Янішчыц, чалавека духоўнага і нераўнадушнага, іншага не было дадзена, чым наступ-

нае: «Адно я знаю, што пустога слова // Не выцерпіць глыбінная душа».

Так атрымалася, што Жэню дакаралі пры жыцці і працягваюць дакараць цяпер за кнігі, адзначаныя прэміямі, якія, дарэчы, не прынеслі ёй ні матэрыяльнага прыбытку (пералічваліся ў Фонд міру), ні маральнага задавальнення.

Анатоль Казловіч у сваёй хроніцы «Беларусы паміж небам і зямлёй» у раздзеле «23. Жэня Янішчыц» знайшоў добрыя словы аб творчасці Жэні, але ж перакрэсліў усё, навесіўшы ёй ярлык «ущербной калины». Мяне растрывожыў гэты матэрыял і ўжо некалькі гадоў не дае спакою, асабліва абразлівыя выказванні аб амерыканскім цыкле вершаў. Цытую: «*Писатели, награждённые посещением ООН, по возвращении сочиняли очерки о стране «жёлтого дьявола». Подчиняясь выездному инструктажу, авторы отключали в себе зрение, слух, ум. Властвовали гордость, чванство, невежество. Американский стихотворный цикл Янишчыц не был исключением. В Америке Женя увидела «золото и тлен», а вместо человека – «Каина как феномен прогрессивных перемен». В Вашингтоне заметила, как кружатся листья осени, но насладиться красотой не захотела, потому что красота была чужая, исходящая не от домашней берёзки. Американские стихи Женя включила в книгу «Пара любові і жалю» (1983), за неё получила Госпремию БССР. Советский патриотизм получил достойную оценку фарисейского государства. Пой, Женя, дальше…*».

А цяпер звернемся да амерыканскага цыкла Яўгеніі Янішчыц, які ўключаны ў кнігу «Пара любові і жалю» пад нумарам 2. Кніга мае чатыры часткі. У першую ўвайшло 59 вершаў, у другую – 22, у трэцюю – 32, у чацвёртую – 74, усяго – 187 вершаў.

Зрэшты, калі нават пагадзіцца з А. Казловічам, што амерыканскі цыкл прасякнуты савецкім патрыятызмам, я не думаю, што камісія па прысуджэнні дзяржаўных прэмій кіравалася толькі ідэалогіяй. У кнізе шмат высокамастацкіх твораў, якія маюць права на ганаровае месца не толькі ў беларускай, але і ў сусветнай літаратуры. Гэта «Роздум над недасяжным словам», «Нескарыстаны патрон», «Інтэлігенты ад зямлі», «Сынок і маці», «Добры вечар, землякі!», «Правяраючы час і сябе», «Прыгаршчы святла», «Баюся я нявыказаных слоў», «Дзе ты прапала», «Ты той, каго няма са мной», «Якая я?», «То цёмны бор, то рэдзенькі лясочак», «Дзе згубіліся Вы…», «Любоў мая», «Калі спявацъ прытоміцца душа», «Дажджавая нітка лёсу мамы». Спіс можна працягваць, але ў мяне іншая мэта.

У Амерыку Жэня як паэт «з сабой прывезла толькі ліру» і адчувала сябе пасланніцай сваёй краіны:

Светла міру
мне даваць прысягу.
Не бунтуй, шалёны акіян.
Я сама стаю, як дрэўка сцяга
Перад уваходам у ААН.

Дарэчы, А.Казловіч у гэты час знаходзіўся ў Англіі. Цікава, кім жа ён сябе адчуваў за межамі Радзімы? Зразумела, што задачы і адказнасць у іх былі не аднолькавыя. Фарысейства ўлады і Радзіма – паняцці таксама розныя. У Амерыцы Жэня ўбачыла не толькі «золата і тлен», але і «зоркі брацкіх абеліскаў», пачула «галасы жывых і мёртвых». А як жа інакш? Праблема міру востра стаяла ў пачатку 80-х гадоў XX стагоддзя (яна і сёння не страціла сваёй актуальнасці), таму прызыў паэта і маці «Людзі свету, дайце згоды рукі // Перад уваходам у ААН!» быў нязмушаным і лагічным.

Тэму вайны і міру Я.Янішчыц працягвае ў вершах «Прагулка па Мэдзісон»:

Між галубоў гуляюць дзеці
(Хай абміне іх горкі плач!).
О, страшна мне ўявіць, што ў свеце
Зямля ўзляціць, як лёгкі мяч.

Ёй цяжка паверыць тым, хто ўчыніў бесчалавечнае злачынства ў Хірасіме і Нагасакі, хто вёў агрэсарскую вайну ў Індакітаі, не спыняў гонку ўзбраення:

Гляджу на ўдумлівы подзіў,
Адкрыты ўсім вятрам,
Але, мадам Бартольдзі,
Як мне паверыць Вам?
*«Зварот да статуі Свабоды»*

Жэня па сваёй сутнасці – чалавек прыроды, чалавек зямлі. Ёй і ў Мінску не заўсёды было ўтульна. Няцяжка ўявіць, як сябе магла адчуваць Я.Янішчыц у Вашынгтоне і Нью-Ёрку. І яна шчыра прызнаецца:

О, рытмы краю, вас я не адразу
Ўспрымаю (ды – ці і магу ўспрыняць?).
…А вуліцы, адкрытыя, як язвы, –
Хоць і вітрыны золатам зіхцяць.

Цяжка Жэні было ў Амерыцы псіхалагічна, яна не адчувала сябе свабоднай. Добра ведала, што пільнае вока пэўных служб сочыць за кожным крокам і кожным словам. Амерыканскія службы таксама не спалі. Таму і пісала: «Акно маё прашчупвае лакатар // Чужога і нядрэмнага акна».

Таму і «Бяссоння ноч. Драбочак анальгіну. // Пражэктара іголка, як шпрыца». У Жэні вельмі нізкі «болевы парог», таму так тонка яна ўспрыняла ўсё, што адбывалася не толькі ў яе жыцці, але і ў свеце. Яна, можа, і хацела па-іншаму, але ў яе не атрымлівалася:

Я чорных слоў не маю на прыкмеце,
Запісвайце, лавіце тонкі нерв..
І ў неспакойным горадзе – і ў свеце! –
Спрабую напісаць спакойны верш.

Пачуцці эмігрантаў Жэня перадала праз прызму сваіх пачуццяў. Гэта добра бачыцца ў вершах «Разбітае сэрца ці скрыпка», «Ціхая песня». Апошні напісаны пад уплывам канцэрта эмігрантаў у Нью-Джэрсі:

Дыяменцікі глебы… – бы з сотаў
Мёд струменіць на донца каўша.
Эмігрыруе розум. І ўсё-такі
Застаецца балючай душа.

Жэня змагла ўбачыць і вытокі гэтага болю: «Хто ж, душа, цябе так развярэдзіў?.. // А крынічка з-пад кораня б’ е».

Анатоль Казловіч папракае Я.Янішчыц за тое, што яна ў Амерыцы «насладиться красотой не захотела, потому что красота была чужая, исходящая не от домашней берёзки». Скажыце, калі ласка, у каго павінна была пытаць Я.Янішчыц – у Казловіча, – як ёй успрымаць вашынгтонскую восень? Дарэчы, верш «Энергія апалага лістка», які так крытыкуе А.Казловіч, лічу адным з лепшых вершаў амерыканскага цыкла.

Як Вашынгтон мяняе пазалоту:
Сярэбрана-ружова-медны бляск!

…Няма маёй рабіны каля плота,
Няма бярозкі зорнага святла!

Заманьвае вітрына лаўкі «Pizza».
І дождж падставіў дрэва парасон.

А дзе ж мая празрыстая крыніца?
Дзе ціхая мелодыя лясоў?

Прыгажосць вашынгтонскай восені Жэня бачыла, але сумавала па роднай прыродзе. Няўжо ў гэтым яе віна, шаноўны?

Гуляе дзіўны ліст па тратуары,
А нахіліцца не хачу я, не.

Няма маёй каліны светлатварай,
А значыць, тут яшчэ няма й мяне!

Паніклая вярба, як патароча…
Густы пейзаж. Туман – як з малака.
Адкрыць, сказаць сваё мне нешта хоча
Энергія апалага лістка.

Жэня ніколі не пісала, каб дагадзіць уладам. Яна была паэтам сваёй краіны ў самым высокім сэнсе. Радзіма для яе, як і маці, адна. Яўгенія Янішчыц – тая расліна, тая кветка, якую нельга перасадзіць у іншую глебу. Я тут фізічна, гаворыць яна нам, эмацыянальна, духоўна – у родных мясцінах. Такая рыса непарыўнай сувязі з Радзімай уласціва толькі сапраўдным творцам, а Жэня і была такім творцам. На памяць прыходзіць парыжскі аўтапартрэт нашага земляка Марка Шагала, на якім мастак намаляваў сябе на фоне Эйфелевай башні ў выглядзе дэндзі, а на мальберце – Віцебск…

Жэня ўглядаецца, услухоўваецца, разважае. А Вы, шаноўны Анатоль, паставілі яе ў адзін шэраг з тымі, хто сапраўды адключаў слых, зрок і розум. Многія вершы паэта не маюць тэрытарыяльных межаў, таму вечныя і належаць сусветнай літаратуры. І яшчэ, Жэня як паэт і чалавек заўсёды заставалася сама сабой. У вершы «Трывожным клінам позні вырай…» з чацвёртай часткі кнігі «Пара любові і жалю» яна і другіх заклікае:

«Не сотвори себе кумира»:
Не бойся быць самім сабой.

Жэня не мае ніякага дачынення да «чванства и невежества». Гонар быў, і дзякуй Богу, што быў.

А.Казловіч паставіў Жэню ў адзін шэраг з «чирикающими птичками», якіх улада з ахвотай выпускала «на идеологические орбиты». Няўжо шаноўны спадар забыўся ці не ведаў, што ў гэтай «птички» к 1981 году было ўжо чатыры кнігі глыбокай лірыкі, была паэма «Ягадны хутар», былі тры жыццёвыя трагедыі, якія не кожны мог перанесці з такой мужнасцю і зберагчы пры гэтым унутранае святло ў сабе і ў паэзіі: «Над кожным снегападам // Ляціць маё святло».

Мой боль –
На вышыні святла,
Таму і ноччу мне світае.
«А як хацелася цяпла»

А.Казловіч, прачытаўшы «Роздум на Арлінгтонскіх могілках», вызначыў для сябе толькі другую страфу:

На мулкіх вулках выстылых ускраін
І ў цэнтры – тут, дзе золата і тлен,

Зarосшы валасамі ходзіць Каін –
Феномен прагрэсіўных перамен.

І чамусьці не звярнуў увагі на радкі з пятай страфы:

Мо лепей быць жалезным, чорным робатам,
Не ведаць праўды і не прагнуць крыл?
…Як лебедзь –
мармуровы крыж над Робертам.
Над Джонам – расстраляны небасхіл.

Трагедыя ў тым, што Жэня ведала гэтую праўду і ўсё ж прагнула крыл. Але, каб зразумець паэта Яўгенію Янішчыц і патрапіць у яе паэтычную танальнасць, трэба мець такі ж камертон душы.

Жэня вярнулася з Амерыкі і пазваніла мне. Радасці ў голасе я не пачула, хутчэй наадварот. На мае пытанні адказала, што раскажа ўсё пры сустрэчы. Аб гэтай сустрэчы я падрабязна распавяла ва ўспамінах «Па слядах памяці». Тут скажу коратка. Як павінна была адчуваць сябе Жэня ў Амерыцы, калі знаходзілася пад пільным наглядам. Выступленні ёй даваліся ў гатовым выглядзе. І ў дадатак – просьба незнаёмага перадаць долары ў Саюз. А гэта на той час – дзяржаўнае злачынства. Сказаць, што Жэня была напалохана, значыць, нічога не сказаць. Гісторыя з доларамі, якія везці праз мяжу яна ніколі не асмелілася б, паўплывала на яе стан здароўя. Падзейнічала на яе, безумоўна, і выязная працэдура, аб якой пісаў А.Казловіч. Магчыма, гэтая сітуацыя пралье свет на душэўны стан Янішчыц у Амерыцы і пасля, а таксама на вершы, якія не змог зразумець Казловіч.

Зводдаль ясней бачыцца тое, чым чалавек даражыць:

І ў цішыні, што дыхнула марозна,
Скрозь ледзяную, празяблую сінь –
Свеціцца кожная сынава слёзка,
Луг журавінавы, ў полі – бярозка,
Ціхая, ў чорнай хусцінцы – Хатынь.

*«Зводдаль»*

Такія думкі для Жэні былі натуральнымі, таму што:

Да чужога не звыкліся вочы,
Сэрца цепліць гаючы ўспамін.
Можа, свет пераменіцца тройчы –
Келіх роднага неба адзін!

Злучае паэта з родным краем «дажджавая нітка лёсу мамы», якая «праз чужыну – журыцца» разам з ёю. У вершы «Шлях дадому» паэт з радасцю ўсклікае: «Добры дзень, дымок зямлі салодкі!» і ў той жа час выказвае заклапочанасць: «Толькі б чэрствасць нас не астудзіла, // Толькі б спела слова не дарма».

Жэня была чалавекам закрытым, тонкім і далікатным у адносінах з людзьмі. Яна давярала сваёй інтуіцыі. Яшчэ не ўбачыўшы Амерыкі, Жэня прызнавалася: «Душа прымоўкла на трывожнай ноце». Прадбачачы папрокі з боку творцаў па пяру, Я.Янішчыц амерыканскі цыкл адкрывае вершам «Лячу у найсучасным самалёце»:

Лячу у найсучасным самалёце,
Дачка любові, жалю і святла.
Нясуць тугія крылы у палёце
У край, дзе я ніколі не была.

І пэўна ж, нехта здзівіцца маркоце,
І за маркоту стане дакараць.

Жэня тлумачыць, чаму яна маркоціцца:

А я зжылася з ластаўкай на дроце,
Са сцежкай, што лягла праз сенажаць.

А я зжылася з тым, чаго чакаю,
Пра што вядома спорнаму пяру.
…І цяжка небу крылы давяраю.
…І лёгка я
з зямлёю гавару.

У амерыканскі цыкл увайшлі чатыры вершы-прысвячэнні: «Мэрлін Манро», «Эн Сэкстан», «Эрнэст Хемінгуэй», «Мальба Дункан, ці Сяргей Ясенін у Амерыцы». У апошнім ярка адчуваецца душэўная роднасць аўтара з паэтам С. Ясеніным. Усе вершы-прысвячэнні Я. Янішчыц уваходзяць у паэтычную скарбонку. Лёс кожнага, каму Жэня іх адрасавала, хваляваў яе і меў адпаведнае ўздзеянне на яе думкі, паэзію і ўвогуле жыццё. Спыніцца хачу на адным – «Эн Сэкстан». У вершы столькі перажыванняў і болю самой Янішчыц, што многія радкі сёння ўспрымаюцца як тлумачэнне яе апошняга палёту. Тут лёсы паэтаў пераплятаюцца. Радкі «*Паэт з'яўляецца на свет, // Як ластаўка, як выстрал*» гучаць афарызмам і ў аднолькавай меры адносяцца як да Эн Сэкстан, так і да Янішчыц. Жэня «адчула гнеў» гордай Эн Сэкстан, «зразумела адчай» трывожнай Эн Сэкстан. Заканчвае верш страфой:

Не ў самагубстве сілы соль,
Хоць ёсць тут знак пратэста.
Даруй, што варушу твой боль,
Спакойная Эн Сэкстан.

Сапраўды, «даруй, што варушу твой боль», шчымлівая Жэня Янішчыц.

*[1]Літаратура і мастацтва. – 2009. – 20 лістапада (№ 44). – С. 15.*

## «АБНАДЗЕЕНЫЯ ДНІ»[1]

Ды ўжо прашу у дня,
Што наступае,
Ахоўнага і яснага крыла…
*Я.Янішчыц*

Пры ўважлівым знаёмстве з творчасцю Яўгеніі Янішчыц мы можам заўважыць, што ў зборнік «У шуме жытняга святла» (1988) аўтар не ўключыла ніводнага верша з кнігі «Дзень вечаровы» (1974). Чаму? Паспрабуем разабрацца. Д. Бугаёў у артыкуле «Трымф і трагедыя» ў адзінаццатым нумары часопіса «Нёман» за 2008 год піша: «*Кнігі, як і людзі, маюць не аднолькавы лёс. На «Снежныя грамніцы» пасля іх выхаду з друку з'явілася больш дзясятка рэцэнзій. А на зборнік «Дзень вечаровы» аператыўная крытыка не адгукнулася*». Няцяжка ўявіць сабе стан паэта, кніга якога засталася незаўважанай. «*Праўда, паэтэса атрымала за гэтую кнігу беларускую камсамольскую прэмію,* – працягвае далей Д.Бугаёў. – *Магчыма, сваю ролю адыгралі тыя абставіны, што паэтэса тады працавала загадчыкам бібліятэкі ў ЦК камсамола Беларусі*». Мушу заўважыць, што ў бібліятэцы ЛКСМБ Янішчыц працавала ў 1971 г. да ад'езду ў ЧССР усяго некалькі месяцаў. А ў 1978 г. была літкансультантам «Сельскай газеты». Аўтар артыкула ўсё ж лічыць, што «*... рашаючым было тое, што паэзія Яўгеніі Янішчыц адрозніваецца сапраўднай таленавітасцю. Такім чынам, прэмія давалася не за кан'юнктурнасць, не за*

*«приспособленческое словословие» (гэтага ў Янішчыц не было), а за шчырасць і глыбіню паэтычнага слова».*

Безумоўна, за «шчырасць і глыбіню», за «сапраўдную таленавітасць». Але ж пасля прысуджэння прэміі пачаліся перасуды. Маўляў, другая кніга слабейшая за першую, а ўзнагароду атрымала. Гэтыя перасуды прыпалі на цяжкі перыяд у жыцці Жэні. Яшчэ балючай была рана трагічнай смерці бацькі і рана разводу. Яшчэ не забылася аварыя, што здарылася з ёю ў Магілёве, пасля якой вучылася хадзіць і шукала ў сабе сілы жыць.

Прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, атрыманая ў 1978 годзе, не прынесла аўтару ні радасці, ні матэрыяльнага прыбытку (усе прэміі пералічваліся тады ў Фонд міру).

У. Гніламёдаў у артыкуле «Разглядаючы тайны быцця (Яўгенія Янішчыц)» адзначае: «*У другой кнігі заўсёды ёсць свая асаблівасць: часам здараецца, што на яе паэта не хапае. Пра «Дзень вечаровы» так не скажаш – там ёсць шэраг удалых вершаў. Але кнігай – этапнай кнігай – ён, на мой погляд, не стаў. У лепшым выпадку абазначыў пачатак новай паласы ў творчасці паэтэсы*» (У кн.: Ля аднаго вогнішча. Мінск: Юнацтва, 1984).

«Снежныя грамніцы» (1970) сапраўды сталі адкрыццём. Аўтар здзівіла ўсіх сваёй непаўторнай паэтычнай індывідуальнасцю, здзівіла цнатлівасцю, святлом пачуццяў і вобразаў, любоўю да роднага краю. Але час юнацкіх летуценняў мінуў. У Жэні быў новы жыццёвы, а значыць, і творчы перыяд. Надзеі не спраўдзіліся: «*Я думала: прыйду ў зялёны сад…*», «*Прыйшла у сад, які увесь барвовы!..*»

На мой погляд, кнігай «Дзень вечаровы» Янішчыц не толькі замацавала сваю пазіцыю ў паэзіі, захавала

сваю непаўторную паэтычную індывідуальнасць, але і пайшла далей. Жыццёвыя варункі паўплывалі на яе светапогляд. У вершах з'явілася больш філасофскай развагі і жыццёвай мудрасці. Любоў Гарэлік у артыкуле «Паэзія суму і святла» («Полымя» №3, 1996) заўважае: «У кнізе «Дзень вечаровы» шырэюць далягляды, узбагачаецца вопыт, раскрываюцца новыя якасці лірычнага характару».

Другая кніга пісалася замужняй жанчынай, якая шчаслівай сябе адчувала толькі два тыдні пасля вяселля. Таму, пэўна, мы сустракаем радкі: «*Пагас, патух мой ясны дзень*», «*Мінаюць летуценняў дні, // Наперадзе няясная трывага...*». Менавіта ў перыяд напісання другой кнігі ў жыцці паэта адбыўся душэўны надлом. І менавіта ў другой кнізе з'яўляюцца першыя трывожна-трагічныя ноты (*вершы: «З зялёнага Палесся», «Чайка над залівам», «Калі не мне вясну пачуць», «Асіліць мушу перашкоды», «Я сёння святкую сваю перамогу»*). Разам з паэтам і яе лірычнай гераіняй мы чуем, як «*...Зайшлася надоўга над возерам каня // Удовінай песняй...*», нам разам «*шчыміць*» начамі крык чайкі, якая згубіла сваіх дзяцей і «*…над залівам плача*». Трывога дасягае найвышэйшай ноты ў радках: «*Я і сама паміж вятроў // Уся – палёт суровы...*»

Нягледзячы на перажыванні, трывожнае гучанне некаторых вершаў, другая кніга Я.Янішчыц прасякнута святлом:

Прымі святло,
Што льецца з-пад пяра
і вырастае ў сонца пад рукамі.

Паэт па-ранейшаму адчувае радасць ад еднасці з прыродаю і лёгкасць творчасці:

Я сінюю радасць вітаю,
Гукаю зялёную ў сны…
І словы з душы вылятаюць,
Як ластаўкі з гнёздаў вясны.

Бясспрэчна, ёсць шкадаванне па тым, што было: «Як добра ўсё было! // Няўжо так хутка лета адцвіло?» Але няма трагедыі:

Ўсяму, што збудзецца, –
вітанне!
Збылося што –
таму паклон!

Жэня стаіць на парозе новага творчага шляху, як і заўжды, светлага:

Я выйду зялёным прадвеснем
На першую ўранні расу
І ціхую, новую песню
Да сонца, да зор панясу.

Радасці ў пачуццях і светаўспрыманні ёй надавала мацярынства, якое яна спазнала ў 1972 годзе, калі нарадзіўся сын Андрэйка.

Спі, мой сыне, спі, мой болю,
Спі, крыло майго жыцця…
Я й сама цяпер з табою,
Як вясёлае дзіця.

Чытаючы «Дзень вечаровы», мы заўважаем, што пачуцці да Радзімы ў Я.Янішчыц набываюць яшчэ больш патрыятычны характар. У яе няма страху «памерці», а ёсць страх «сабой не засланіць» Радзіму. Гэта

звязана з тым, што Жэні давялося некаторы час жыць з мужам у Чэхіі, адной з самых прыгожых краін Еўропы. Але там яна сумавала, таму што звязана была з родным краем, нібы пупавінай дзіця з маці. Сустрэча з Бацькаўшчынай напоўніла сэрца радасцю: «*І новыя спевы душу захліснулі: // Я роднаму краю іду пакланіцца*». Янішчыц упэўнена:

Цяпер,
 калі са мой зямля –
Мае палі, мае дубровы,
Я свята верую, што й шлях
Абраны мной,
 беспамылковы.

Яўгенія Янішчыц яшчэ не ведае, што яе чакае – «Дарога? Бездараж? Спакой?», але ёй ужо хочацца ведаць: хто яна, што яна значыць для Радзімы: «*Хто я ў лясах тваіх, // Радзіма? // Радзіма, // Хто я у палях?*»

Не менш важным для самой Жэні і яе лірычнай гераіні было ведаць, што значыць яна для каханага: «*Скажы мне: // Што я значу // Ў душы разгубленай тваёй?..*»

Тэме кахання ў кнізе прысвечана каля 15 вершаў. У іх мы не знойдзем той рамантычна-акрыленай гераіні, што была ў «Снежных грамніцах». У іх мы бачым жанчыну, якая спазнала расчараванне, але гатова жыць, працаваць, ісці далей. У прыродзе ўсё па-ранейшаму: «*Ізноў буяе восень, // ізноў гудуць бары. // Ізноў дажджы прыходзяць, // як даўнія сябры*». У жыцці гераіні мы бачым змены:

Перабіраю стрэчы…
 Заглядваю ў акно…
Але нікога штосьці
 ля хаты не відно.

Гуляе толькі восень
па дрогкаму мастку…
І голас твой падобны
апаламу лістку.

Паэт разам са сваёй гераіняй разумее, што няма патрэбы вяртаць страчанае:

Збылося што – не мінаваць!
Між намі шлях святла і ценяў.
Нашто, забыўшыся, вяртаць
Кароткі пошум летуценняў?

У любоўнай лірыцы звычайна героі перажываюць, што іх разлюбілі, пакінулі. У Я. Янішчыц наадварот, разлюбіла сама гераіня, хаця і цепліць надзею: «*Нашто захмурваць галаву // І думаць, што яшчэ кахаю… // Але, наіўная, заву! // Але, трывожная, шукаю!*»

Яе лірычная гераіня спазнала «*...міг пакаяння // і міг, які баліць // За учынкі і за сказаныя словы, // Што не вырваць, // не забыць// і не спаліць...*» і адчувае не толькі свой боль, але і боль некалі каханага чалавека:

Галоўнае,
Што боль твой
Жыве ў маёй душы.

Значнае месца ў творчасці паэта займае верш «Памяці Ёзаса Янішчыца». Ёзас Янішчыц – першы муж Жэнінай маці, які загінуў у час вайны, а прозвішча бацькі – Патапчук.

Мне як памяць адзіная
Ад журботных удоў –
Ваша прозвішча дзіўнае
З латышскіх стралкоў.

Прысвячаючы верш кожнаму чацвёртаму беларусу, які загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны, Жэня адчувала адказнасць за прозвішча, якое насіла: «*Расстралянаму прозвішчу // Абяцаю жыццё*».

Сваё абяцанне яна выканала. У кожнай кнізе паэта ёсць вершы, звязаныя з вайной. Яна не бачыла вайны, але ж дзіцячая памяць назаўсёды зберагла яе адгалоскі. У Жэні быў свой асобы падыход да гэтай тэмы, якую яна магла вызначыць адною фразаю, як у вершы «Славацкі снег. Памяці Змітрака Астапенкі»: «*Ды ўжо на белы снег нясмела // Хіснуўся ранены паэт*».

Не засталася Янішчыц убаку і ад ваенных падзей, якія адбываліся ў Чылі: «*...Гарыць касцёр дзесь у далёкім Чылі, // А іскры далятаюць да мяне!*»

Уражвае карціна расправы над песняром і яго гітарай у вершы «Песня Віктара Хара»:

> ...Пяць пальцаў не баляць –
> яны ляжаць
> Асобна...
> За горла падвешана гітара,
> Як асоба.
> І побач з ёй –
> яе ўладар –
> Пясняр бязрукі...
> Нібы удар,
> цяжкі удар –
> Нясуцца гукі.

Жэню магнітам прыцягвалі лёсы паэтаў, якія загінулі маладымі. Вельмі шчымлівым атрымаўся верш «Салаўі» памяці дваццацідвухгадовага Лёні Якубовіча.

Не ведала, не ведала, калі…
А думала
Зялёным тым прадвеснем:
Калі мае замоўкнуць салаўі,
То за тваімі –
Столькі многа песень!

У кнізе «Дзень вечаровы» Я.Янішчыц упершыню звяртаецца да сацыяльнай праблемы вёскі. Праблемы, калі сялян не адпускалі ў горад – не давалі выпіскі.

Кажа маці: «Сёння дзеці – госці.
Нездарма мясцовы сельсавет
Так баіцца выпісак.
Хоць злосці
Ўжо нажыў на цэлы божы свет…»

Паэт тут не пратэстуе, а толькі абазначае праблему і выказвае адносіны вяскоўцаў да гэтай праблемы. Носьбітам адносін стала маці. С. Калядка, аналізуючы першыя дзве кнігі Я. Янішчыц, слушна заўважае: «*Яе лірычнае, мяккае слова не набыло публіцыстычнага напалу і выкрывальнай энергетыкі… Гэта таленту Я.Янішчыц не патрабуецца, у такой іпастасі яна чужая*» (Непрыручаная птушка Палесся. Мінск: Беларуская навука, 2007 – С. 33). Сапраўды так, Жэня – паэт-лірык, а не трыбун. І патрабаваць ад яе палітычна выражанай паэзіі было нельга.

Варлен Бечык называе другую кнігу «*цікавай і таленавітай*», але ёй не хапае, на яго погляд, «*…арганічнага суладдзя: то фарсіравалася форма, то спеў не дасягаў глыбінь, непасрэднасць знікала, а глыбіня не давалася*» (У кн.: Прад высокаю красою. Літ.-крыт. артыкулы. – Мінск: Маст. літ., 1984. – С. 222). Згодна. Кніга цікавая і таленавітая. А вось фарсіравання формы не бачу.

На 60 вершаў – адзін верлібр і рубаі (6 чатырохрадкоўяў). Тым больш, што форма не выглядае штучнай у адносінах да зместу, а наадварот. У Жэні ўсяго тры верлібры. У кнізе «Дзень вечаровы» мы знаёмімся з першым – «Хацела Вам сказаць я». Другі сустрэнем у кнізе «Ясельда» (1980) – «Калі маўчыць тэлефон», трэці – у кнізе «Каліна зімы» (1987) – «На ўсякі выпадак». Апошні, трэці, – верш-наказ сыну. Форма верлібра вельмі спрыяе перадачы філасофскага зместу і пачуццяў, якім цесна ў рамках рыфмаваных радкоў.

Да вершаванай формы рубаі, распаўсюджанай у народаў Усходу, аўтар звяртаецца толькі ў другой кнізе.

Садралі белую кару
З бярозкі юнай не ў пару.
Здаецца мне, што не бяроста,
А я у полымі гару.

Колькі ж трэба паражыць, каб прыйсці да такой асацыяцыі!

«*Спеў не дасягаў глыбінь, непасрэднасць знікала, а глыбіня не давалася*», – гаворыць В.Бечык. Калі што і знікала, то не «непасрэднасць», а наіўнасць, якая была ўласціва Жэні напачатку, калі яшчэ не была яна «*...сямейнай картай бітая, // і дарогай стаўпавой...*». Магчыма, у душы паэта і не было суладдзя, але ў кнізе ёсць. І глыбіня ёсць. Дастаткова ўчытацца ў кожны верш і задумацца. Я ўпэўнена, што, калі б Варлен Бечык меў магчымасць сёння перачытаць «Дзень вечаровы», ён па-іншаму б ацаніў гэтую кнігу.

Карані чалавечай існасці Яўгеніі Янішчыц, глыбіня яе пачуццяў там, дзе нарадзілася:

Ў маёй глушы і звер –
                    уся паслушнасць.
Уся празрыстасць – тоненькі ручэй.

Ніхто
ніколі
тут
да раўнадушша
Не апускаў ні сэрца,
ні вачэй.

Паэт толькі тады паэт, калі паэзія для яго становіцца жыццём, калі не пісаць ён не можа. Жэні было наканавана быць паэтам. Падсвядома, а можа, і свядома яна гэта адчувала:

Яшчэ няма мяне. Аднак
У залатым разнагалоссі,
Нібы узрушаны мастак,
Мой першы след
малюе восень.

Разумеючы сваё прадвызначэнне, сваю еднасць з песняю, паэт просіць яе: «*Ступай са мною, песня, // На камень і касу...*», «*Са мною, песня, разам // Пакутуй і мудрэй...*», а «*Калі ўпаду, не ўстану, – // Ідзі адна далей!*» Жэня гатова ўступіць у новы этап свайго жыцця і творчасці. Ёй ужо «*...сярэбраныя чуюцца падковы // Абнадзеенага // заўтрашняга // дня*». Яна ўпэўнена, што зможа «*асіліць ...перашкоды...*», але адчувае неабходнасць у падтрымцы, за якой звяртаецца да прыроды, таму што сама Я.Янішчыц – дзіця гэтай прыроды. Яна просіць аберагаць яе «*Ад позы лішняе і слоў...*» да таго часу, пакуль не стане «*...памяццю зялёнай // Ля ясяльдзянскага сяла*». Просіць у дня, а значыць, і ў нас, «*...ахоўнага і яснага крыла*». Але… не пачулі.

Хачу звярнуць увагу чытача яшчэ на адзін знакавы ў творчасці Янішчыц верш з другога зборніка – «Узор». Значна пазней з'явіцца верш «Узоры», які ўвойдзе ў

кнігу «Каліна зімы». У абодвух – творчы працэс паэта і яго вынік падаецца як ткацкі працэс. Адпаведная і лексіка: кросны, вытчацца, сатку, вытчам, калаўрот. Узор – гэта малюнак, у якім спалучаюцца ў пэўным парадку лініі, колеры, фігуры: «*Сатку узор я першы свой / І з верасоў, і з медуніцы…*», «*Узор другі сатку калі / З густых ільноў, з лістоў дубовых*». Сама прырода падказвае паэту, якім быць узору.

Абодва вершы напісаны традыцыйным чатырохстопным ямбам. У вершы «Узор» Янішчыц нам гаворыць, што ўзор менавіта яе і што *яна* яго *вытча* і пасцеле, а не *хто* іншы. Першы свой узор яна раскатае «*да роднай вёскі Велясніцы*». Другі – «*…па ўсёй зямлі, / што волю мне дала і мову*». Тут паэт пазбягае слова «радзіма». Значэнне слова «зямля» больш шырокае, чым радзіма. Зямля ва ўяўленнях нашых продкаў – вечная калыска, маці, яна корміць нас жывых, а пасля смерці прымае ў сваё лона.

Цікава, што свой узор Янішчыц будзе ткаць «*Паміж зялёнаю вясною / І лістападам залатым*». Яна адводзіць для працы тры пары года: вясну, лета, восень. Зімы няма. У міфалогіі розных народаў і ў паэзіі адпаведна поры года асацыіруюцца з працягласцю жыцця чалавека: дзяцінства – вясна, юнацтва – лета, сталасць – восень, старасць – зіма. Такім чынам, Яўгенія Янішчыц адвяла сабе не чатыры пары, а тры і засталася назаўсёды маладой.

Як трэці вытку я, тады
І у журбе, і ў маладосці
Няхай па ім лятуць гады
Маёй адвечнай маладосці.

Паэзія Яўгеніі Янішчыц багатая мастацкімі сродкамі. Амаль кожны з іх – асабістая знаходка паэта. Тро-

пы вясёлкай рассыпаліся па старонках кнігі «Дзень вечаровы», пачынаючы з яе аксюмаран-назвы. Вечар у яе «салодкі», сады «зажураныя», дзень «стомлены», «росы гарачыя», летуценні «думныя», далягляд «незваротны», поза «шэранькая», цішыня «мудрая», «удумак вечаровы», трывога «няясная», здрада «чорная», гады «неразгаданыя», дні «абнадзееныя», сама яна – «непазбежная»; зіма заткала ёй снег «на падарунак», восень малюе яе «першы след», чарнавікі заблішчаць «слязой ці першаю расою», вясенняя вада «сакоча», задума «спела», ранак «залачаў»; «душа падобна высям, а высі – светлым журавам», шлях «як ніць», аблачынка ў яе плыве «яснымі вочкамі сына».

«Дзень вечаровы» – кніга высокай паэзіі. Трэба толькі ўважліва чытаць. Шкада, што Жэня так балюча ўспрыняла папрокі і крытыку ў адрас другой кнігі і ніводнага верша з яе не ўключыла ў зборнік «У шуме жытняга святла». Дзякуй вялікі Але Канапельцы і Валянціне Коўтун. Яны часткова паправілі сітуацыю. 17 вершаў з кнігі «Дзень вечаровы» ўвайшлі ў зборнік «Выбранае» (Мінск: Маст. літ., 2000).

Выдаткі творчага плёну на працягу жыцця неаднолькавыя. У каго яны роўныя? Кнігу «Дзень вечаровы», на мой погляд, трэба разглядаць як адпаведны і значны этап у творчасці Яўгеніі Янішчыц, як этап яе жыццёвых перажыванняў і перажыванняў яе лірычных герояў. Многія вершы паэта не маюць часавых межаў, таму што пачуцці герояў складаюць вечную тэму, а значыць, і вершы вечныя.

*[1]Маладосць. – 2011. – № 3. – С. 133 – 136. Пры падрыхтоўцы да выдання кнігі артыкул быў дапоўнены ўзгадкай пра верш «Узор».*

## НЯМА ТВАЁЙ УСМЕШКІ СЯРОД НАС[1]

О, як змяніўся свет за гэты час!
Чаму ж ты крылы ластаўчыны склала?!
Няма тваёй усмешкі сярод нас –
І песняю тваёй на свеце меней стала.

*Тамара Аўсяннікава*

За вокнамі верасень. Неба нізкае, шэрае. Імжыць дробны бясконцы дождж. Пасля небывала спякотнага лета тэмпература паветра рэзка знізілася, і, калі б не цёмна-зялёнага колеру лісце на дрэвах, якое трымаецца моцна і, здаецца, яшчэ не збіраецца ападаць, можна было б падумаць, што ўжо позняя восень. З наступленнем гэтай пары мяне не пакідаюць думкі пра Жэню Янішчыц. Яе прысутнасць я адчуваю пастаянна, восенню – асабліва. Гэта пара года – Жэніна, пачынаючы з таго моманту, калі яе «першы след малюе восень», і да таго апошняга, калі зямны яе след засыпле лістападаўская завея, але пакіне памяць аб ёй.

Усіх, хто жыў разам з Жэняю, здзіўляла лёгкасць, з якою яна пісала вершы. Успамінае Тамара Каленікава: «*Мы з Жэняю вучыліся ў розных групах, але чатыры гады жылі ў адным пакоі. Самым яркім уражаннем для мяне стала карціна напісання вершаў. Жэня паўляжыць на ложку, закінуўшы нагу на нагу, пад спіною падушка, на каленях блакнот; у правай руцэ – ручка, а ў левай – забытая цыгарэта, якая зышла на тло. Што здзіўляла, дык гэта тое, што для напісання вершаў Жэні не патрэбны былі нейкія асаблівыя ўмовы: скажам, цішыня, адзінота. Нават у шумным студэнцкім пакоі яна магла абстрагавацца – не заўважаць, што адбываецца вакол яе. Бывала, што Жэня адрывалася ад творчага працэсу і прасіла даць ёй варыянты*

*рыфм да нейкага слова. А праз колькі хвілін яна ўжо натхнёна чытала новы верш. «Ну як?» – пыталася і чакала, што мы скажам»*.

Лідзія Корбут побач з Жэняю ў інтэрнаце была тры гады. Ёй запомнілася, як Жэня пісала вершы ноччу пры святле вулічнага ліхтара, седзячы на падваконні. Гэтую ж карціну ўзгадала і Яніна Макарэвіч, якая жыла з Жэняю на трэцім курсе. Сапраўды, шырокае падваконне было ў пакоі адзіным месцам, дзе можна было пісаць, не трывожачы сон сябровак.

Жэня існавала ў бесперапынным творчым працэсе. Вершы і будзілі яе, і заснуць не давалі. У такія хвіліны яна ціхенька ўзбіралася на аблюбаванае ёю месца, і толькі чуваць было, як шамацяць старонкі блакнота і як натхнёна рыпіць пяро. Часам Жэня будзіла мяне, чытала толькі што напісаны верш і чакала адабрэння ці заўвагі. Потым клалася ў пасцель з адчуваннем, як «*верш цячэ па целе сонным*».

Вершы нараджаліся ў Жэні лёгка, без прымусу. Яна запісвала іх начыста сваім прыгожым почыркам. Тольку зрэдку папраўляла не задавальняючую яе рыфму ці радок. Паэзія для Жэні была сэнсам і своеасаблівымі ўмовамі жыцця, рамяством і абавязкам у высокім сэнсе гэтых слоў. У вершы «Рамяство» з кнігі «Ясельда» мы чытаем:

Мне цяжка засынаць, і не таму,
Што сны усе вясёлыя дасніла.
Аддадзеная доўгу аднаму –
Паспець бы ў ночы выпрасіць чарніла.

Жэніна душа поўнілася вершамі. Гэта яе радавала. Трывожыла іншае:

Мне цяжка засынаць. Але цяжэй
На самай справе уявіць такое:
Што песня не прарвалася з грудзей
І абышла паперы белай поле.

Як паэт Жэня ведала цану свайму слову, але як чалавек мела неабходнасць у падтрымцы і адабрэнні яе творчасці сябрамі і калегамі. Час высветліў значнасць асобы Яўгеніі Янішчыц.

Галіна Францаўна, дачка Веры Палтаран, бачыла Жэню ўсяго некалькі разоў і блізка з ёю не была знаёмая. Аднойчы ў кафэ Саюза пісьменнікаў яна звярнула ўвагу на адзінокую жанчыну, якая ў задуменні сядзела за столікам. Гэта была Яўгенія Янішчыц. Галіна Францаўна расказала мне, што яе мама высока цаніла творчасць Жэні і была вельмі ўдзячна за верш «Бэз Веры Палтаран». У сакавіку 1989 года не стала Веры Сямёнаўны, але на дачы і цяпер кожную вясну буяе бэз, які некалі натхніў Жэню. Галіна Францаўна, калі выпадае, нясе белыя і фіялетавыя гронкі на магілы абедзвюх жанчын, якія так любілі бэз.

Божа, як ломіцца ў вокны і ў сэрца
Сэрцам
раскрылены бэз!

Лідзія Корбут узгадала Жэню-першакурсніцу, калі ўсе яшчэ пыталіся: «Хто гэта?» «Разам з паэтамі старэйшых курсаў я ўбачыла невысокага росту хударлявую дзяўчыну, – гаворыць Лідзія Корбут. – Яе постаць выказвала адасобленасць. Яна была тут, а думкі – недзе далёка. Яе ўсмешка як бы з глыбіні душы асвятляла твар і гаварыла, што яна ведае нешта такое, чаго не ведаюць іншыя. Ужо пазней, калі мне давялося жыць разам з Жэняю, я бачыла яе ў розных жыццёвых

абставінах. Яна існавала ў сваім паэтычным свеце, дзе адчувала сябе ўтульна, і нікога туды не пускала. Праз некалькі гадоў пасля заканчэння ўніверсітэта я сустрэлася з Жэняю ў Мінску. На яе твары ляжаў адбітак болю і расчаравання».

Мне запомнілася лёгкая Жэніна паходка. Яна не ішла – ляцела, нібы не кранался зямлі. І пышная прычоска, якую Жэня насіла ў студэнцтве, ад імклівасці руху і сустрэчнага ветру то падымалася, то апускалася з тактам кожнага кроку.

Жэня вельмі любіла музыку, асабліва народную. Яна й сама добра спявала. Мне пашчасціла разам з ёю слухаць «Песняроў», калі яны яшчэ называліся «Лявоны».

Жэня была смелым чалавекам, нават адчайным. Яна бясстрашна займалася гімнастыкай на брусах і бервяне. Можа, рухі яе не заўсёды былі пластычнымі, але ў смеласці ёй нельга было адказаць. Бясстрашна яна каталася і на каньках, крыху нязграбна, таму што была ў вузкай спадніцы, але весела насілася з аднаго канца катка ў другі.

Былі моманты, калі Жэня выказвала сваю палящуцкую разважлівасць і абачлівасць, магчыма, нямецкую акуратнасць і дакладнасць. Род Жэні па мацярынскай лініі ідзе ад Германа Чугая. Пан Скірмунт выпісваў майстроў з Нямеччыны для работы на сваёй суконнай фабрыцы, якая была ў Парэччы. Герман Чугай мог быць адным з тых майстроў, хто прыехаў у Парэчча ў пачатку 19 стагоддзя і застаўся там назаўсёды, пусціўшы карані роду свайго. З радаводам Жэні, я спадзяюся, мы хутка пазнаёмімся. Над ім працуе Антаніна Паўлаўна Сідарук, заснавальнік музея Яўгеніі Янішчыц.

Жэня была неканфліктным і вельмі шчырым чалавекам. Такой жа шчырасці яна чакала і ад іншых.

І калі яе хто-небудзь крыўдзіў ці не адпавядаў яе маральна-этычным патрабаванням, яна проста пазбягала зносін з такімі людзьмі. Жэня ўмела сябраваць і даражыла дружбай. У лісце ад трэцяга снежня 1976 года яна пісала: «*Сегодня случайно встретила на улице NN… Дала мне свой телефон, приглашала в гости. Но я, видимо, не позвоню, тем более – в гости пойти. Всё-таки осталась у меня старая и крепкая привязанность к тем, кого мне Бог послал на пути за годы учёбы в БГУ*».

Жэня ўмела быць удзячнай і не скупілася на словы. Яна з дарагой душою дарыла свае кнігі сябрам і ў аўтографах выказвала адносіны да іх:

«*Мілай Лідусі маёй, што не раз натхняла мяне ў хвіліны журбы і радасці на лірычныя радкі. Ад усёй душы жадаю табе вялікага шчасця, бясхмарных дзён і дарог, маладосці! Шчыра – твая Жэня Янішчыц. Мінск, 20.11.70, БДУ*»;

«*Мілай Яні з удзячнасцю за пражытыя разам дні, за падзел і радасцю, і журбою, за гаспадарлівасць рук тваіх і шчырых намераў. Вельмі хачу табе сапраўднага шчасця, маладосці, штодзённага бадзёрага настрою.*

*Твая Жэня Янішчыц. Мінск 20.XI.70. БДУ*»;

«*Мілай Тамары* (Т.Каленікава – *Т.А.*), *харошаму таварышу, сапраўднай сяброўцы і цудоўнай дзяўчыне, з якой я жыву чацвёрты год, якую люблю і паважаю.*

*Жадаю табе, Колька* (мянушка – *Т.А.*), *многа сапраўднага шчасця і святла, будзь заўсёды такой прыгожай і цудоўнай, якая ты ёсць.*

*Твой Жоржык – Ж. Янішчыц. Мінск, 12.XI. 1970. Паркавая, 9*»;

«*Мілай Тамары, трывожнай і рамантычнай маёй Кармэн* (Т.Аўсяннікава – *Т.А.*), *шчыраму сябру майму па трывозе і радасці. Вельмі хачу, каб ты была па-*

Што я паэт – мазгі на плаху.
Хваліцца вельмі не люблю.
Любога класіка з размаху
Я «Сценькам Разіным» звалю.

На Анатоля Сербантовіча (№ 20), Аўгінню Кавалюк (№ 21), Анатоля Канапельку (№ 22), Валеру Лапату (№ 23), Дзюбу II (№ 24). Не абмінула паэтка і сябе, але нумар не паставіла:

Пяю, як птушка. Не змаўкаю
Я пра каханне і пра сум.
На Беларусь усю гукаю
Пра маладосць і пра красу.

У гэтым жа блакноце без нумара два вершы на рускай мове нейкаму адрасату з ініцыяламі Л.М., магчыма, А.М., бо чарніла расплылося. Высветліць імя адрасата пакуль што не атрымалася. Вось гэтыя вершы.

Если б был ты один у меня,
Я тебя бы любила здорово.
А теперь только я одна
По чужому блуждаю городу.
Говорю деревьям «люблю»
И, присев перед ними на корточки,
Я снежок голубой ловлю,
Что примёрз до последней косточки.

***

Мог заметить. И мог не встретить.
Мог найтись и мог потеряться.
Ломит руки деревьям ветер,
А они не хотят сдаваться.

Если где-то бушует ветер,
Если где-то не видно ни зги.
Ты возьми осторожно ветки,
Будто руки мои возьми.

Сярод эпіграм, паэтычных радкоў, кшталту: «Падобна першая сустрэча / На светлы міг, на дзіўны сон», сустракаецца і скланенне лацінскіх назоўнікаў. Гэта дае нам падставу аднесці запісы да 1966, 1967 гг., таму што лацінскую мову мы вывучалі на першым курсе.

Вельмі ўражвае тэкст, запісаны алоўкам: «*Настрой дзікі. Ніколі не было так сумна. Кожны дзень са мной адбываецца небывалае ЧП. Дзіўна. Хочацца бясконца плакаць, хочацца падысці да самага блізкага чалавека і працягнуць сваю руку. Але блізкага чалавека няма. Пэўна, і не будзе.*

*Ізноў успамінаецца мама*».

На некалькіх старонках, у тым ліку на апошняй, чарнавыя запісы верша «Я веру у студэнцкую планету…», які так і не атрымаў завершанага варыянта. Можа, таму, што Жэні сапраўды хацелася верыць «у студэнцкую планету», якую называла «казачным сусветам», але не вельмі атрымлівалася, бо сапраўдны творца заўсёды адзінокі.

Дарэчы, у роднай школе ведалі, што Жэня любіла жарты. Аб гэтым успамінае Альфонс Іосіфавіч Гагалінскі, намеснік дырэктара Парэцкай сярэдняй школы, настаўнік гісторыі: «У той час, калі вучылася Жэня Янішчыц, настаўнікі мелі такое грамадскае даручэнне, як агітатар. Агітатары былі і асветнікамі, і інфарматарамі, і выхавацелямі. Усе калгасныя справы адлюстроўваліся ў «Баявых лістках». Жэня нам у гэтым вельмі дапамагала. <…> Яе вершы, асабліва сатырычныя, карысталіся вялікім поспехам». Аб вартасці тых вершаў гаварыць у нас няма падставы, таму што «Баявыя лісткі» не захаваліся.

Не захаваліся і гумарыстычныя вершы, якія Жэня пісала для свайго брата па маці Міхаіла Янішчыца. Міхаіл быў чалавекам артыстычным і з задавальненнем чытаў вершы сястры ў вясковым клубе і ў час адпачынку ад працы.

У школьныя і студэнцкія гады Жэня прымала актыўны ўдзел у выпуску насценных газет, дзе таксама змяшчала жартоўныя вершыкі. На лекцыях і на нудных сходах яна, як шкадлівае дзіця, магла напісаць некалькі трапных радкоў і пусціць па аўдыторыі, а сама гарэзліва пасміхалася, назіраючы за рэакцыяй сяброў. Такія экспромты яна не захоўвала.

Жэня была вострай на язык, з добрым пачуццём гумару. У нашым інтэрнацкім пакоі яна часта дэкламавала вершы, празаічныя творы на палескай гаворцы, як правіла, гумарыстычныя. Найчасцей гучала гумарэска, як муж пісаў тэлеграму сваёй жонцы Хіўры, якое пачыналася словамі: «Дарагая Хіўря, бычкі продаў удачно…» Сёння мне цяжка сказаць, чые гэта былі творы – яе ці народныя.

Думаю, што да жанру пародыі Жэня адносілася як да забавы, таму і не пакідала для сябе копій. Але гэта было яе аддушынай, прымірэннем з наваколлем, у якім яна пачувалася няўтульна, бо часта яе істотаю авалодваў меланхалічны настрой.

Няма сэнсу шкадаваць аб тым, што не захавалася, але варта помніць, што Яўгенія Янішчыц была і гарэзлівай, і вясёлай.

***P.S.*** Эпіграмы і вершы з блакнота ўключаны ў трэці том выдання: «Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі». Блакнот перададзены ў Літаратурны музей Яўгеніі Янішчыц.

*[1]Жарты ад Яўгеніі. Літаратура і мастацтва. – 2020. – 17 студзеня (№ 2). – С. 4.*

*Я веру у студэнцкую планету. Брама : літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. Вып. 7. – Мінск : Кнігазбор, 2019. – С. 162 – 165.*

## «АДЗІНЫ НА ЗЯМЛІ»[1]

*Пра перапіску*
*Яўгеніі Янішчыц і Сяргея Панізніка*



*У часе падрыхтоўкі лістоў да выдання «Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі» высветлілася многа цікавага з жыцця паэткі.*

*Самы вялікі эпісталярый захаваўся з Сяргеем Панізнікам – 72 лісты, якія ён перадаў сыну, а сын – нам, укладальнікам выдання, мне і Святлане Калядка.*

*Ліставанне ахоплівае перыяд з 1965 па 1975 гады. Лістоў С. Панізніка да Я. Янішчыц захавалася толькі 6, а якімі яны былі, мы можам здагадвацца, чытаючы лісты Я. Янішчыц.*

Была цудоўная мара ў С. Панізніка: напісаць удваіх кнігу. Рукапісны твор яны не стварылі, але зрабілі большае – нарадзіўся сын Андрэй…

Першы да Сяргея ліст, які мы маем, напісаны 10 жніўня 1965 года. У ім Жэня звяртаецца да Сяргея на «Вы»: «*Атрымала Ваш ліст, за які шчыра ўдзячна. Сяргей, нядаўна я Вам адправіла пісьмо. Напэўна, Вы яго ўжо атрымалі*». Значыць, пісем было больш. Тут жа верш, у якім адкрыта, непасрэдна і шчыра Жэня прызнаецца Сяргею ў каханні:

Адплыў учора лёгкі вецер,
І ты адплыў, даўно адплыў.
А сэрца б'ецца, сэрца верыць,
Што ты адзіны на зямлі.

Жэня адрасуе гэтыя радкі таму загадкаваму паэту, які і сам, магчыма, да канца не разумеў, чаму ён паехаў на сустрэчу з палескай дзяўчынкай, нягледзячы на тое, што ва ўспамінах піша, што хацеў «*убачыць гэтага незвычайнага самародка*».

Напачатку яны размінуліся. Жэня ехала аўтобусам з Рудкі ў Парэчча, а Сяргей пяшком ішоў з Парэчча ў Рудку. І вось сустрэча адбылася. С. Панізнік піша: «*Раптам убягае ў хату дзяўчынка. Спытаў спачатку, агаломшаны: «Жэня?». Адказвае: «Так!». Знаёмлюся: «Панізнік…».*

*Такая жывая, па-добраму смешная дзяўчынка стаяла перада мною. Нават не верылася, што гэта яна, Жэня, можа пісаць такія кранальныя вершы. Вясёлая! І гаворка вясёлая між намі не спынялася*».

Дваццацітрохгадовы малады чалавек, высокі, прыгожы, разумны, курсант факультэта журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча СА і ВМФ, паэт, у якога вось-вось кніжка павінна выйсці, для вясковай дзяўчынкі, якая марыла таксама стаць паэтам, якую нават родная маці не лічыла прыгожай, такі госць быў казачным цудам.

«Цаны» сабе Жэня яшчэ не ведала. І вось яе, шаснаццацігадовую вясковую летуценніцу, захліснула хваля пачуцця, такога чаканага і такога хвалюючага! Усе закаханыя ствараюць ідэальны вобраз свайго абранніка. А тут як быццам нічога і прыдумваць не трэба. Вось ЁН – той адзіны, любы, мілы!

І пачалася перапіска – з радасцю і трывогамі, з надзеяй і расчараваннямі: «*Ішла ў твае лета, // Ішла ў тваю восень. // Па спелых ранетах, // Па травах росных…*», «*Рукой махну на ўсё // І не паверу – // Ты мне ўсміхнуўся, // Адкрыўшы дзверы*» (ліст ад 16.05.1966).

Даволі працяглы час Жэня звярталася да Сяргея стрымана: «Добры дзень, Сяргей!». Падпісвалася проста: «Жэня, Ясяльдзянка, Я і Ясельда, Аўгіння». Гэта потым, калі Сяргей адкрыта выкажа свае адносіны і пасля шлюбу, Жэня будзе звяртацца і падпісвацца разняволена: «Твая дзяўчынка, твая Ясяльдзянка, твая навекі Аўгіння, твая бедная Аўгіння, твая жоначка, чакаю, а значыць – жыву».

30 лістапада 1966 года Жэня напіша без спадзявання на адказ: «*Дзень добры, Сяргей. Асмелілася напісаць табе ўсё-такі ліст. Не ведаю толькі, ці атрымаю адказ. Але зараз мне ўсё роўна*». Сяргей адказаў.

У лісце ад 19 мая 1967 года чытаем: «*Добры дзень, Сяргей! Гэта ізноў я, Жэня, забытая ці без крыжа захаваная маладым беларускім паэтам Сяргеем Панізнікам...*

*Сёння ідзе дождж. Як ніколі, буйны і шумлівы. Цвітуць каштаны. У пакоі бэзавы букецік. Гэта акрыляе заўсёды і не заўсёды. У апошні час не магу жыць без пяра, без далёкіх і блізкіх слоў. Пэўна, гэта маё летуценне ці неўтаймаванае жыццё. Усё роўна. Не хапае часу на ўсё, калі нават утачыць добрую палову ночы. І тым не менш – пішацца. Пішацца ўрыўкамі паміж задуменнем і радасцю, паміж нечаканасцю і ціхім сумам*».

Жэню перапаўнялі пачуцці, яна хвалявалася, перажывала, шукала «выйсця з адзіноты», на яе наплывала туга, «як паводка вясновая на зялёны бераг», «*Сэрца птушкаю ў клетцы білася, // Адплывала ў невядомае адарванай шхунай*».

Сумняваўся, відаць, і Сяргей. Не было спачатку ў яго ніякіх планаў у адносінах да Жэні. Яму проста цікава было перапісвацца з «гэтым незвычайным самародкам». Пра сур'ёзныя адносіны не задумваўся. Хлопец ён відны, вольны, «сыты» (як кажуць у народзе) – дарослых прыхільніц хапала. А тут зусім яшчэ дзяўчо, такое шчырае, непасрэднае, так адкрыта гаворыць аб сваім пачуцці. Што рабіць маладому чалавеку?..

Дзяўчо то дзяўчо, але ж па-дарослому глядзіць на жыццё, на творчасць, на сваё прызначэнне. Калі чытаеш лісты Жэні Янішчыц, то зусім не адчуваецца, што яна на шэсць гадоў маладзейшая за Сяргея. Жэня супакойвае каханага, падтрымлівае, падбадзёрвае: «*Атрымала твой ліст, Сяргей! «Сумна і на душы, і на паперы...» Гэта не так страшна, калі гэты сум далёка ад радзімы, калі ёсць час паглыбіцца ў сэнс жыцця, у духоўны свет сваіх адкрыццяў. Горш тым, хто ў сваёй хаце сумуе і на паперы, і ў душы. Я добра адчула гэты харошы і трывожны сум там, у Балгарыі*» (ліст ад 25.XI.1969 г.).

Страціўшы надзею на ўзаемнасць, Жэня напіша: «*Так, час нас уносіць усё далей і далей. З гадамі, а то і з хвілінамі мы губляемся ў шумным кругазвароце жыцця, дзе столькі святасці, светласці, чысціні пачуццяў, усмешак і... подласці! На ўсё жыццё ўдзячна свайму дзяцінству і краю, дзе глыбінная Ясельда адвяла мне чысцюткі бераг светласці і ўліла непаўторныя хвалі святла, наіўнасці, веры і задумення. Магчыма, гэта самае галоўнае для мяне цяпер, у такім летуценным*

*узросце. З гадамі я пасталею. З сумам буду ўспамінаць свае першыя хваляванні і пісьмы, пісьмы, пісьмы... Хай яны застануцца харошым успамінам аб шчырасці і чысціні думак, аб тым, што людзі не ўмеюць крыўдаваць нават у самых трывожных абставінах. Жадаю шчасця! Прабач. Аўгіння. Мінск, 28. V–1967 г.*».

У гэтым жа лісце верш:

Калі размінуцца суджана
Будзе вясной ці летам,
Не будзе крыўды на ростань,
Доўгую, як стагоддзі.
Не будзе крыўды на пісьмы,
Што шчыра мяне сагравалі,
Як вялікае цёплае сонца.
Не будзе крыўды на песню,
Маладую і звонкую,
Што нам з табой прысвячалася.
Хіба вінавата ростань,
Хіба вінаваты пісьмы,
Песня хіба вінавата,
Што ціха здрадзіла сэрца?!

Перапіска з Сяргеем Панізнікам працягваецца. Ліст ад 3 лістапада1970 года: «*Цяпер я дома. Тут ціха і хораша. Праўда, зараз стаіць глыбокая восень, а таму на вуліцы вецер з дажджом. У такі час больш за ўсё люблю ствараць, аддавацца ўспамінам і самой прыродзе. Зараз адным вокам гляджу тэлевізар (непаўторны Пеціпа!), слухаю музыку і пішу гэты лісток. Пастулова ты пачынаеш крыху праясняцца. Гэта добра. Нельга ў такі час багата аддавацца меланхоліі. Мы павінны па-сапраўднаму жыць для Белай Русі, асабліва ў гэты час, калі ўрбанізацыя наступае на горла нашай роднай песні*».

Надзея на ўзаемнасць то ўзнікае, то страчваецца. Ліст ад 6 чэрвеня 1971 года: «*Сяргей! Атрымала ліст твой, за што шчырае дзякуй. Чацвёрты дзень збіралася, каб напісаць. Нарэшце, сабралася з усімі хваляваннямі сваімі... Ты пішаш, што і зараз цяжка паверыць у ліст мой. Судзі, як хочаш, але проста так я яго не магла напісаць. Да таго ж табе, пэўна, невядома было, як я перажывала потым, пасля твайго адказу, як хвалююся кожны раз, калі бяру ў рукі чарговае тваё пісьмо. І ўсё таму – што неадступна і тады, і зараз я іду за табой. Гэта не адчай і не прывязанасць. Гэта ў многа разоў большае. Чаму я тады паступіла так? Можа быць, таму, што насіла ў душы сваёй чыста дзіцячае святло, якое хутчэй за ўсё ідзе ад справядлівасці, ад чысціні. Я думаю, што потым ты не змог не зразумець усё гэта... Не буду пісаць, як мне цяжка і лёгка, як мне бесклапотна і трывожна, важна для мяне іншае, што жывеш ты. Мабыць, усё гэта выглядае некалькі сумбурна, прабач…*».

Каханне Жэні было настолькі моцным, шчырым і глыбокім, што сваё сямейнае жыццё яна не ўяўляла без Панізніка, таму на заўвагі, парады родзічаў, суседзяў кідала: «*Калі не за Панізніка, то ні за кога*».

Якім быў наступны ліст Сяргея, мы не ведаем, але, мабыць, вельмі цёплым, бо Жэня ўпершыню звернецца да каханага «*мілы*» і ўпершыню ў канцы напіша: «*Моцна абдымаю цябе і цалую. Твая Аўгіння. Да сустрэчы!*»

Вось той ліст ад 30 чэрвеня1971 года: «*Добры дзень, мілы! Як даўно мне хацелася напісаць ці сказаць гэтае слова! Прабач, што праз дзён колькі пішу адказ. Была дома, таму твой ліст крыху спазніўся перад маім ад’ездам. Напэўна, як і ты там, я многа раз перачытвала пісьмо, каб паверыць кожнаму радку, кожнаму слову і запомніць назаўжды. Хачу хутчэй убачыць цябе*

*такім, якога ўяўляла ўсе гады, такога, якога кахаю, такога, якога нікому не хочу аддаць. Вечарамі, і ноччу, і ў штодзённай мітусні – я чую твой голас і смех, бачу твае вочы і рукі і заўсёды ўспамінаю наш першы дзень сустрэчы. Не хачу ўспамінаць тыя сумныя дні, тыя шэрыя хвіліны, што былі паміж намі. Іх і не было. Была проста душэўная сумяціца, былі, можа, і нагаворы... Але з таго я зараз не хачу нічога ведаць, бо адчуваю сваю чысціню да цябе, сваю дарогу і ўсе свае ўдачы. Яшчэ восенню, да твайго прыезду, я пісала так:*

*Прыязджай. І будзе вечнасць перад намі.*
*Час загладзіць і сумненні, і віну.*
*Павяду цябе зялёнымі лугамі*
*У кашулі з найтанчэйшага ільну».*

І вось праз шэсць гадоў пасля знаёмства Жэня атрымлівае ліст, у які цяжка верылася. Цудоўны ліст, жаданы:

«3 ліпеня1971 г. Дарагі мой далёкі чалавек! Кожнае слова Тваё – крок усё бліжай і бліжай… У імя нашага кахання нам трэба быць разам, і справу нашу агульную разам рабіць. Калі прымеш мае словы, то хай неба блаславіць нас на жыццё, і каб у ім не было ані горычы, ані крыўды, ані шкадавання, ані бязвер’я. Хай хопіць мне сілы на такое жыццё, як і на рашэнне такое.

Калі, мая добрая, дасі сваю згоду (а іначай і нельга), то хачу сказаць, што мне год ці больш працаваць яшчэ тут. І табе будзе цікава – побач са мной. У дробязях – потым, а самая галоўная лінія: ці паспееш ты скласці кандыдацкія іспыты за два-тры будучыя месяцы, здаць у выдавецтва кніжку… І яшчэ: я прыеду ў Саюз – то трэба справіць нашу ўрачыстасць. Я мяркую пра вяселле на ўрбанізацыі? Напішы, як мяркуеш.

А водпуск – той мядовы месяц – як правесці? А што, калі б здабыць маторную лодку – і ад тваёй хаты па

Ясельдзе, Дняпры, потым перавал летапісны (з вараг у грэкі), потым па Дзвіне ў мора і аж да майго дому? Гэта кніга адкрыццяў была б! Ёсць другі вырыянт. У мяне на аўтамашыну грошы знойдуцца, але як купіць яе за месяц? СП ці дапаможа?

І калі вяселле лепш за ўсё? Мо на Спас? Ну вось колькі ў мяне пытальнікаў. Чакаю на ўсё адказы. І толькі як найхутчэй…

Добра, Аўгінька, мая маленькая. Цалую Цябе і развітваюся – і чакаю твайго ліста. Твой Сяргей».

30 ліпеня1971 года: «*Дзень добры, мілы! Сёння мне стала сумнавата, і я сабралася напісаць ліст табе і якраз атрымала твой. Кожны дзень жыву ў прадчуванні нашага незвычайнага свята, а ноччу доўга не магу заснуць. Увесь час перад вачыма ты – маё адзінае каханне і радасць. Сумую, што ты, напэўна, там таксама сумуеш між мітусні працы і розных спраў. І яшчэ чамусьці так марудна ідуць дні, як мне здаецца…*

*Ну вось і развітваюся, а заўтра зноў буду бегчы на пошту і патрабаваць «да запытання».*

*Абдымаю Цябе, мой адзіны, і моцна цалую. Твая Аўгіння*».

Жэня была шчаслівай. Першая гісторыя яе вялікага кахання закончылася вяселлем, як гэта бывае ў казках. Яўгенія Янішчыц і Сяргей Панізнік пажаніліся 19 жніўня 1971 года. Жэня паехала за мужам у Чэхаславацкую Сацыялістычную Рэспубліку…

[1]*Літаратурная Беларусь (дадатак да газеты «Новы час»). – 2020. – 30 траўня [№ 5 (165)]. – С. 11 (17).*

*Куляшоўскія чытанні: сборник научных статей по материалам Международной научно-практической конференции, Могилев, 18 –19 апреля 2019 г. / под ред. Т.В. Мосейчук. – Могилев: МГУ имени А.А. Кулешова. – 2020. – 432 с. – С. 83 – 90.*



Пакуль яшчэ зялёная зямля
Трымае нас па міласці закона,
Сынок і Маці – зерне і ралля.
Сынок і Маці – мудрая ікона.

*«Сынок і маці»*

*Здымак С. Панізніка. 1973 г.*

## *Няма тваёй усмешкі сярод нас*

Нічога не вяртаецца назад:
Ні гэты міг, ні гэты дзень, – я знаю.
*Я.Янішчыц*

«Нічога не вяртаецца назад», –
У дзень той спадарожніцам чытала
Не ведала, што ты – у снегапа-а-а-д!..
І на зямлі адной сняжынкай болей стала.

«Нічога не вяртаецца назад», –
Шчымліва ў вершы ты сваім пісала.
О, як нявесціцца вясновы сад!
Ды кветачкай адною ў свеце меней стала.

А сёння вершаў розных – цераз край.
І шкадаваць, як быццам, не да твару.
А я крычу у лістапад праз май:
– Мой Бог, вясну вярні, вярні паэту мару!

О, як змяніўся свет за гэты час!
Чаму ж ты крылы ластаўчыны склала?
Няма тваёй усмешкі сярод нас –
І песняю тваёй на свеце меней стала.

Вясну любіла, спелае жніво,
«Сланечнікі» і «Касачы» Ван Гога,
У глебы брала сілу і цяпло,
Ірвалася да зор – у вечнасць
йшла дарога.

Твой лёс паэта – неба прыгавор.
*Beata solitudo*[1] так натхняла!
Магнітам быў Галактыкі прастор –
І зоркаю адной на небе болей стала.

*05.07.2009 г.*

[1]Beata solitudo – лат., блаславенная адзінота.

## ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА
## да радаводаў Яўгеніі Янішчыц

Першакрыніцай для складання радаводу паслужылі царкоўныя кнігі споведзяў, якія некалькі гадоў назад выпадкова трапілі ў рукі Антаніне Паўлаўне Сідарук, раней дырэктару, а цяпер навуковаму супрацоўніку Літаратурнага музея Яўгеніі Янішчыц. Зараз гэтыя дакументы захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі (НГАБ), куды яна іх перадала. Кнігі споведзяў ахопліваюць перыяд з 1847 па 1925 год. Па іх Антаніна Паўлаўна прасачыла, як развівалася генеалагічнае дрэва паэткі. У выніку яна вызначыла, што продак у яе і ў Яўгеніі Янішчыц адзін – **Чугай Іван Іванавіч**. Высветліць лінію роду дапамагла форма запісаў – па дварах, з указаннем месца жыхарства: «Села Поречья крестьяне и их домашние». У кнізе запісвалася прозвішча, імя і імя па бацьку (месцамі толькі імя) гаспадара, імя і імя па бацьку (месцамі толькі імя) жонкі, імёны дзяцей, пол і ўзрост усіх членаў сям'і. З указанага ўзросту вылічваліся гады нараджэння. Але варта заўважыць, што ў кнігах ёсць недакладнасці. Калі параўнаць узрост продкаў Яўгеніі Янішчыц па споведзях розных гадоў (напрыклад, 1856 і 1886 гг.), то можна заўважыць, што гады некаторых членаў сям'і падаюцца з разбежкай ад аднаго да двух гадоў.

Пры складанні радаводу вялася праца з іншымі дакументамі, якія захоўваюцца ў НГАБ і з дапамогай якіх унесены дапаўненні ў першапачатковы варыянт (электронная копія захоўваецца ў Літаратурным музеі Яўгеніі Янішчыц):

*рэвізская казка*[1] *ад 20.09.1811 г. (НГАБ, ф.333, воп. 9, спр. 1138);*

*рэвізская казка ад 15.02.1858 г. (НГАБ, ф.333, воп. 9, спр. 1138)*[2]

У рэвізскіх казках, як і ў кнігах споведзяў, пазначаецца не год нараджэння насельнікаў, а іх узрост. Разбежка пры ўказанні ўзросту, у параўнанні з кнігамі споведзяў, у гэтых дакументах больш значная.

Акрамя названай працы з архіўнымі матэрыяламі, вяліся перамовы з родзічамі і знаёмымі сям'і Яўгеніі Янішчыц. Некаторыя даты жыцця ўзяты з надмагільных помнікаў.

Абапіраючыся на запісы ў рэвізскай казцы ад 20.09.1811 г., можна зрабіць выснову, што радавод Яўгеніі Янішчыц па лініі маці пачынаецца ад **Чугая Івана Іванавіча**: «Иван Иванович Чугай по последней переписи – 70 лет, умер в 1807. Ивановы дети: **Агафон** – 30 лет, **Пракоп** – 20 лет». Апошні перапіс, які папярэднічаў правядзенню рэвізскай казкі 1811 г., адбыўся ў 1795 годзе. Такім чынам мы даведваемся, што Іван Чугай нарадзіўся ў 1725 г., яго сыны: Агафон – у 1765 г., Пракоп – 1775 г. Дарэчы, у рэвізскай казцы ад 15.02.1858 г. Агафон запісаны ***Гапонам***, а ў кнігах споведзяў – ***Германам***[3]. Імя жонкі Івана Чугая не высветлена.

У Агафона (Германа) Іванавіча Чугая (імя жонкі не ўстаноўлена) былі сыны **Рыгор** і Грыц. У рэвізскай казцы ад 15.02.1858 г. Рыгор падаецца малодшым сынам, 1815 г.н., а Грыц – старэйшым, 1809 г.н. Тады атрымліваецца, што Рыгор меў жонак старэйшых за сябе. Хаця такое і магчыма, але выклікае сумненне. Магло стацца, што ў рэвізскай казцы пераблытаны ўзрост братоў, бо ў кнігах споведзяў Грыц запісаны 1815 г.н., а Рыгор – 1807/1808 г.н. Ад першай жонкі Кацярыны Цімафееўны (1810/12–1854) у Рыгора нарадзілася трое дзяцей: Іван (1839 г.н.), **Томаш** (у кнігах

споведзяў Фама, 1845 г.н.), Раман (1852 г.н.). У другой жонкі Рыгора – Парашы Міхайлаўны (1809 г.н., у кнігах споведзяў, Параскевія, 1811 г.н.) ад першага шлюбу былі сын Мельнік Мікалай Міхайлавіч (1845 г.н.) і дачка Юльянія, якая памерла ў шасцігадовым узросце. Сумесныя дзеці ў дакументах не значацца.

У Фамы (Томаша) Рыгоравіча Чугая (1845 г.н.) і Анастасіі Рыгораўны (1848 г.н.) нарадзілася пяцёра дзяцей: **Якаў** (1866), Хрысціна (1877), Марыя (1881), Дзмітрый (1883), Ганна (1886). Антаніна Паўлаўна Сідарук чула ад Хрысціны Фамінічны гісторыю пра нямецкія карані свайго роду. Быццам бы адзін з майстроў, якіх пан Скірмунт запрасіў з Нямеччыны для працы на суконнай фабрыцы, быў іх продкам. Ці так гэта?

Звернемся да гісторыі роду Скірмунтаў[4]. У 1792 г. зямельныя ўладанні ў Пінскім павеце (Моладава і Парэчча) кампазітара Міхаіла Агінскага купіў Сімон Іванавіч Скірмунт (1747–1835). Яго сын Аляксандр (1798–1870) заняўся вытворчасцю спачатку цукру, а потым – сукна. Суконная фабрыка пачала дзейнічаць у Парэччы ў 30-я гады XIX ст. Майстроў з Нямеччыны А. Скірмунт сапраўды запрашаў. Але ж Чугаі па перапісу 1795 г. ужо былі жыхарамі Парэчча. Рэвізскія казкі 1811 і 1858 гг. гавораць пра тое, што продкі Яўгеніі Янішчыц – Іван Іванавіч Чугай і яго сыны Агафон і Пракоп – былі «*крестьянами Камер Юнкера Двора Его Императорского Величества бывшего Пинского Уездного Предводителя Дворянства Помещика Александра Семенова Скирмунта*». І Агафон, і Пракоп уваходзілі ў «Поржецкое Общество», адносіліся да другога разраду «усадебной оседлости» і мелі зямлю (ворную і сенакосную) – усяго па 15 дзесяцін і 1834 сажні кожны, за якую адбывалі павіннасці і плацілі грашовы аброк.

Прозвішча Чугай у Расіі і бліжнім замежжы сустракаецца рэдка. Аб яго паходжанні[5] гаворыцца, што людзі з такім прозвішчам адносіліся да арыстакратыі са славянскага маскоўскага баярства XVII і XVIII стст. і мелі прывілеі. Прозвішчы ў той час даваліся ў якасці ўзнагароды за вялікія заслугі тым, хто служыў пры двары і суправаджаў знатную асобу.

Украінскае слова «чугаіна» абазначае «світа», што адпавядае занятку служкі пры двары. Ёсць і іншыя тлумачэнні. Прозвішча Чугай мае адносіны і да дыялектнага слова «чуга», якое ў курскіх гаворках азначае «доўгі кафтан»[6]. Магчыма, чалавек, па прозвішчы Чугай, быў шаўцом. А легенда аб нямецкіх каранях, хутчэй за ўсё, узнікла таму, што Чугаі не былі тутэйшымі і ў Парэчча трапілі разам са сваім памешчыкам Сімонам Іванавічам Скірмунтам, таму імя Герман і стала звязвацца з Германіяй, бо ў мінулыя гады яно азначала месца, адкуль чалавек прыехаў.

У Чугая Якава Фаміча (1866 г.н.) і Дамінікі (1868 г.н.) нарадзіліся сын Пётр (1888 – ?) і дачка **Антаніна** (1898 –1984). Да Антаніны лінія роду ішла па мужчынскай лініі пад прозвішчам Чугай, далей тры пакаленні працягваюць жанчыны.

У **Чугай Антаніны Якаўлеўны** і Жука Андрэя Антонавіча (1894–1953) нарадзілася шасцёра дзяцей: **Марыя** (1920–2006) – маці Яўгеніі Янішчыц, Мікалай (1921–2000), Анастасія (1928 г.н.), Яўгенія (1933 г.н.), Сафія (1935 г.н.), Таццяна (1938 г.н.).

Яўгенія Андрэеўна ўспаміналa: «Мама расказвала, што наш дзед Якаў Фаміч Чугай працаваў на суконнай фабрыцы. Пан Скірмунт плаціў залатымі манетамі».

Соф’я Андрэеўна пра сваіх бацькоў казала наступнае: «Наш бацька – вясковы чалавек, але меў прыродную інтэлігентнасць і розум. Усе мужчыны прыходзілі да яго па параду. Ён і знешне ад усіх адрозніваўся: па-

водзінамі і адзеннем. У яго была даха да пят і каракулевая папаха. Бацька быў граматны, умеў чытаць і пісаць. Маці пісаць не ўмела, а чытаць мы яе навучылі. Яна нам гаварыла: не трэба ні на кога крыўдзіцца, трэба маліцца і працаваць. Калі спешнае што-небудзь трэба рабіць, а дзень святочны, то памаліся і працуй».

Аб Антаніне Якаўлеўне расказвала яе праўнучка, Таццяна Міхайлаўна Ганчарык (Янішчыц): «Да апошніх дзён Антаніна Якаўлеўна чытала. Ніколі я не бачыла яе згорбленай: ні ў час чытання, ні пры хадзьбе. Яна была чалавекам гордым і строгіх прынцыпаў. Унукаў па-свойму любіла, але не пеставала. Смачнай стравай пачастуе, а свавольніцтва не дазволіць. Працу лічыла самым галоўным у жыцці. Такіх прынцыпаў прытрымлівалася і Марыя Андрэеўна, маці Яўгеніі Янішчыц, а мая бабуля».

**Жук Марыя Андрэеўна** ўзяла шлюб з Янішчыцам Іосіфам Іванавічам (1915 – 1944). Бацькі Іосіфа шляхецкага роду, трапілі ў Беларусь з Латвіі ў якасці бежанцаў у Першую сусветную вайну. Маці яго звалі Харыта. Спачатку яны жылі ў вёсцы Беражцы Пінскага раёна Брэсцкай вобласці, а потым пераехалі ў Рудку. Дом у іх згарэў падчас Вялікай Айчыннай вайны, яны пабудавалі новы. Бацькі Марыі Андрэеўны не хацелі выдаваць яе замуж за Іосіфа Янішчыца, таму што ён быў бедны, беззямельны. Вяскоўцы згадваюць, што сям'я Янішчыцаў адрознівалася ад мясцовага насельніцтва манерай паводзін, выхаванасцю. Антаніна Паўлаўна Сідарук сведчыць, што Марыя Андрэеўна таксама адрознівалася ад вясковых кабет. Яна была разумным чалавекам, з пачуццём асабістай годнасці, скончыла сем класаў, далей вучыцца не было магчымасці.

Лідзія Антонаўна Ганчарык (1930 – 2021), жыхарка вёскі Велясніца, расказвала, што бацька Марыі

Андрэеўны быў «спраўным гаспадаром», меў надзел зямлі і што іх сям'я трапіла пад раскулачванне. «Так, нас раскулачвалі, – пацвердзіла Анастасія Андрэеўна Дубнавіцкая (Жук), сястра Марыі Андрэеўны. – Браты нашага бацькі, Павел і Іван, жылі ў Амерыцы, а іх надзелы зямлі перайшлі да бацькі. Нам пакінулі 40 сотак і ўстанавілі падатак зернем і грашыма. Мы распрадалі гаспадарку, але гэтага было мала. Бацьку чакала ссылка. Тады наш брат Мікалай, які вярнуўся з вайны і працаваў фізруком у Парэцкай школе, напісаў кіраўніцтву скаргу. Там разгледзелі, прынялі нас у калгас і бацьку больш не чапалі. Сям'я наша дружная. Характар у таты быў добры, ён на маці ніколі слова дрэннага не сказаў. Хораша спяваў, выпіваў вельмі рэдка. Калі маці замахнецца чым, нас жа многа, шумныя, то мы тады лемантавалі: "Ой, татачко, ратуй!"».

Таццяна Андрэеўна ўспамінала: «Наша сям'я была заможнай: 25 га зямлі (11 га – сенажаць, 14 га – пахата), сем кароў, тры кані. Два браты нашага бацькі паехалі ў Амерыку і там засталіся. Іх надзелы перайшлі да бацькі. Калі ў 1949 годзе пачалі арганізоўваць калгасы, нас запісалі ў кулакі. Бацька 5 гадоў павінен быў плаціць вялікі грашовы падатак. Нас у калгас то прымалі, то выкідвалі. Мама наша была здатнай да навукі. Яна ў школу не хадзіла, але добра чытала, нават задачкі дапамагала нам рашаць».

Іосіф Іванавіч Янішчыц быў добрым кавалём. «На што гляне, тое і зробіць», – гаварылі вяскоўцы. Сяляне называлі яго Юзікам, а бацькі – Ёзасам. У Іосіфа Іванавіча і Марыі Андрэеўны нарадзіўся сын Міхаіл (1944 – 2006). У час Вялікай Айчыннай вайны Ёзас дапамагаў партызанам, падкоўваў коней. Яго нехта выдаў немцам. Адны кажуць, што родная цётка, другія – што пляменнік, які таксама дапамагаў партызанам. Немцы забралі Іосіфа і траіх аднавяскоўцаў,

расстралялі, а целы кінулі ў Ясельду. Пахаваць яго родныя не мелі магчымасці, таму што цела не знайшлі. Імя Іосіфа Іванавіча Янішчыца занесена ў кнігу «Памяць» Пінскага раёна. Яўгенія Янішчыц прысвяціла яму верш «Памяці Ёзаса Янішчыца», які ўвайшоў у зборнік «Дзень вечаровы». Маці Іосіфа Янішчыца, Харыта, да апошніх дзён жыла разам з Марыяй Андрэеўнай і яе другім мужам. Памерла ў 1950 годзе.

Янішчыц Міхаіл Іосіфавіч (1944–2006), брат па маці Яўгеніі Янішчыц, ажаніўся з Хвісюк Валянцінай Сяргееўнай (1947–1982). У іх нарадзілася трое дзяцей: Таццяна (1966), Анатоль (1968–2012) і Сяргей (1972). Таццяна і Сяргей жывуць у Пінску Брэсцкай вобласці. Валянціна Сяргееўна памерла ад ішэмічнай хваробы сэрца ва ўзросце 35 гадоў. Клопат аб дзецях узяў на сябе Міхаіл Іосіфавіч. Ён працаваў у калгасе механізатарам, трымаў карову, сам даіў. Дапамагаў яму цесць, Сяргей Хвісюк, і маці, Марыя Андрэеўна. Міхаіл Іосіфавіч больш не жаніўся. Таццяна, дачка Міхаіла, расказвала, што яе маці сябравала з Жэняю. Калі яны збіраліся разам, то ў хаце гучаў смех, было весела. У пісьме да Ніны Мацяш Я.Янішчыц пісала: «…пахавалі мы нашу нявестку, 35 гадоў. Памерла імгненна, нават урачы не паспелі адратаваць: сэрца, атэрасклероз сасудаў. Засталося трое дзяцей: старэйшай – 16, сярэдняму – 14, а меншаму – 10. Усім мама трэба, ды як трэба!»

У 1947 годзе Янішчыц Марыя Андрэеўна з Патапчуком Іосіфам Сцяпанавічам (1920–1975) сталі жыць сям’ёй. У яго быў сын Пятро (1943–1979) ад першага шлюбу. Бываюць у жыцці сітуацыі, учынкі, якія муж не можа даравацъ жонцы. Так здарылася ў першай сям’і Іосіфа Сцяпанавіча. Ён прыйшоў да Марыі Андрэеўны ў прымы спачатку адзін, а потым забраў сына. Разам сталі гадаваць двух сыноў, якім было па

тры гады. Розніца ва ўзросце паміж дзецьмі складала ўсяго некалькі месяцаў. Затым нарадзілася дачка Яўгенія (20.11.1948 – 25.11.1988), якую запісалі на прозвішча Янішчыц, таму што бацькі не былі афіцыйна зарэгістраваны. Пасля нараджэння сына Віктара ў 1958 годзе бацькі Яўгеніі Янішчыц аформілі шлюб. Марыя Андрэеўна ўзяла прозвішча мужа – Патапчук. Жэня не змяніла прозвішча толькі таму, што ў момант атрымання пашпарта ў літаратурным асяроддзі яна была ўжо вядома як Янішчыц. Бацька зрэдку выказваў сваю крыўду дачцэ, але яна знаходзіла словы, каб суцешыць яго.

Таццяна Міхайлаўна Ганчарык (Янішчыц) расказвала, што дзед Іосіф Сцяпанавіч адносіўся да яе бацькі і яго дзяцей як да родных. Яе бацька Міхаіл вельмі хораша граў на гармоніку, а навучыў яго дзед Есіп. У сям'і Патапчукоў гарманістамі былі сам Іосіф Сцяпанавіч, яго сын Пётр і прыёмны сын Міхаіл. Віктар асвоіў гітару (ён памёр ад захворвання на ныркі ў 1995 г.). Зводныя браты Міхаіл і Пётр пасля заканчэння школы адправіліся на цаліну, у Цалінаградскую вобласць Казахскай ССР (зараз Рэспубліка Казахстан). Міхаіл вярнуўся дадому, а Пётр застаўся ў Казахстане.

Іосіф Сцяпанавіч і Міхаіл Іосіфавіч былі вядомымі гарманістамі на ўсю ваколіцу, іх запрашалі на вяселлі і іншыя святы. Гэта быў яшчэ і заробак. У вольны ад працы час музыка і песня заўсёды гучалі ў сям'і Патапчукоў. Марыя Андрэеўна і Жэня любілі спяваць. Гармонік Іосіфа Сцяпанавіча як сямейную рэліквію захоўвае яго ўнук – Аляксандр Пятровіч Патапчук, які жыве ў Навасібірскай вобласці. Ён музыкант, скончыў народнае аддзяленне Навасібірскага культасветвучылішча.

Іосіф Сцяпанавіч Патапчук пабудаваў свой дом у вёсцы Велясніца, у які сям'я перабралася ў 1966 годзе. Расказвае Лідзія Антонаўна Ганчарык (Саўчук): «*Іосіф з сям'і працавітых людзей. Яго бацька Сцяпан жыў на хутары, купіў лясісты надзел зямлі, апрацаваў з сынамі. Добрая аказалася зямля. Каб не раскулачылі, то ён уступіў у калгас. Сям'я перабралася ў Мерчыцы. Сцяпан вельмі шкадаваў, што так цяжка працаваў і прымушаў сыноў. Усё прахам пайшло*».

Іосіф Сцяпанавіч Патапчук трагічна загінуў 28 мая 1975 года. Лідзія Антонаўна Ганчарык сведчыць: «*Есіп паехаў кудысь на заробкі. Перад гэтым прыехаў, прывёз добрае парасятка і паехаў зноў. Працаваў ён на будоўлі, пясок падвозілі. Дарога была дрэнная і трактар забуксаваў. А Есіп сядзеў на борце прычэпа. Трактар як ірвануўся – Есіп і зваліўся пад колы. Памёр у Лунінецкай бальніцы*». Свайму бацьку паэтэса прысвяціла некалькі вершаў і паэму «Ясельда». Паэма ўвайшла ў трэцюю кнігу і дала ёй назву.

**Янішчыц Яўгенія Іосіфаўна** і паэт **Панізнік Сяргей Сцяпанавіч** (1942 г.н.) узялі шлюб 19 жніўня 1971 года. 14 лістапада 1972 года ў іх нарадзіўся **сын Андрэй**. А 14 студзеня 1976 года шлюб знакамітай пары быў скасаваны. Андрэй носіць прозвішча маці Янішчыц, якое ён узяў пры атрыманні пашпарта.

**Янішчыц Андрэй Сяргеевіч** 11 ліпеня 1998 года зарэгістраваў шлюб са Ступак Юліяй Аляксандраўнай (1976 г.н.), 30 верасня 2002 года ў іх нарадзілася **дачка Яна**. Сям'я сына жыве ў Мінску.

Больш далёкія продкі Яўгеніі Янішчыц працавалі на суконнай фабрыцы ў Парэччы, многія мелі надзелы зямлі. Бацькі паэтэсы – калгаснікі. Па лініі маці ўсе былі граматнымі – мужчыны ўмелі чытаць, многія і пісаць. Вышэйшую адукацыю Яўгенія Янішчыц атрымала першай з роду, яна скончыла філалагічны

факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Яе родны брат Віктар скончыў хімічны факультэт (вытворчае аддзяленне), а сын Андрэй – факультэт радыёфізікі і электронікі той жа вышэйшай навучальнай установы.

Продкі Яўгеніі Янішчыц па лініі бацькі, Патапчука Іосіфа Сцяпанавіча, знойдзены ў кнігах споведзяў за 1881 год. Самы далёкі продак – **Патапчук Іван Сімонавіч** (1812/13–1881). Імя яго жонкі ў запісах за 1881 г. не значылася, магчыма, яна памерла раней. У іх былі сыны: **Андрэй** (1833 г.н.) і Сімон (у некаторых запісах – Сімеон, 1837 г. н.).

У **Патапчука Андрэя Іванавіча** і Ірыны Іванаўны (1834 г.н.) было 6 дзяцей: Пелагея (1851 г.н.), Ева (1863 г.н.), Еўдакія (1865 г.н.), Сідар (1866 г.н.), **Рыгор** (1868 г.н.), Косьма (1873 г.н.).

У **Патапчука Рыгора Андрэевіча** (імя жонкі не ўстаноўлена) старэйшы сын (імя таксама не ўстаноўлена) у час Першай сусветнай вайны трапіў у Амерыку, там і застаўся. Другі сын, **Сцяпан** (1899 – 1982), жыў на хутары Мартынаўка. Пасля 1939 года перабраўся ў вёску Мерчыцы Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Унук Сцяпана, Рыгор Васільевіч Патапчук (1952 г.н.), у аўтабіяграфіі напісаў, што жылі яго бацькі на лясным хутары Мартынаўка, у адной хаце са сваімі бацькамі, дзедам Сцяпанам і бабкай Наталкай. Дзед узяў пазыку ў польскім банку і купіў у палякаў лес. Разам з сынамі пабудаваў хату, апрацаваў зямлю і заняўся земляробствам. Трэба было карміць сям'ю і выплачваць ссуду. Дзед і бабка – беларусы. Больш далёкіх родзічаў ён не ведае. У дзеда была вулічная мянушка Харан ці Харан іранец. Гэтая мянушка перайшла да яго сыноў і нявестак. Нявестку па-вулічнаму называлі Хараныха. Расказвалі, быццам бы продкі дзеда Сцяпана з Ірана. Рыгор Васільевіч у гэта не верыць,

але зацікавіўся, адкуль такая мянушка магла з'явіцца. І знайшоў у Інтэрнэце горад з назвай Хайран (цяпер Мазары-Шэрыф), які знаходзіцца ў Афганістане. А ў Іране ёсць гара з назвай «Хайран». Існуе іранскі выраз «Джазак Аллаху хайран», які перакладаецца як «Хай Аллах узнагародзіць цябе дабротамі». Калі ўлічыць, што «й» паступова пры маўленні магло выпасць, то мянушка Харан іранец азначае «добры іранец». Аднак гэта толькі адна з версій паходжання мянушкі.

Рыгор Васільевіч Патапчук расказаў, што дзеда Сцяпана ледзьве не забілі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Першы раз – фашысты, але бабка Наталка сказала, што ён сын, а не гаспадар сям'і. Другі раз – партызаны, за тое, што ў доме былі фашысты. Па яго словах, дзед быў «скупаваты і прыжымісты», усё ў яго было разлічана і мела сваю цану. Але працалюбівы. Яго працоўны дзень пачынаўся ў пяць гадзін. Бабка Наталка тутэйшая, з вялікай сям'і. У яе было чатыры сястры і брат. Усю радню бабкі Наталкі Рыгор Васільевіч добра памятае, амаль усе жылі ў Мерчыцах. Гэта былі сем'і сярэдняй заможнасці, у вёсцы іх паважалі. Пахаваны дзед з бабкаю ў Мерчыцах.

У кнізе споведзяў за 1882 год значылася, што **Піскун Наталля Арцёмаўна**, бабка Яўгеніі Янішчыц, нарадзілася ў сям'і Піскуна Арцёма Даніілавіча (1862 г.н.) і Еўдакіі Фёдараўны (1863 г.н.) у 1901 годзе (на помніку Піскун Н.А. дата нараджэння – 1898 г.). Акрамя Наталлі, былі яшчэ Антаніна, Праскоўя, Любоў і Андрэй. У Наталлі Арцёмаўны былі дзядзька Аляксандр Даніілавіч (1853 г.н.) і цётка Алена Даніілаўна (1867 г.н.), яны даводзяцца Я.Янішчыц стрыечнымі прадзедам і прабабкай. Прапрадзед Яўгеніі Янішчыц – **Піскун Данііл Сцяпанавіч** (1828 г.н.), а прабабка – Дамініка Дзянісаўна (1829 г.н.).

Ганна Андрэеўна Белавец (1923 – 2016), дзявочае прозвішча Андрух, якая жыла ў Пінску, расказвала, што ведала і Сцяпана Патапчука і яго бацьку Рыгора. Сям'я іх жыла адасоблена, ні з кім, нават з раднёю, асаблівых зносін не мела. І таму яго мінулае застаецца загадкай. Характар у дзеда Сцяпана і яго сына Іосіфа (бацькі Я.Янішчыц) быў гарачы, узрыўны, не заўсёды «зручны». Мужчына ў сям'і Патапчукоў – бясспрэчны аўтарытэт. Розныя справы абмяркоўваліся ў сям'і, але апошняе слова заўсёды было за гаспадаром.

У **Патапчука Сцяпана Рыгоравіча** (1899–1982) і **Наталлі Арцёмаўны Піскун** (1898–1987) было пяцёра дзяцей. Старэйшы – Рыгор Сцяпанавіч Патапчук (1918/19–1944) – загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны пры вызваленні Польшчы. Ён быў жанаты з Марыяй Фёдараўнай (1922 г.н.). Іх сын памёр у трохгадовым узросце.

**Патапчук Іосіф Сцяпанавіч** (1920–1975), бацька Яўгеніі Янішчыц, таксама ваяваў. Першая жонка Іосіфа Патапчука, Марыя Макараўна, выйшла замуж і перайшла на прозвішча Міхалевіч. Іх сын Пётр працаваў ў сяле Кыштоўка Навасібірскай вобласці. (Пасля заканчэння школы Пётр разам з Міхаілам, зводным братам, паехаў на цаліну, затым – адзін у Цалінаградскую вобласць Казахскай ССР (зараз Рэспубліка Казахстан), пасля ў сяло Кыштоўка. Пасля шлюбу з Пелагеяй Іванаўнай Рагавенка (1939 г.н.) жыў у сяле Новаміхайлаўка Татарскага раёна Навасібірскай вобласці. У іх нарадзілася двое дзяцей: Аляксандр (1962 г.н.) і Ларыса (1971 г.н.). Пётр трагічна загінуў у 1979 г.: быў забіты, абставіны трагедыі так і не высветліліся. Яму было 35 гадоў. Пелагея Іванаўна і яе сын Аляксандр жывуць у Навасібірскай вобласці, а дачка Ларыса – у Цюмені. З вялікай цеплынёю яны ўспамінаюць бацьку і мужа Пятра Іосіфавіча Патапчука, а таксама дзеда і свёкра Іосіфа Сцяпанавіча Патапчука.

У Іосіфа Сцяпанавіча была сястра Ксенія (1925–1994). Ад першага мужа, паляка, яна мела дачку Веру. Другі муж – Водчыц Аляксандр Герасімавіч (1929–1990). У іх нарадзілася двое дзяцей: Марыя (1955–1995) і Сцяпан (1956 г. н.). Сцяпан жыве ў Пінску.

Брат Іосіфа Сцяпанавіча Васіль (1927–1995) узяў шлюб з Марыяй Феадосьеўнай Манько (1927–2004). У іх тры сыны: Рыгор (1952 г.н.) – жыве ў г. Пінску Брэсцкай вобласці, Васіль (1954 г. н.) – жыве ў г. Століне Брэсцкай вобласці, Юрый (1963 г. н.) – жыве ў г. п. Лагішын Пінскага раёна Брэсцкай вобласці.

Малодшы брат Іосіфа Сцяпанавіча Дзмітрый (1929–2005) ажаніўся з Вольгай Лявонцьеўнай Відзяйла. У іх двое дзяцей: Раіса (1956 г.н.), зараз носіць прозвішча Баран, і Аляксандр (1958 г.н.), абодва жывуць у Пінску.

Цётка Я.Янішчыц Ксенія працавала ў калгасе, дзядзька Васіль – у лягсасе, Дзмітрый – шафёрам. Такім чынам, радня Яўгеніі Янішчыц і па бацькавай лініі вялікая.

---

*[1]Рэвізскія казкі – імянныя спіскі насельніцтва Расіі XVIII – 1-й паловы XIX ст., якія складаліся ў час рэвізій. У рэвізскіх казках указваліся імя, імя па бацьку і прозвішча (пры яго наяўнасці) уладальніка двара, яго ўзрост, імя і імя па бацьку членаў сям'і, узрост, адносіны да гаспадара сям'і. У рэвізскія казкі (апрача 1, 2 і 6-й рэвізій) уключаліся асобы мужчынскага і жаночага полу, але ў зводных табліцах жанчыны ніколі не ўключаліся. У гарадах рэвізскія казкі складаліся прадстаўнікамі гарадскога кіравання, у сёлах – старастамі, у прыватных гаспадарках – памешчыкамі або кіраўнікамі спраў. Паміж рэвізіямі рэвізскія казкі ўдакладняліся. Праводзілася фіксацыя наяўнасці ці адсутнасці асобы на момант уліку, адзначалася прычына (памёр, збег, адселены, у салдатах і г.д.). Усе ўдакладненні ў рэвізскіх казках адносіліся да наступнага года, таму кожная рэвізская душа лічылася наяўнай да наступнай рэвізіі, нават у выніку смерці чалавека, што дазваляла дзяржаве, з аднаго боку,*

*павышаць збор падушнага падатку, а з другога – стварала ўмовы для злоўжыванняў (гэты факт адлюстраваны М.В. Гогалем у «Мёртвых душах»). Сёння матэрыялы рэвізскіх казак з'яўляюцца адной з крыніц генеалагічных даследаванняў.*

*[2]Поўная яе назва «Ревизская сказка Тысяча Восимсотъ восьмого года февраля пятнадцатого дня Минской Губернии Пинского уезда Имения Поржеча, Камеръ Юнкера Двора Его Императорского Величества бывшего Пинского Уездного Предводителя Дворянства Помещика Александра Семенова Скирмунта о состоящих мужеского и женского пола Крестьянах».*

*[3]Тут і далей імёны падаюцца ў адпаведнасці з іх запісам у рэвізскіх казках і кнігах споведзяў.*

*[4]Скирмунт (Скирмунтт) Аляксандр Изидор (1798–1870) // Белорусские имена в истории развития техники [Электронный ресурс]. – URL: http://rntbcat.org.by/belnames/F_HTM/Skirmunt.HTML (дата обращения: 23.02.2016).*

*[5]Значение и история фамилии Чугай [Электронный ресурс]. – URL: http//www.onomastikon.ru/proishogdenie-familii-chugaiy.htm (дата обращения: 23.02.2016).*

*[6]Кафтан і каптан – даўнейшае двухбортнае мужчынскае і жаночае верхняе адзенне з доўгімі поламі і падоўжанымі рукавамі.*

*Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі. У 4 т. Т.1 / уклад. С.У. Калядка, Т.П. Аўсяннікава ; рэд. тома Л.Г. Кісялёва. – Мінск : Беларуская навука, 2016. – 599 с. – С. 520 – 527.*

## ЗМЕСТ

*Навукова-папулярнае выданне*

**Аўсяннікава** Тамара Пятроўна

ДЗВЕ ПОСТАЦІ:
*Ніл Гілевіч, Яўгенія Янішчыц*

*Мастак Базыль Камароў*

Адказны за выпуск *Віктар Хурсік*
Карэктар *Лілія Давыдзенка*

Падпісана ў друк 17.02.2021. Фармат 84x108$^{1/32}$.
Лічбавы друк. Гарнітура Minion Pro.
Ул.-выд. арк. 5,0. Ум. друк.арк. 11,2.
Наклад 35 паасобнікаў. Замова

Выдавец Віктар Хурсік.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцыі распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№1/217 ад 11.03.2014.
Прасп. газ. «Звязда», 57-31. 220117. Мінск.
Тэл. +375293818424. E-mail: Xypcik@gmail.com

Надрукавана з арыгінал-макета выдаўца ў друкарні
ЗАТ «Аргбуд».
Вул. Берасцянская, 16. 220034. Мінск.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцыі распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№2/182 от 15.02.2016.

+12